ISSN 2617-2305

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

№ 2 – 2018

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

**КІМ ФІЛБІ: БЕЛАРУСКІ СЛЕД**
ФІЛБІ КААРДЫНАВАЎ АНГЛА-АМЕРЫКАНСКІЯ АПЕРАЦЫІ СУПРАЦЬ СССР, І ГЭТА ЁН ПРАВАЛІЎ МНОГІЯ АНТЫСАВЕЦКІЯ ПРАЕКТЫ — АД АЛБАНІІ ДА БЕЛАРУСІ



З ГУЛАГА — НА РЭЙХСТАГ
ГЕНЕРАЛ МІХАІЛ БУКШТЫНОВІЧ



ВАЙНА ПАСЛЯ ВАЙНЫ
АНТЫСАВЕЦКІЯ ПАДПОЛЬШЧЫКІ Ў ПАСЛЯВАЕННАЙ БЕЛАРУСІ

АРТЫЛЕРЫЯ НЯСВІЖСКАГА ЗАМКА



БЕЛАРУСКІМ СЦЯГАМ МОГ СТАЦЬ ТРЫКАЛОР

# КАЛІНОЎСКІ
## САПРАЎДНЫ



**1863**
«ЗАБІЦЬ МУРАЎЁВА»
УРУБЛЕЎСКІ
ЖАНЧЫНЫ
ДЗЁННІК 14-ГАДОВАГА ПАЎСТАНЦА

ЯК СІРАТА РЫГОР МАЗАЛЕЎСКІ СТАЎ САМЫМ БАГАТЫМ СЕЛЯНІНАМ ГРОДЗЕНСКАЙ ГУБЕРНІ

СЛАЎНАЕ МІНУЛАЕ БЕЛАРУСКАГА СЫРУ

ПРАВЕРЦЕ, ЯК БЫ ВЫ ЗДАЛІ ЦТ ПА ГІСТОРЫІ

16+

Наша Гісторыя
2/2018
www.nn.by

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар** Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснік галоўнага рэдактара** Аляксандр Пашкевіч

**Дызайн і вёрстка** Уладзя Бурымская

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на два месяцы.



Пры падрыхтоўцы першай старонкі вокладкі выкарыстаны фотаздымак Кастуся Каліноўскага (аўтар — Ахіл Банольдзі). Рэдакцыя дзякуе Язэпу Янушкевічу за доступ да якаснай копіі гэтага фотаздымка.

**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 10.09.2018.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова № 0767/18.
Наклад 10 500 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014 да 9.03.2019.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

# А ці быў сэнс у тым паўстанні?

Гэты нумар «Нашай гісторыі» прысвечаны паўстанню 1863–1864 гадоў і Кастусю Каліноўскаму — унікальнай постаці ў гісторыі. Чалавек рэдкай харызмы, выключнага таленту і, да таго ж, неаспрэчны герой (глядзіце **старонкі 4–8**). Але ці апраўданыя былі ахвяры?

Давайце ўявім, што паўстанняў не было. Што ў 1794 жыхары Беларусі не падтрымалі Касцюшку, у 1812 не ўвайшлі з Напалеонам у Маскву, не паўставалі ў лістападзе 1830-га, не ішлі за Каліноўскім у 1863-м. А між 1812-м і 1830-м — не заснавалі філаматаў і філарэтаў, між 1830-м і 1863-м — гурткі 1840-х.

Не было пяці вялікіх выступленняў за семдзесят гадоў. Не было сямі «зачыстак» цягам жыцця трох пакаленняў. Не было гэтай невядомай вайны.

Ціха і гладка прайшло б XIX стагоддзе, і што б мы мелі ў выніку?

Пасля кожнага паўстання была рэакцыя. На ўзроўні прыватнага чалавечага жыцця гэта былі зняволенні, высылкі, канфіскацыя маёмасці, эміграцыя. У маштабах краю пачынаўся новы віток русіфікацыі ды атамізацыі.

У 1839-м Беларусь страціла ўніяцкую царкву, якая магла аб'яднаць увесь народ; у 1840 — свой звычай і закон: было спынена дзеянне Статута ВКЛ; у 1863 — нават назву: замест «Літвы» або «Беларусі» пачаў татальна ўжывацца «Паўночна-Заходні край».

Засталася адна беларуская мова, дый на ёй забаронена было выдаваць кнігі.

Лаяльнасць да ўлады зберагла б жыццё тысячам патрыётаў, сярод якіх знайшліся б і асветнікі, і навукоўцы, і паэты. Але ж уся Еўропа бушавала ў XIX стагоддзі, ламаючы старыя феадальныя парадкі. І — калі б не тыя паўстанні — ці мелі б мы Беларусь у сённяшнім выглядзе?

Беларусы паўставалі разам з палякамі. Ці дазволіў бы расійскі царызм ад 1869 друкаваць этнаграфічныя зборнікі «на белорусском наречіи», каб не было патрэбы аслабіць польскі рух на гэтых тэрыторыях? Ці глядзеў бы ён скрозь пальцы на навуковую дзейнасць Кіркора, Карскага, «краёўцаў»?

Канечне, гаварыць пра штучнае стварэнне беларусаў міласцю цара-бацюхны не выпадае. Расійская адміністрацыя, умоўна кажучы, высякала высокія дрэвы і не звярнула ўвагі на падлесак, які хаваўся ў іх цяні. Думала, ссохне сам і поле можна будзе засеяць чым захочаш. Але не ўлічыла сілы падземных каранёў. ▶

Працяг на старонцы 13.


24


КГБ СССР
КОМИТЕТ ГОСУДАРСТВЕННОЙ БЕЗОПАСНОСТИ СССР
УДОСТОВЕРЕНИЕ
36


28


32


62


90


70


76


84


66
Местечковая еврейская беднота вовлечена в сельское хозяйство, участвует в колхозном строительстве.




94
Ваша каралеўская мосць...
Давай без фармальнасцей.

## Чалавек рэдкай харызмы, выключнага таленту і неаспрэчны герой

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

**Постаць Кастуся Каліноўскага, з аднаго боку, у Беларусі агульнавядомая, з другога ж — ахутаная таямніцамі. Сваё бачанне гэтай неардынарнай і амаль легендарнай асобы дае гродзенскі гісторык Васіль Герасімчык.**

На Замкавай гары ў Вільні ўжо знойдзеныя парэшткі 20-ці з 21 паўстанца, пакараных падчас паўстання 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве. Вялікая імавернасць, што сярод іх ёсць і лідар таго паўстання, асоба якога мае асаблівае значэнне для нашага народа. Магчыма, ён нават той, каго выявілі самым першым яшчэ ў 2017 годзе, з медальёнам-абразком Маці Божай Вастрабрамскай на грудзях.

### Восьмы з адзінаццаці дзяцей

У прадпрымальніка, уладальніка ткацкай фабрыкі і арандатара маёнтка Мастаўляны (сёння вёска на мяжы Беларусі і Польшчы) Сымона Каліноўскага і ягонай жонкі Веранікі, маладзейшай за мужа на 11 гадоў, 21 студзеня (2 лютага па новым стылі) 1838 года нарадзілася восьмае дзіця. У адпаведнасці з традыцыяй па дні нараджэння яго назвалі Вінцэнтам. Аднак бацькі пажадалі даць немаўляці

і другое імя, якое б выкарыстоўвалася ў сям'і, — Канстанцін. Назвалі яго так у гонар Канстанціна Крукоўскага, сына святара Мастаўлянскай уніяцкай царквы Сымона Крукоўскага, з якім сябравалі Каліноўскія. І гэта нездарма, бо тры старэйшыя сыны (Стэфан-Юзаф, Норберт і Фелікс-Ян) Сымона і Веранікі былі ахрышчаныя менавіта ў мастаўлянскай уніяцкай царкве. Таксама Сымон Крукоўскі прысутнічаў ужо ў касцёле пры хрышчэнні яшчэ аднаго іх сына — Віктара-Атона Каліноўскага, які памёр ад сухотаў за пару месяцаў да паўстання.

## У бацькі Каліноўскага было 11 дзяцей ад першай жонкі і 14 — ад другой

Цяжкім выпрабаваннем для пяцігадовага хлопчыка стала заўчасная смерць маці. Пасля чарговых родаў, адзінаццатых за два дзесяцігоддзі, Вераніка, маючы ўсяго 37 гадоў, памерла. Праз 15 месяцаў пасля таго ў Сымона Каліноўскага нарадзілася дачка ўжо ад другой жонкі, маладзейшай за яго на 25 гадоў Ізабэлы Лазарэвіч. Нашчадкі той дачкі і сёння жывуць у Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці.

### Пад уплывам брата

Кастусь Каліноўскі скончыў у 1852 годзе Свіслацкую гімназію. Далей тры гады ён правёў у маёнтку Якушоўка, які бацька набыў за 5 000 рублёў напалам з жонкай. Гэты час, у які Кастусь займаўся сямейнымі гаспадарчымі справамі, вандруючы разам з Сымонам Каліноўскім па Гродзенскай і Віленскай губернях, скончыўся нечакана. Пасля Калядаў 1855 года, пасварыўшыся з мачыхай, якая напярэдадні страціла шостае з дзевяці народжаных ёю дзяцей, Кастусь ад'язджае да старэйшага брата Віктара ў Маскву, каб рыхтавацца да паступлення ва ўніверсітэт. Гэта быў паваротны момант у жыцці юнака.

Брат Віктар, які ў той час кінуў навучанне на лекара і засяродзіў увагу на пошуках дакументаў па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, даследаванні межаў распаўсюджвання «крывіцкай (беларускай) мовы» і сялянскіх ды казацкіх выступленняў ва Украіне, быў адным з заснавальнікаў зямляцтва «Огул» у Маскоўскім універсітэце, удзельнікам разнастайных таемных суполак — ад студэнцкіх гурткоў да масонаў. Шлях у гэтыя таварыствы стаў адкрыты і для Кастуся.

Пасля паўгадавой падрыхтоўкі пад наглядам старэйшага брата Кастусь паступіў ва ўніверсітэт, але не Маскоўскі, а Пецярбургскі. У сталіцу імперыі браты Каліноўскія пераехалі па патрэбах Віктара, які выконваў працу для Віленскай археалагічнай камісіі. Пасля прыходу да ўлады новага імператара Аляксандра II у Расійскай імперыі пачалася адліга: са ссылкі вярталіся дзекабрысты, удзельнікі паўстання 1830—1831 гадоў, а таксама сябры разнастайных таемных таварыстваў, выкрытых жандарамі.

Першыя гады Кастусь Каліноўскі вучыўся дрэнна з-за таго, што ўвесь вольны час шукаў сродкі для існавання. Нават па земляробстве і гісторыі на трэцім курсе ў яго былі тройкі. Аднак універсітэт у выніку ён скончыў у 1861 годзе выдатнікам, абараніўшы дысертацыю і атрымаўшы ступень кандыдата. Ягоная кандыдацкая праца, праўда, да гэтага часу не выяўленая.



**Медальён з выявай Маці Божай Вастрабрамскай,** знойдзены на адным з паўстанцаў на Замкавай гары ў Вільні.

### Рэпетытар, пісарчук, следчы

Кастусь Каліноўскі ў гады навучання ва ўніверсітэце быў вядомы як «добры выкладчык урокаў». І надалей, па вяртанні на Радзіму, маючы выдатную адукацыю і сам будучы добрым настаўнікам, ён заўсёды меў магчымасць падпрацаваць. Дапамагаў ён і брату Віктару ў ягоных генеалагічных і гістарычных росшуках.

Пасля IV курса ўніверсітэта Кастусь паспрабаваў уладкавацца на працу ў адну са сталічных вайскова-навучальных устаноў, але спроба скончылася няўдачай. Не было вакансій і ў канцылярыі віленскага генерал-губернатара Уладзіміра Назімава. Увогуле, замацавацца на дзяржаўнай службе ў Каліноўскага не атрымалася. Спачатку ён хацеў стаць пісарчуком у адной з вёсак Гродзеншчыны, затым прыкладаў намаганні зрабіцца следчым у губернскім Гродне. Але ўсё беспаспяхова.

## Каліноўскі спрабаваў уладкавацца на працу следчым у Гродне, але яго не ўзялі

У 1861—1862 гадах Кастусь Каліноўскі стварыў таемную Гродзенскую рэвалюцыйную арганізацыю, а таксама паўгода правёў у вандроўках па Гродзеншчыне. У выніку гэтага ён атрымаў выдатную фізічную падрыхтоўку і веды, якія выкарыстаў пры працы над «Мужыцкай праўдай».

### Дасканалы канспіратар

Паплечнікі апісвалі яго як «росту сярэдняга, бландзіна», што меў «вялікі твар і даволі буйныя рысы». Адзінай адметнасцю Кастуся, якая вылучала яго сярод іншых, была вялікая галава. Так, удзельніца паўстання Стэфанія ▶

▶ Фальская апісвала Каліноўскага наступным чынам: «Росту сярэдняга, гадоў каля трыццаці, валасы цёмна-русыя, галава і твар вялікія, рысы твару буйныя, колер твару цёмны». Пацвярджаў гэта і паўстанец Ежы Ігнацы Кучэўскі-Порай: «Росту сярэдняга, зусім круглая галава, надзвычай шырокі рот».

# Студэнтам Каліноўскі пратэставаў супраць афіцыйных парадкаў нават выглядам: замест гальштука насіў на шыі ручнік

У лістападзе 1863 года сярод жандараў распаўсюджвалася наступнае апісанне Каліноўскага: «Каля 30 гадоў, росту сярэдняга, шчыльнага складу, цёмна-русы, твар вялікі, рысы грубаватыя». Пры ўсім гэтым схоплены ён быў толькі ў выніку здрады і апісаны як чалавек «гадоў дваццаці шасці, моцнага складу і з тварам жорсткім і выразным, кароткія русыя валасы былі зачасаныя назад». Менавіта такім Каліноўскі выяўлены на фотаздымках, зробленых у майстэрні ягонага сябра і ўдзельніка паўстання Ахіла Банольдзі.

Аднак такім Кастусь быў не заўсёды. Падчас навучання ва ўніверсітэце ён, пратэстуючы супраць афіцыйных парадкаў, вылучаўся не толькі крайнімі поглядамі, але і знешнім выглядам: пэўны час хадзіў у падраным сурдуце і ботах, а замест гальштука насіў на шыі ручнік.

Пасля вяртання на Гарадзеншчыну Каліноўскі разам з сябрам Феліксам Ражанскім апранае сялянскі кажух і выпраўляецца ў падарожжа па вёсках пад імем Васіль Світка. Ён умела выкарыстоўваў асаблівасці ўласнай знешнасці, у тым ліку магчымасць хутка адгадаваць бараду і вусы. Нездарма яго не змаглі знайсці, нават маючы апісанне пасля раскідвання «Мужыцкай праўды» ў Слонімскім павеце восенню 1862 года: «У авечым кажуху з каўняром ад адной доўгай скуры чорнага баранчыка, на галаве фуражка з зоркаю цывільнага ведамства, на выгляд гадоў 36-ці, сярэдняга росту, брунет з чорнымі вусамі».

Падчас падарожжа ў Мастаўлянскі лагер у маі 1863 года Кастусь Каліноўскі, які ў той час кіраваў паўстанцкім Гродзенскім ваяводствам, некалькі разоў мяняў вопратку, выкарыстоўваючы ў тым ліку адзенне царскіх служачых. Такія канспіратыўныя метады давалі плён і дазвалялі яму спакойна знаходзіцца ў Вільні ў адной кавярні разам з расійскімі жандарамі, якія мелі арыенціроўкі на яго, але не маглі па іх уцяміць, што побач з імі «дыктатар паўстання ў Беларусі і Літве».

### Фанат новых тэхналогій

Свядомасць Кастуся Каліноўскага гартавалася ў перыяд прамысловага перавароту з яго варштатамі і паравымі машынамі на прадпрыемствах, новымі галінамі прамысловасці, навуковымі вынаходніцтвамі кшталту фатаграфіі, тэлеграфа або чыгункі, якія перасталі быць здабыткам эліты і знаходзілі адлюстраванне ў жыцці вялізнай колькасці людзей. Ён разумеў значэнне тэхналогій, у першую чаргу для ўзбраення, выбіваючы сродкі для закупкі новых відаў стрэльбаў з наразнымі стваламі ў бельгійскім Льежы.

Пазнаёміўшыся з чыгункай падчас вандроўкі з Масквы ў Пецярбург летам 1856 года, ён зразумеў яе значэнне ў будучым паўстанні. Таксама як і тэлеграфа, бо пастаянна патрабаваў ад кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў знішчэння тэлеграфных слупоў.

Ён надаваў вялікае, паводле выразу аднаго з паплечнікаў, нават магічнае, значэнне друкаванаму слову. Таму нездарма нават на хвалі паразаў паўстання ў жніўні 1863 года ён накіраваў адзін з друкарскіх варштатаў сябрам з «Зямлі і волі» ў Пецярбург.

### Якія мовы ведаў Каліноўскі?

У сям'і Сымона Каліноўскага ў Мастаўлянах і Якушоўцы панавала польская культура. Але ў сям'і арандатара і ўладальніка фабрыкі, на якой працавалі вольнанаёмныя сяляне, было месца і беларускай мове. Яе Кастусь Каліноўскі засвоіў дасканала, асабліва таму, што, не любячы мачыхі, бавіў шмат часу з сялянскімі дзецьмі. У далейшым яго веды ўмацаваліся падчас вандровак па Гродзеншчыне ў 1861—1862 гадах. Як Каліноўскі ўспрымаў беларускую мову, сведчыць тое, што ягоныя пасмяротныя «Лісты з-пад шыбеніцы» напісаныя менавіта па-беларуску да «мужыкоў Беларусаў».

У той жа час яшчэ ў Свіслацкай гімназіі Кастусь Каліноўскі атрымаў


дания съ Калиновскимъ въ квартиру [illegible]
я воспользовался даннымъ въ [illegible] Жуков-
скимъ адресомъ къ госпожѣ Баневичъ /Улица Доми-
никанская, въ Доминиканскомъ [illegible], надъ [illegible] Савиц-
каго/. - Пришедъ въ ея квартиру, я засталъ Баневич-
дама и сказалъ лозунгъ "кого любишь", на что она
должна была отвѣчать "люблю Бѣларусь" и
наконецъ я обязанъ былъ добавить "такъ взаимно",
но она воспользовалась [illegible] моей
фамиліи, по которой будто бы опять былъ Далевскій,
котораго она называла Титусомъ и сколько я
могъ замѣтить знала хорошо, неотвѣчала

**Згадка пароля «Люблю Беларусь!»** у паказаннях Вітольда Парфіяновіча.



**Пётра Сергіевіч.** «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 года».

веды па рускай, лацінскай, нямецкай і французскай мовах. Гэтыя мовы былі прадстаўленыя і ў бібліятэцы ягонага брата Віктара, у дадатак да твораў на польскай і старабеларускай.

Рускай мовай, у адрозненне ад шэрагу сваіх паплечнікаў, Кастусь Каліноўскі валодаў дасканала, пра што сведчаць ягоныя паказанні следчай камісіі ў студзені—сакавіку 1864 года. У адрозненне ад свайго бацькі, які адказваў на пытанні следчых па-польску, Кастусь Каліноўскі рабіў гэта па-руску. Да таго ж менавіта рэпетытарам рускай мовы ён працаваў у Вільні падчас паўстання ў 1863 годзе, навучаючы нават сыноў памерлага паэта Уладзіслава Сыракомлі.

## Вораг панам, вораг Маскве

5 кастрычніка 1859 года Кастусь Каліноўскі мог памерці пасля асабліва моцнага прыступу падучкі (эпілепсіі). Але дзякуючы дапамозе загадчыка Пецярбургскай дыягнастычнай клінікі Мікалая Здэкаўэра ён не толькі выжыў, але і вылечыўся.

У гады навучання ва ўніверсітэце Кастусь уваходзіў у разнастайныя таемныя таварыствы, але, у адрозненне ад сваіх паплечнікаў, так і не трапіў у поле зроку жандараў. Толькі восенню 1862 года ўлады выйшлі на ягоны след. У лістападзе ён наведаў сям'ю ў Якушоўцы, але, не зважаючы на ўгаворы бацькі, затрымаўся там толькі на дзень. У выніку гэта ўратавала яго ад арышту. Сымон Каліноўскі сведчыў: «За ім па пятах ехалі, аднак яны былі на гэтым баку Нёмана, а Канстанцін як дабраўся да Гродна, дык ужо не маглі знайсці».

**У яго надзвычай хутка расла барада. Дзякуючы гэтаму, ён часта мяняў выгляд і мог сядзець у адной кавярні разам з расійскімі жандарамі, якія мелі арыенціроўкі на «дыктатара Беларусі і Літвы»**

22 студзеня 1863 года ў Польшчы пачалося паўстанне, якое, па словах самога Каліноўскага, «заспела Літву зусім непадрыхтаванаю». Каліноўскі 1 лютага ўзначаліў «Часовы правінцыйны ўрад у Літве і Беларусі», які зрабіў стаўку на ўцягванне сялян у паўстанцкія шэрагі. Але яго палітычныя праціўнікі 11 сакавіка здзейснілі пераварот, пасля якога Каліноўскага адхілілі ▶

58

Braty maje, mużyki rodnyje.
I pad szubienicy maskouskoj
pryjchodzić mnie da was pisaci,
i może raz astatni. Horko
pakinuć ziemielku radnuju
i Ciebie, darahi moj narodzie.
Hrudzi zastohnuć, zabolić
serce, — no nie żal zhinuć za
twaju praudu. —
Pryjmi narodzie pa szczyraści
maje słowo predśmiert-
noje, bo jeno jak z taho świeta
tolko dla twaho dabra
napisano. — Bratkiż
Niemasz bolszaho szcza-
ścia na hetom świeci, jak kali

**Аўтограф «Ліста з-пад шыбеніцы»** Кастуся Каліноўскага, напісаны па-беларуску лацінскімі літарамі.

ад улады. Ён сам ахарактарызаваў гэта як контррэвалюцыю і ў пісьмовым пратэсце склаў з сябе «ўсякую адказнасць перад будучыняй за ўсе памылкі і за ўсе страты і няшчасці».

Увесь 1863 год яго беспаспяхова намагаліся схапіць жандары, у той час як ён быў у іх пад самым носам і перамяшчаўся па чыгунцы. У адну марозную лістападаўскую ноч на канспіратыўную кватэру, дзе Каліноўскі начаваў, усё ж уварвалася паліцыя. Кастусь выбраўся праз акно ў адной бялізне і ўвесь час, пакуль доўжыўся ператрус, прабыў на даху. Сястра яго нарачонай Марысі Ямант Людвіка Радзевіч успамінала: «Толькі такая маральная і фізічная сіла, як у яго, здолела вытрымаць гэтае страшэннае выпрабаванне». У лісце да свайго сябрука Баляслава Длускага сам Каліноўскі пісаў: «Не гляджу ні на што, то праз акно на дах, то іншымі спосабамі заўсёды шчасліва выслізгваю з іх рук. Бог за мяне заступаецца, а калі прыйдзецца павіснуць, то хай гэта будзе на радасць усім літоўскім панам і прасветлай Маскве».

### Ігнат Вітажэнец ад эміграцыі адмовіўся

Некалькі разоў Кастусю Каліноўскаму прапаноўвалі выехаць на эміграцыю па падробленых пашпартах. Але ён кожны раз адмаўляўся, пакуль, нарэшце, не быў схоплены пры канцы студзеня 1864 года ў Святаянскіх мурах Вільні са свечкай у руках. У той час ён жыў пад імем Ігната Вітажэнца, які «займаўся распрацоўкай матэрыялаў гістарычных характараў славянскіх народнасцяў». Яму здрадзіў Вітольд Парфіяновіч, які на тых жа старонках, на якіх выдаў месцазнаходжанне Каліноўскага, занатаваў адзін з паўстанцкіх пароляў: «— Каго любіш? — Люблю Беларусь! — Дык узаемна!».

Кастусь Каліноўскі загінуў 22 сакавіка 1864 года на Лукішскай плошчы ў Вільні з клічам на вуснах: «У нас няма дваран, усе роўныя». У адной з «Запісак», адрасаваных расійскаму ўраду, ён адзначаў: «Я не праціўнік шчасця народнага, не праціўнік і Расіі, калі яна дабра нам жадае, але праціўнік тых бедстваў, якія пасягаюць наш край няшчасны». У той жа час ён пакідаў за сабой права «цешыць сябе надзеяй, што адновіцца народнае дабро. Дай Бог толькі, каб для дасягнення гэтага нашчадкі нашыя не пralівалі лішняй братняй крыві». Адначасова ў звароце да ўласнага народа ён, расчараваўшыся ў «маскоўскім народзе», у якім, на яго думку, пад ціскам шматвекавога мангола-татарскага ярма і царскага прыгнёту ўкаранілася няволя, пакінуў наступныя словы: «Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе». Гэтыя словы сталі дэвізам для пакаленняў змагароў за незалежнасць Беларусі. ◆

На фота — **сям'я Здановічаў:прафесар Віленскага ўніверсітэта, гісторык Аляксандр Здановіч і яго сын Ігнацій з жонкай,** 1863 год. Ігнацію застаецца жыць менш за год: у жніўні ён стане паўстанцкім начальнікам Вільні, а ў снежні яго павесяць.
Прафесар Здановіч памёр у турме.



«ПАЎСТАННЕ 1863–1864 ГГ.: ВЯДОМЫЯ І НЕВЯДОМЫЯ КРЫНІЦЫ БЕЛАРУСКІХ АРХІВАЎ»

**Брукаванка ў Мастаўлянах,**
дзе вырас Кастусь Каліноўскі.

ФОТА ВАСІЛЯ ГЕРАСІМЧЫКА

# ЗАГАДКА БАЦЬКІ КАЛІНОЎСКАГА

**Маці Каліноўскага Вераніка Рыбінская памерла, калі Кастусю было пяць гадоў, пра яе вядома мала. Бацька ж, Сымон Каліноўскі (1795–1871), пражыў доўга і перажыў свайго славутага сына. Піша кандыдат гістарычных навук Андрэй Кіштымаў.**

> **«Яго бацька быў бядняк», але купіў 200 гектараў**

### «Вёў цяжкую барацьбу за існаванне»: як Каліноўскаму стваралі біяграфію

У савецкія часы простае паходжанне было калі не абавязковым, то вельмі пажаданым пунктам у біяграфіі барацьбіта за народную справу. І калі камуністычныя ідэолагі ўключылі Каліноўскага ў пантэон нароўні з савецкімі героямі, яму паспрабавалі стварыць і адпаведную афіцыйную біяграфію.

Акадэмік Уладзімір Перцаў у артыкуле 1945 года ахарактарызаваў дзяцінства Кастуся вельмі маляўніча, але далёка ад рэальнасці: «Бацька яго быў шляхціцам без маёнтка. Фармальна ён, як і значная частка шляхціцаў, быў залічаны да дваранскага саслоўя, на справе ж гэта быў бядняк, які ўсё сваё жыццё вёў цяжкую барацьбу за існаванне. Адзін час ён быў дробным чыноўнікам, але за нядобранадзейнасць яго зволілі са службы. Тады ён паступіў за прыказчыка ў невялікую ткацкую майстэрню на дваццаць станкоў у мястэчку Свіслач. Ранняя біяграфія самога Кастуся мала вядома. Ва ўсякім выпадку ў абстаноўцы, якая акружала яго маленства, не было нічога “дваранскага”. Ён жыў сярод дзяцей сялян і рамеснікаў і пазнаў з ранніх гадоў увесь цяжар і знявагі працоўнага жыцця».

З часам на змену прыходзілі больш узважаныя ацэнкі і, галоўнае, больш блізкія да праўды. Прытым эвалюцыю ацэнак можна прасачыць нават па выданнях аднаго аўтара. Калі ў кнізе «Кастусь Каліноўскі» (Масква, 1959) вядомы даследчык Анатоль Смірноў сцвярджаў, што «па сваім маёмасным становішчы вялікая сям’я Каліноўскіх (Кастусь меў сямнаццаць братоў і сясцёр) мала чым рознілася ад сем’яў навакольных сялян і рамеснікаў», то ўжо праз чатыры гады ў мінскім, пашыраным, выданні пад той жа назвай ён прадставіў сям’ю Каліноўскіх як

«дробнамаянтковую шляхту». Тут жа чытаем, што Сымон Каліноўскі з'яўляўся ўладальнікам «ільнянога прадпрыемства» і «хутара Якушоўка, за якім значылася 200 дзесяцін зямлі».

Нават у гэтым даволі ўзважаным выказванні ёсць падтасоўка фактаў: маёнткі ад 100 да 500 дзесяцін прынята адносіць не да дробных, а да сярэдніх,

Мастаўлянская фабрыка, праўда без згадкі ўладальніка, трапіла на старонкі «Очерка мануфактурно-промышленных сил Европейской России» (1853) — аднаго з першых даведнікаў па расійскіх прадпрыемствах. Аб'ём яе гадавой вытворчасці ацэньваўся ўжо ў 10 тысяч рублёў.

# Мастаўлянская палатняная фабрыка двараніна Сымона Каліноўскага запрацавала ў 1835 годзе

а маёнткі больш за 500 дзесяцін гісторыкі адназначна залічваюць да латыфундый. Сам Сымон Каліноўскі на допытах пасля арышту сына казаў пра наяўнасць у Якушоўцы 210 дзесяцін зямлі. Таму на дробны хутар Якушоўка відавочна не цягне.

Дык як усё было ў сапраўднасці?

## Паспяховы бізнэсмен

«Мастаўлянская палатняная фабрыка Гродзенскага павета двараніна Сымона Каліноўскага» запрацавала ў 1835 годзе (старэйшаму сыну Віктару тады было два гады, а да нараджэння Кастуся заставалася яшчэ тры). У 1840-м гэта былі ўжо 12 ткацкіх станаў, тканіну з якіх (у той год яе нарабілі на 2 693 рублі срэбрам, па тых часах гэта немалая сума) прадавалі на Гарадзеншчыне, Міншчыне, Віленшчыне, Берасцейшчыне і Беласточчыне. Прадпрыемства мела аднаго майстра і дваццаць вольнанаёмных работнікаў.

Вытворчасць развівалася, давала прыбытак, і можна было падумаць пра пашырэнне. Першапачаткова Сымон Каліноўскі меў намер перавесці фабрыку ў маёнтак Замэчак за 7 км ад Вільні, дзе знаходзіліся бялільныя ўстановы, з якімі ён супрацоўнічаў. Цяпер гэта азёрны віленскі раён Пілайцес, які пачынаецца за тэлевежай, а дакладней — адразу за беларускай гімназіяй імя Скарыны. Але ў рэшце рэшт Сымон Каліноўскі замест Вільні набыў участак у Ваўкавыскім павеце. Туды, у маёнтак Якушоўка, з дазволу імператара ён перанёс фабрыку, там выраслі і яго сыны.

## «Няма дваран, усе роўныя!» — татава выхаванне?

Ці дадаюць такія штрыхі бацькавай біяграфіі новыя фарбы да хрэстаматыйнага аблічча легендарнага паўстанца? Мы далёкія ад савецкай логікі тлумачэння паводзін людзей праз аналіз іх «класавага паходжання». Але парадокс гісторыі — услед за сынам і бацька мог бы паўтарыць: «У нас няма дваран, усе роўныя!» Прыналежнасць да новай усесаслоўнай катэгорыі дзелавых людзей — прадпрымальнікаў — давала яму такое права.

Дакументы сведчаць, што Сымон Каліноўскі быў зусім не бедным чалавекам, а Кастусь — не «сын ткача» (пісалі пра яго і такое!). Гэта быў чалавек новай эпохі, і адмена прыгоннага права ніяк не паўплывала на яго бізнэс (для ўладальнікаў прыгонных маёнткаў яна пагражала эканамічнай катастрофай). Каліноўскі даўно меў справу з наёмнымі рабочымі, а не прыгоннымі.

Імаверна, і ментальнасць Сымона Каліноўскага была ўжо ментальнасцю капіталіста. Гэта ў дваранскіх сем'ях дзеці традыцыйна былі на ўтрыманні ў бацькоў і гадамі чакалі спадчыны. Прадпрымальніцкая ментальнасць іншая: зарабіў я — зарабі і ты! Сваіх сыноў Віктара і Канстанціна Сымон выправіў на вольныя хлябы, прычым не на традыцыйную для дваран вайсковую службу, а ва ўніверсітэт. Праўда, можа, і не быў задаволены іхнім выбарам, бо факультэт сыны абралі юрыдычны, а не прыкладны, тэхнічны або прыродазнаўчы (напрыклад, фізіка-матэматычны факультэт скончыў у свой час у Вільні пачынальнік знакамітай ►






ФОТА ВАСІЛЯ ГЕРАСІМЧЫКА

Помнік у гонар Кастуся Каліноўскага **ў Мастаўлянах.**

▶ прадпрымальніцкай дынастыі Аляксандр Скірмунт). Ды яшчэ і ў бібліятэцы штаны праседжвалі, да чаго бацька-практык мог ставіцца не зусім ухвальна.

### Пытанні і загадкі

Пакуль што не зусім зразумела, што ўяўляла сабой Якушоўка. Колькі напраўду там было дзесяцін?

Колькі прыгонных купіў бацька будучага кіраўніка паўстання разам з Якушоўкай? Гэта ў Мастаўлянах Сымон Каліноўскі — арандатар, у якога магло і не быць прыгонных, а ў Якушоўцы ён уладальнік, і не толькі зямлі. Пад будынак фабрыкі ён купляў пару соцень гектараў, а яны не маглі быць пустымі і бязлюднымі.

## Бацька Каліноўскага быў больш прадпрымальнік, чым шляхціц



ФОТА І КАМЕНТАРЫЙ ВАСІЛЯ ГЕРАСІМЧЫКА

Рэканструкцыя сядзібы **Каліноўскіх у Якушоўцы.**

Сядзіба Каліноўскіх у Якушоўцы згарэла незадоўга да Першай сусветнай вайны. Яе падмуркі былі выяўленыя ў 1987 годзе. Археалагічныя даследаванні праводзіў Міхась Ткачоў. Сярод знойдзеных матэрыялаў — пячатка фабрыкі Сымона Каліноўскага. У пачатку 1990-х быў складзены праект аднаўлення сядзібы ў якасці музея. Але да сёння на гэтым месцы ўсталяваны толькі крыж і памятны знак. Побач старая ліпавая алея, якая, паводле легенды, пасаджаная асабіста Кастусём Каліноўскім.



VOLKOVYSK.BY

Мемарыяльны крыж **удзельнікам паўстання 1863–1864 гадоў у Якушоўцы.**

Пра фабрыку мы сёе-тое ведаем, але які даход прыносіла ўся маёмасць? Пакуль што не знойдзены тастамент Сымона Каліноўскага, і няма хоць бы якіх звестак пра тое, што засталося пасля яго смерці і як яно разышлося па спадкаемцах.

Няма ніякіх канкрэтных крыніц, каб разважаць і пра палітычныя погляды Сымона Каліноўскага. Спакуслівая версія, што перакананні бацькі неяк паўплывалі на пазіцыю і светапогляд сыноў, выглядае занадта смелай. Знешне Сымон Каліноўскі быў цалкам лаяльны да ўлады. Гэта быў моцны гаспадарнік, шматдзетны галава сям'і, які паслаў вучыцца сваіх сыноў у расійскія сталіцы. Аднак ягоная дзейнасць, прадпрымальніцкая актыўнасць, выдатныя поспехі даюць яснае ўяўленне пра ягоныя эканамічныя погляды і прыхільнасці. Перад намі — чалавек, які дамогся поспеху не дзякуючы тытулам, радавой спадчыне ці блізкасці да трона. Гэта прадукт новай эпохі і яе працэсаў, якія мы цяпер называем мадэрнізацыяй. Сымон Каліноўскі не ведаў гэтага тэрміна, аднак дзейнічаў у яго межах. Як, зрэшты, і ягоны сын, які абраў радыкальна-палітычны інструмент мадэрнізацыі.

Мы робім гістарычную памылку, калі прыпісваем паўстанням 1794, 1830 і 1863 гадоў выключна прагрэсіўную ролю. На самай справе гэта былі яшчэ і перадсмяротныя сутаргі шляхецкага саслоўя. Шляхта сыходзіла з гістарычнай сцэны. Сыходзіла яна разам з Рэччу Паспалітай, з яе межамі і яе ідэаламі шляхецкай (і толькі шляхецкай) вольнасці.

Лозунг Французскай рэвалюцыі «Мір хацінам, вайна палацам!» ніяк не мог трансфармавацца ў заклік «Мір вашаму дому». Таму зварот у «Мужыцкай праўдзе» Яські-гаспадара з-пад Вільні да «дзецюкоў» відавочна спазніўся. Цяпер дзецюкі выдавалі шляхціцаў-паўстанцаў царскім карнікам, а лагічным працягам гэтага сталі разгром і падпалы панскіх маёнткаў па ўсёй Расійскай імперыі ў найбліжэйшыя паўстагоддзя. Да гонару Каліноўскага, ён быў адным з нямногіх, хто прадбачыў і разумеў такі вынік. А ягонае легендарнае «У нас няма дваран, усе роўныя!» мае характар гістарычнага прароцтва. ◆

# А ці быў сэнс у тым паўстанні?

Працяг са старонкі 1.



▶ Усе паўстанні XIX стагоддзя выглядаюць інерцыяй Рэчы Паспалітай. Як у пачатку 1990-х сумавалі па СССР, так і беларуская шляхта спрабавала адрадзіць «залатую вольнасць», час якой беззваротна сышоў. Не было выключэннем і апошняе паўстанне — яно таксама рыхтавалася і кіравалася перадусім шляхтай. Шляхта стала яго асноўнай сацыяльнай базай, і ўдзельнікі яшчэ збольшага мроілі пра вяртанне Рэчы Паспалітай. Да канца не разумеючы, што імкнуцца сесці ў той цягнік, які даўно сышоў і вяртацца не збіраецца.

Што да сялянства, самай шматлікай часткі тагачаснага насельніцтва, то яно ў масе сваёй і гэтага паўстання не падтрымала. Прапанаваная ўладамі сініца ў руцэ яўна пераважыла ў іх вачах паўстанцкага жураўля ў небе. Але важна тое, што гэтым разам сярод кіраўніцтва паўстання былі ўплывовыя дзеячы, якія лічылі патрэбным звяртацца перадусім да сялянства, патэнцыйна бачачы ў ім ужо не дапаможную, а асноўную сілу. Кастусь Каліноўскі быў найбольш яскравай асобай, якая трымалася такіх поглядаў.

Таму паўстанне ў разуменні Каліноўскага было скіравана на развіццё, у будучыню. Сам Каліноўскі, сын паспяховага прадпрымальніка, выглядаў далёкім ад апетай Міцкевічам феадальна-засцянковай куртуазнасці. Згадайце ягонае «ў нас няма паноў, у нас усе роўныя». Ён імкнуўся праз «Мужыцкую праўду» загітаваць сялян як роўных сабе, а не павесці ў загадным парадку, як чатырыста гадоў вадзіў шляхціц сваіх халопаў у набег на суседа. І, што важна, яго пры гэтым не спынялі пярэчанні некаторых паплечнікаў, што сялянства на землях былога ВКЛ моўна і культурна няпольскае, што, адмаўляючыся ад апоры на шляхту, ён тым самым адштурхоўвае ад сябе адзіны сацыяльны элемент, які тут увасабляе польскасць.

За што Каліноўскага, гэтага Уільяма Уолеса нашай нацыянальнай міфалогіі, і сёння ненавідзяць тыя, хто не прымае факта існавання беларускай дзяржаўнасці? Адметна, што ні Касцюшка, ні Тамаш Зан, ні правадыры 1830-га не выклікаюць у іх ніякіх эмоцый.

Бо Каліноўскі ў «Мужыцкай праўдзе» на простых прыкладах паказаў, што насельнікі гэтай зямлі — не рускія і не палякі. Асобны народ. Праўда, паказаць ён гэта паказаў, а вось наўпрост, адназначна і адкрытым тэкстам сказаць гэта на ўвесь свет не паспеў. Не здолеў выразна сфармуляваць нацыянальнай ідэі, пакінуць пасля сябе нейкую тэарэтычную спадчыну, ад якой маглі б наўпрост адштурхоўвацца паслядоўнікі, у працэсе дапаўняючы і развіваючы ідэі «бацькі нацыі». Хоць яўна да гэтага ішоў. Калі б яго не забілі, ён, мусіць, тое сфармуляваў бы.

Гатоўнасць Кастуся Каліноўскага абапірацца не на шляхту, а на сялянства, штурхала яго на шлях выпрацоўкі беларускай нацыянальнай ідэі натуральна і абсалютна непазбежна. Бо сялянства на тэрыторыі Беларусі было спрэс беларускамоўнае, а таму праца сярод яго была магчымая толькі па-беларуску. Гэта ж, у сваю чаргу, выклікала б неабходнасць рупіцца пра развіццё літаратурнага стандарту мовы, клапаціцца пра стварэнне адпаведнай адукацыі — карацей, пра ўсё тое, на грунце чаго ўзрастае нацыянальнае ўсведамленне, якое пасля не спыніць, не стрымаць...

Галоўнае, што Каліноўскі быў такі не адзін. Калі б гэтых людзей тады не перавешалі адных і не рассеялі другіх па свеце рэакцыя, магчыма, беларуская ідэя крышталізавалася б раней на пакаленне — у адзін час з літоўскай ці славацкай. І тады б мы мелі ўжо зусім іншую гісторыю Беларусі і беларусаў. Больш за тое, нават іншую гісторыю ўсяго рэгіёна, паколькі наяўнасць тут вялікай масы нацыянальна неўсвядомленага насельніцтва прадвызначыла многія наступныя падзеі, што ў ім адбываліся. Бо надта вялікая была спакуса выкарыстаць гэта «нічыё» насельніцтва ў якасці этнічнага матэрыялу прыхільнікамі адразу некалькіх узаемна канкурэнтных нацыянальных праектаў.

Але ў выніку сталася інакш. Адмова Каліноўскага пасля паразы з'ехаць на эміграцыю і лісты з-пад шыбеніцы па-беларуску выглядаюць часткай асэнсаванай стратэгіі. Толькі ці была гэтая стратэгія правільнай? Так, пасля яго пакутніцкай смерці мужыцкі народ хоць і праз дзясяткі гадоў, але ўсё ж сфармуляваў уласны запыт на самастойнае быццё. Але калі б жывы Каліноўскі зрабіў гэта на тыя ж дзясяткі гадоў раней, ці не быў бы гістарычны лёс беларускага народа куды шчаслівейшы? ◆

**Аляксандр Пашкевіч,**
**Андрэй Скурко**

# Колер пратэсту чорны

## «Марыська чарнаброва, галубка мая» ды іншыя жанчыны паўстання 1863

МУЗЕЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ Ў ВАРШАВЕ

Францішак Стрэйт.
**«Жанчына ў жалобным уборы»**.

**Паўстанне, як і вайна, мужчынская справа. Доўгія гады ніхто не задумваўся, якой была роля жанчын. Іх удзел у падзеях 1860-х гадоў грунтоўна разглядзела кандыдат гістарычных навук Алена Сакольчык (Фірыновіч) у кнізе «Паўстанне 1863–1864 гг.: вядомыя і невядомыя крыніцы беларускіх архіваў». Прыводзім самыя цікавыя факты з даследавання.**

**«Літвінкі і русінкі» — так звярталася да жыхарак нашых зямель кіраўніцтва паўстання ў Варшаве.** «Якая маці, сястра, жонка, сяброўка, каханка, дачка не знойдзе шлях да сэрца мужчыны, які яе любіць? Натхніце іх! Запаліце, захапіце іх!..

Спыніце ўсе свае забавы ды мітуслівыя і дарагія задавальненні, бо цяжка і слізка танчыць на братэрскай крыві, — пісалі аўтары адозвы. — Радзіма патрабуе помсты і малітваў, ахвяраванняў на зброю і на справу паўстання. Вось на што вы павінны скласці грошы вашы, замест мішуры і светлых убораў».

**Чорны быў асноўным колерам пратэсту.** У знак салідарнасці з паўстаннем жанчыны спалучалі ў вопратцы чорнае і белае, ужывалі таксама і фіялетавы колер. Сукенкі, шалі, шапачкі (чорныя з белым пяром), мантылі ды парасоны гэтых колераў насілі на знак жалобы — і па хлопцах, і па Рэчы Паспалітай.

Урэшце ўлады забаранілі ўсялякія знакі жалобы — настолькі палітычным стаў гэты жэст. Цяпер, каб не атрымаць штраф за чорную сукенку, трэба было прасіць у паліцыі адпаведны дазвол з тлумачэннем, хто ў сям'і памёр і калі, і заўсёды насіць той дазвол пры сабе.

Каб заставацца вернымі сабе, жанчыны ішлі на хітрыкі, піша даследчыца **Наталля Лісейчыкава**. Жалобныя спадніцы падбіралі на поясе і на вочы паліцыі з'яўляліся нібы ў звычайных строях. Але, заходзячы да аднадумцаў, чорныя спадніцы адразу ж апускалі паверх каляровых.

**Стрыжка і мужчынскі касцюм — яшчэ адзін знак салідарнасці.** Праўда, такое сабе дазвалялі дзяўчаты, памешчыцкія дочкі. Замужнія жанчыны і ўдовы пратэставалі жалобнымі сукенкамі і спевам.

**Спевы** — такі дэмарш улады ніяк не маглі спыніць. Захавалася мноства паліцэйскіх данясенняў: жанчыны Мінска, Навагрудка, Пінска, Мазыра, Рэчыцы пасярод царкоўнай службы раптам запявалі патрыятычныя песні і забароненыя ўладамі царкоўныя гімны. Гэта былі звароты да Бога, у якіх, апрача звычайных для такога жанру рэчаў, прасілі вызвалення ад маскоўскай някволі, незалежнасці Рэчы Паспалітай.

Паліцыя скардзілася і на групы вандроўных запявалаў. Іх касцяк

Памешчыца з Віцебшчыны Марыя Ульяноўская **на свой дзень нараджэння частавала гарэлкай** толькі тых сялян, якія пасля скасавання уніі не перайшлі ў праваслаўе.

Прашэнне на адрас часовага ваеннага губернатара напісала мінская дваранка Агата Тжцінская ў жніўні 1863 года. Яна прасіла дазволу **выехаць услед за мужам** Альбертам у Томск. Разам з маці ехалі 11-гадовы Міхал, 7-гадовы Дзям'ян і 2-гадовы Нарцыз. У той час падобнае было рэдкасцю.



**Упрыгожанні з сімволікай паўстання.**

**300 рублёў, 50 бочак жыта, 15 бочак аўса і 250 пудоў сена** заплаціла памешчыца Шпілеўская з Ігуменскага павета мясцоваму дзяку за маўчанне пра тое, што яе паранены сын вярнуўся з паўстання.

Разнесла знаёмым антыўрадавыя вершы — і трапіла пад канфіскацыю маёмасці. Кацярына Шалюта заходзіла па справах да суседзяў і **непрыкметна пакідала стосы ўлётак**: у прыстава — на канапе, у яўрэя Юдкі — на каміне... Відаць, разлічвала, што суседзі прачытаюць і гэтак жа непрыкметна перададуць далей.

складалі зусім не валацугі, а інтэлігенцыя і шляхта — жанчыны з адукацыяй. Прыклад з Гомельшчыны: тут за антыўрадавыя спевы затрымалі гувернантку Вітольду Гувальт, яе выхаванку, памешчыцкую дачку Аліну Белавежскую, і шляхцянку Маліноўскую.

**Гаспадыні маглі засведчваць сваю грамадзянскую пазіцыю афармленнем інтэр'еру.** Засталіся рапарты паліцыі пра фіранкі рэвалюцыйных колераў, абрусы з партрэтам Касцюшкі ды і самі партрэты, знойдзеныя ў хатах.

**Неданясенне, дапамога паўстанцам, распаўсюд улётак, нараканні на праваслаўе — вось за што каралі жанчын нароўні з мужчынамі.** Самае мяккае пакаранне — усталяванне паліцэйскага нагляду. Самае строгае — пажыццёвая высылка з канфіскацыяй, катаржныя работы. Яшчэ жанчын маглі прысудзіць да турмы: ад месяца да года. За нядзёрзкую агітацыю ці парушэнне грамадскага парадку (сваім жалобным выглядам, напрыклад) давалі штрафы і паявлялічвалі падатак на маёмасць.

**Са зброяй у руках жанчыны не ваявалі, але былі кур'ерамі і сёстрамі міласэрнасці ў паўстанцкіх атрадах.** Правяралі, ці не стаіць варта, расказвалі, каго з паўстанцаў затрымалі, насілі хлопцам ежу ў лес. Дзвюх дваранак з Магілёўшчыны арыштавалі за падобнае і пасадзілі ў турму на два месяцы. А памешчыцу Цеханавецкую выслалі пад Варонеж за нарыхтоўку пораху і коней для атрада Траўгута.

Памешчыцы ўгаворвалі сялян не загароджваць дарогі і не затрымліваць паўстанцаў.

А яшчэ жанчыны наймаліся на працу ў турмы. Разносілі ежу, размаўлялі з затрыманымі, пралі іх бялізну — такое валанцёрства.

Ці падтрымлівалі беларускі іншы бок? Так. За дапамогу царскім войскам паўстанцы павесілі жонку пружанскага памешчыка Вікенція Седуна. У цэлым выпадкі праследу паўстанцамі жанчын былі адзінкавыя. Але, як зазначае Наталля Лісейчыкава, вопратку гараджанкі, якая не насіла жалобы, маглі абліць сернай або салянай кіслатой ці іншым едкім рэчывам.

**Тагачасныя жанчыны ехалі ў высылку ўслед за сваімі мужчынамі рэдка.** Але яны шмат з імі ліставаліся і так падтрымлівалі высланых паўстанцаў.

Колькі жанчын удзельнічала ў паўстанні — невядома. Сялянак, гараджанак пакуль ніхто не падлічваў. Найбольш звестак пра шляхцянак, але і тыя ўрыўкавыя. Алена Сакольчык падлічыла, што 53 жанчын з мая 1864 па люты 1865 асудзілі да адміністрацыйных спагнанняў і высылкі (часам з продажам маёмасці). ◆



**Алена Скірмунт (1827–1874). Аўтапартрэт.**
Надзвычайна таленавітая мастачка з Піншчыны, адна з першых скульптарак Еўропы. Пляменніца Напалеона Орды. Усё жыццё пакутавала ад кепскага зроку, не магла чытаць. Лячыла зрок і вучылася мастацтву ў Еўропе. Перад паўстаннем 1863-га вярнулася дамоў. Была паўстанцкай сувязной. На памешчыцу данеслі ўласныя сяляне, пасля чаго Алену выслалі ў Тамбоў, яе мужа Казіміра Скірмунта (абое мелі аднолькавае прозвішча) — у Кастраму, маёнтак канфіскавалі. Дзеці засталіся з бабуляй. Праз чатыры гады сям'і дазволілі вярнуцца. Мастачка памерла ў Францыі падчас лячэння ад дыфтэрыі. Пахаваная ў Пінску.

## Дзёрзкі, але непрадуманы план паўстанцаў

# Забіць Мураўёва

BY OLEMAC, SHUTTERSTOCK.COM

**Спроба перамагчы тады, калі параза ўжо зусім блізка. Пра адчайны крок віленскай моладзі піша гісторык Васіль Герасімчык.**

### Мураўёўскі тэрор

14 мая 1863 года ў Вільню прыбыў новы генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў — Вешальнік. Мянушку чыноўнік атрымаў падчас задушэння паўстання 1830–1831 гадоў. З першых дзён новы кіраўнік Беларусі і Літвы пачаў тэрор. Ксяндзоў сталі расстрэльваць, паўстанцаў вешаць. Ахвярамі станавіліся нават тыя, хто яшчэ не паспеў нічога зрабіць, як шляхціч Навагрудскага павета Адам Пуслоўскі. Галоўным быў эфект ад забойства вядомай асобы.

І эфект быў. Паўстанцы пачалі губляць падтрымку памешчыкаў, якія спешна пакідалі пасады ў паўстанцкіх органах, закопвалі або выкідалі ў балоты выдадзеныя ім пячаткі і з'язджалі ў «адпачынак»: хто ў Расію, хто на Захад (але і там расійскія жандары выходзілі на след). Так пацярпела фіяска сістэма, усталяваная «белымі», якія не хацелі сапраўднага паўстання, а разлічвалі

> **Спецыяльна для забойства Міхаіла Мураўёва з Варшавы прыбыў вядомы «кінжальшчык»**

на дапамогу Францыі і Брытаніі ў аднаўленні аўтаноміі Царства Польскага.

Яшчэ ў лютым «белыя», баючыся перарастання паўстання ў сацыяльную рэвалюцыю, адхілілі Кастуся Каліноўскага ад улады. Той нават напісаў пратэст, усклаўшы ўсю адказнасць за будучае паражэнне на палітычных праціўнікаў. Аднак лічыў здрадаю адмову ад барацьбы і таму застаўся ў арганізацыі. І цяпер, у час пагрому паўстання, «белыя» мусілі вярнуць Каліноўскага і Малахоўскага ў склад паўстанцкага кіраўніцтва.

### Пошук смяротнікаў

На фоне вялізных страт, якія панеслі паўстанцы, было прынята рашэнне забіць Міхаіла Мураўёва і віленскага прадвадзіцеля дваранства Аляксандра Дамейку, у якім бачылі галоўнага здрадніка. Дамейка першапачаткова падтрымліваў паўстанцаў, але, спалохаўшыся арышту, ініцыяваў збор подпісаў пад вернападданніцкім лістом шляхты на імя віленскага генерал-губернатара, за што нават атрымаў ордэн Станіслава 1-й ступені.

26 ліпеня ў Вільні абіралі тых, хто мусіў ўратаваць паўстанцкую

справу. Гэтых людзей называлі «кінжальшчыкамі», бо забіць ворага яны мусілі пры дапамозе халоднай зброі.

Малахоўскі ўжо вызначыў, хто стане забойцам Аляксандра Дамейкі, але Каліноўскі адхіліў кандыдатуру: чалавек гэты меў жонку і некалькіх дзяцей. Не дазволілі здзейсніць гэта і іншаму добраахвотніку — Ціту Далеўскаму. Прынялі рашэнне, што ўдзельнікамі замахаў павінны стаць маладыя людзі, якія не маюць сем'яў.

Спецыяльна для забойства Міхаіла Мураўёва з Варшавы прыбыў вядомы «кінжальшчык», фельчар па спецыяльнасці, 26-гадовы Ян Бянькоўскі. Забойства планавалася на 27 ліпеня, на час урачыстасцяў у гонар дня нараджэння імператрыцы Марыі Аляксандраўны.



**Міхаіл Мураўёў**, 1865 год.

### Уратаваў халат

Мураўёў успамінаў: «Бянькоўскі прабіраўся на двор сабора, каб мяне забіць, але не змог блізка падысці з-за агромністага натоўпу служачых і ўвогуле народу».

Гэтая спроба так і засталася б невядомай, каб праз два дні не быў здзейснены замах на Дамейку. І зноў у ім удзельнічаў Бянькоўскі. Ён прыйшоў да Дамейкі ў хату а 9-й раніцы, калі гаспадар толькі прачнуўся, і нанёс сем удараў нажом. Па Вільні адразу пайшла чутка, што Дамейка забіты. Але якое ж было здзіўленне, калі той аказаўся жывы: уратаваў яго тоўсты халат, у якім гаспадар сустрэў няпрошанага госця.

### Балбатун Мірошнікаў

У Вільні пачаліся арышты, была выстаўленая варта, узмоцнены нагляд за чыгункай. Але ўсё вырашыў выпадак. Падчас адной з размоў у карчме сын адстаўнога салдата, рускі праваслаўны Мірошнікаў, за куфлем пахваліўся, што ўваходзіць у лік кінжальшчыкаў. Жандары аказаліся тут як тут.

Былі выкрытыя 10 удзельнікаў паўстанцкай паліцыі, сярод якіх аказаліся браты-рамеснікі Аляксандр і Юзаф Раўкоўскія, медыцынскія супрацоўнікі Эдвард Чаплінскі і Ян Марчэўскі, гараджане Караль Сіповіч і Уладзіслаў Яблонскі,

## Каліноўскі адхіліў кандыдатуру чалавека, які меў жонку і дзяцей

павешаныя затым у Вільні. Яны мелі ад 19 да 27 гадоў, толькі Юзафу Раўкоўскаму было 36. Апошнім схапілі Бянькоўскага, які збіраўся ўцякаць з Вільні цягніком і спецыяльна, каб яго не пазналі жандары, пафарбаваў валасы. Але марна.

Падчас археалагічных раскопак на Замкавай гары ў Вільні былі выяўленыя парэшткі ўсіх сямі кінжальшчыкаў. ◆

### Яўка на кватэры Ямантаў

Цяпер гэты дом мае два адрасы: Замкавая, 30 / Літарацкая, 2 (Pilies, 30 / Literatų, 2). Увесь гэты квартал называлі Святаянскімі мурамі, ад касцёла Св. Яна (уніз па вуліцы), расказвае знаўца Вільні Сяргей Харэўскі. 3-павярховы імпазантны будынак з эркерам спачатку быў ва ўласнасці Віленскага ўніверсітэта, затым — сям'і Шышкіных, затым — Скендзерскіх. У кватэры Ямантаў у доме Шышкіна збіраліся Каліноўскі і яго паплечнікі. Менавіта тут Каліноўскі з Малахоўскім, хутчэй за ўсё, распрацоўвалі план забойства Мураўёва. У гэтым жа доме Каліноўскі жыў у кастрычніку 1863-га.




GOOGLE MAPS



# Генерал Урублеўскі: каліновец, камунар, інтэрнацыяналіст

## Перш чым сысці ў лес, ён папрацаваў дырэктарам вучылішча і менеджарам па продажах

**Урублеўскі стаў легендай яшчэ пры жыцці. Ён аднолькава ўпэўнена кіраваў атрадамі і ў пушчах роднай Гарадзеншчыны, і на вуліцах узбунтаванага Парыжа. Партрэт найбліжэйшага паплечніка Каліноўскага па драбніцах аднаўляе вайсковы гісторык Віталь Чырвінскі.**

Жнівень 1908 года. Францыя. На ўсходзе Парыжа шматтысячнае людское мора, ахінаючы ўзгорак могілак Пэр-Ляшэз, праточваецца ручаямі па брукаваных дарожках і ажыўляе мёртвы горад мармуровых, гранітных і каменных стэлаў, скульптур і крыжоў. Над пакрытай чырвоным палотнішчам трунай апошняга генерала Парыжскай камуны гучыць «Марсельеза».

Ад часу гэтай падзеі мінула 110 гадоў. На помніку, які добра захаваўся, выбіты надпіс: *«Удзельніку паўстання 1863 года, генералу Парыжскай камуны (18 сакавіка–28 траўня 1871 года). Гераічнаму сыну Польшчы — народ Парыжа»*. Тады ў Францыі нямногія ведалі, што «гераічны сын Польшчы» нарадзіўся на беларускай зямлі і свядома карыстаўся беларускай мовай.

### Жалудок – Вільня – Пецярбург

Валерый Урублеўскі паходзіў са старажытнага шляхецкага роду герба «Слепаўрон».

Нарадзіўся ў мястэчку Жалудок Лідскага павета (цяпер гарадскі пасёлак Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці) 15 (27) снежня 1836 года. Праз тыдзень пасля нараджэння бацькі Антоній-Войцех (ляснічы, а затым скарбнік графа Тызенгаўза) і Разалія з Юраўскіх (паходзіла з-пад Слоніма) ахрысцілі хлопчыка ў жалудоцкім парафіяльным касцёле пад імёнамі Валяр'ян-Антоній. Валерыем наш герой стаў падпісваца ўжо на эміграцыі.

Калі малому было восем, бацька памёр. На Валяр'яна моцна паўплываў татаў брат: Яўстах Урублеўскі ў 1849 годзе трапіў на катаргу — яго абвінавацілі ў спробе стварыць таемную арганізацыю для дапамогі паўстанню ў Венгрыі.

Дзяцінства і юнацтва Урублеўскі правёў у Вільні, куды пераехала ягоная маці з трыма дзецьмі. У духу свабоды хлопцаў выхоўваў Віленскі шляхецкі інстытут. Затым была вучоба ў Санкт-Пецярбургу ў ваенізаваным Лясным інстытуце, які ён скончыў у 1857 годзе

*«У нас упіліся чорныя вугольчыкі вачэй. У поглядзе яго было нешта падобнае да драпежнай птушкі; з рукой, абвіслай ад шабельнага ўдару, ён выглядаў быццам арол са зламаным крылом, які страціў у буру пёры і сілы».* Такім пабачыў Урублеўскага адзін з парыжскіх знаёмых.

«Мы сягодня ўсе ўжэ ведаем,
што чалавек вольны, гэта калі мае
кусок сваей зямлі, за катору ані чыншу
і аброку не плаціць, ані паншчыны
не служыць, — калі плаціць малыя
падаткі і то не на царскія стайні, псярні
і курвы, а на патрэбу цэлага народу, —
калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе,
а ідзе бараніці свайго краю тагды толька,
калі які непрыяцель надыдзе…
От што вольнасць значыць».

ў чыне прапаршчыка корпуса ляснічых. Быў прызначаны інспектарам пісарска-егерскай школы ў павятовым горадзе Саколка Гродзенскай губерні, а ў красавіку 1861 года атрымаў чын падпаручніка. У студзені 1862 года Валерыю Урублеўскаму даверылі пасаду загадчыка Сакольскага ляснога вучылішча, дзе ён за кароткі час стварыў падпольную групу, якая стала ядром ягонага першага паўстанцкага атрада.



**Герб роду Урублеўскіх «Слепаўрон» вядомы з сярэдзіны XIV стагоддзя.**
«У блакітным полі срэбная падкова гакамі ўніз, на ёй залаты крыж кавалерскі, на крыжы чорны крук з узнятымі крыламі, направа абернуты, у дзюбе залаты пярсцёнак»
(У. Крукоўскі «Срэбная страла ў чырвоным полі: з гісторыі беларускіх прыватных гербаў»)

### «От што вольнасць значыць»

Перад паўстаннем 1863 года Валеры Урублеўскі ўдзельнічаў у выпуску «Мужыцкай праўды». Ёсць меркаванне, што гэта ён рыхтаваў тэкст да трэцяга нумара газеты, у якім «Яська-гаспадар з-пад Вільні» тлумачыць сялянам, што такое вольнасць.

Урублеўскі належаў да радыкальна-дэмакратычнага «чырвонага» кірунку. Ён да апошняга спадзяваўся, што паўстанне падтрымаюць сяляне. Але ідэі Каліноўскага і Урублеўскага апярэдзілі свой час на некалькі дзесяцігоддзяў.

## Валерый Урублеўскі кепска вучыўся ў школе, але меў выдатны практычны розум

Кіраўніцтва паўстання прызначыла Урублеўскага ваенным начальнікам Гродзенскага ваяводства, але пасля перавароту ў кіраўніцтве яго панізілі да начальніка штаба. У Сакольскім павеце — гэта на захад ад Гродна, у тыя часы ён быў татальна беларускамоўным, па-беларуску там гаварылі і праваслаўныя, і каталікі, — Валер Урублеўскі сфарміраваў атрад з вучняў і выкладчыкаў ляснога вучылішча, дзе год працаваў дырэктарам.

### Сфарміраваў атрад са сваіх вучняў

Здольнасці Урублеўскага прызнаваў і праціўнік. Расійскі генерал Захар Манюкін пасля бою супраць атрада Урублеўскага на рацэ Слойка каля вёскі Валілы (цяпер гэта ў беларускім Падляшшы ў Польшчы, радзіма самага дарагога з сучасных беларускіх мастакоў Лёніка Тарасевіча) пісаў: «Непрыяцельскі ланцуг быў вельмі ўмела размешчаны за ссечанымі дрэвамі і бярвёнамі, паваленымі ў балоцістым ручай, які прыкрываў фронт атакаванай пазіцыі. За рэчкай было зроблена шмат завалаў, якія размяшчаліся вельмі ўмела для ўзаемнага фланкіравання. Па ўсім было відаць, што спрактыкаваная рука кіруе ўмацаваннем пазіцыі, нават з другога боку, адкуль менш за ўсё інсургенты маглі чакаць нападу... Бой быў вельмі ўпарты, мяцежнікі дзейнічалі правільнымі ланцугамі і калонамі і шмат разоў сыходзіліся ў густым лесе ў рукапашнай схватцы».

Валеры Урублеўскі адзначыўся і ў баі каля Косава ў Ружанскай пушчы: нягледзячы на нечаканы напад царскіх войскаў, наладзіў абарону і некалькі гадзін утрымліваў пазіцыі. Ён шматразова вадзіў касінераў у контратакі, адкідаючы расійскіх салдат ад ракі, каб даць магчымасць галоўным сілам атрада арганізавана адступіць. Па словах камандзіра расійскага атрада маёра Эміля фон Крэмера, «мяцежнікі пры адступленні спрабавалі 8 разоў кідацца наперад з крыкам “ура!”, але кожны раз агонь стралкоў... прымушаў іх уцякаць і хавацца ў густы лес».

Валеры Урублеўскі меў вялікі аўтарытэт сярод паўстанцаў. А сваю павагу да іх ён часам выказваў нечаканым спосабам. У чэрвені 1863 года пасля жорсткага бою каля мястэчка Лыскаў (цяпер Пружанскі раён Брэсцкай вобласці), уражаны мужнасцю жаўнераў, ён пашыхтаваў атрад, наламаў беласнежных кветак каліны і раздаў найлепшым. Пры гэтым адзначыў: прыйдзе час, і вольная Айчына належным чынам узнагародзіць сваіх герояў.

Нават ва ўмовах відавочнага згасання паўстання Урублеўскі падбадзёрваў сваіх паплечнікаў: «Узяўшы зброю ▶

**Віленскі дваранскі інстытут** утварыўся ў 1838 годзе на базе 2-й Віленскай гімназіі — закрытай навучальнай установы для хлопчыкаў высакароднага паходжання. Гэта элітарная школа месцілася ў будынку Віленскага ўніверсітэта, зачыненага імператарам у 1832 годзе пасля паўстання. Асяроддзе, у якім вучыўся Валерый Урублеўскі, несумненна паўплывала на яго светапогляд. Сярод выкладчыкаў былі бацькі будучых паўстанцаў, сярод навучэнцаў — яны самі: Эдмунд Вярыга, Цітус і Канстанцін Далеўскія, Францішак Багушэвіч, Зыгмунд Мінейка-Газдава, Ян Чэрскі... Пасля паўстання 1863 года Віленскі шляхецкі (дваранскі) інстытут быў ліквідаваны.

## Валерый ці Валяр'ян

Рускамоўныя крыніцы: касцельныя кнігі, дакументы часоў вучобы ў Лясным інстытуце, данясенні расійскіх афіцэраў — называюць Урублеўскага **Валяр'янам**. А вось ліст да Энгельса за 1878 год, напісаны на французскай мове, Урублеўскі падпісвае Walery Wrublevsci. Трэба думаць, што, зыходзячы менавіта з французскага напісання, даследчыкі пачалі выкарыстоўваць імя Валерый. Можна толькі здагадвацца, як называлі Урублеўскага сябры і землякі.

▶ ў рукі, мы павінны перамагчы, а калі хто-небудзь прымусіць нас яе скласці, дык толькі разам з жыццём».

У жніўні 1863 года, пасля адстаўкі Ануфрыя Духінскага з пасады ваеннага начальніка Гродзенскага ваяводства, Урублеўскі прыняў на сябе агульнае камандаванне. Ён разаслаў па ваяводстве дробныя лятучыя атрады, каб надаць паўстанню новай сілы.

Але пад націскам расійскіх войскаў на чале рэштак свайго атрада Урублеўскі мусіў сысці пад прыкрыццё Свіслацкай, Белавежскай і Пружанскай пушчаў. 22 жніўня 1863 года Гродзенскім ваенным судом ён быў завочна прысуджаны да расстрэлу. Каб захаваць сілы і прадоўжыць змаганне вясной наступнага года, Урублеўскі распусціў свой атрад, а сам рушыў у Варшаву. Там Валерый атрымаў чын палкоўніка і ўзначаліў новы атрад, сабраны з гродзенскіх, брэсцкіх і падляшскіх інсургентаў. Акрамя таго, ён быў прызначаны ваенным начальнікам Палесся з паўнамоцтвамі фарміраваць там новыя паўстанцкія аддзелы.

## Пастроіў атрад, наламаў кветак каліны і раздаў іх найлепшым



BY IHOR HVOZDETSKYI, SHUTTERSTOCK.COM

Урублеўскі правёў шэраг баёў супраць расійскіх войскаў, выкарыстоўваючы тактыку партызанскай барацьбы. Галоўную ўвагу ён надаваў агнявой падрыхтоўцы падначаленых: майстэрству валодання зброяй і трапнай стральбе. З баямі дайшоў да Люблінскага ваяводства, дзе злучыўся з украінскім атрадам графа Юзафа Панінскага. Спрабаваў таксама сабраць і аб'яднаць рэшткі іншых разбітых атрадаў.

## Генерал Парыжскай камуны

У Францыю Валеры Урублеўскі трапіў з Аўстрыйскай Галіцыі, дзе залечваў раны, атрыманыя падчас апошняга бою з расійскімі войскамі каля вёскі Руды Карыбутаўскія (Люблінскае ваяводства). Па ўспамінах паўстанца Ігната Арамовіча, у крывавай сутычцы 19 студзеня 1864 года аддзел Урублеўскага, які вёз на санях параненых, быў нечакана атакаваны кубанскімі казакамі. Камандзір застаўся прыкрываць адступленне сваіх інсургентаў. Казацкія шашкі пашкодзілі правае плячо і двойчы галаву. Урублеўскі зваліўся з каня. Мясцовы селянін пасля бою падабраў беспрытомнае, змерзлае ў лядзяш цела паўстанцкага камандзіра і схаваў яго ў гумне.

Жывучы пасля паразы паўстання на эміграцыі, Урублеўскі не марнаваў часу. У Парыжы ён пачаў наведваць вайсковую школу на Марсавым полі. Падчас франка-прускай вайны ўступіў у Нацыянальную гвардыю, а ў 1871 годзе ўвайшоў у кіраўніцтва Парыжскай камуны, атрымаўшы званне генерала. Ён узначаліў адну з трох рэвалюцыйных армій, якая абараняла на барыкадах паўднёвую частку Парыжа ад версальцаў — прыхільнікаў урада.

У шэрагах камунараў было мала дысцыпліны, панавала анархія, было шмат рамантызму і не менш разгільдзяйства. Да абароны горада Камуна падрыхтавалася слаба, сувязі з сялянамі не наладзіла, час сыходзіў на прыгожыя жэсты кшталту адмены платы за здым кватэр.

25 мая на працягу дня сіламі некалькіх тысяч камунараў Урублеўскі намагаўся адбіць атакі армейскага корпуса, пасля чаго здзейсніў арганізаваны адыход праз раку Сена рэштак сваёй арміі, якая скарацілася да тысячы чалавек.




**«Абарона жанчынамі барыкады** на плошчы Бланш падчас Крывавага тыдня». Літаграфія невядомага мастака XIX стагоддзя.

## Каваль і распаўсюднік газеты «Нязломны»

Пасля паражэння камунараў Валеры Урублеўскі цудам пазбег палону і немінучага расстрэлу. Пад чужым


НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЕЙ (MUZEUM NARODOWY) У ВАРШАВЕ.

**Станіслаў Віткевіч**
**«Паранены паўстанец». 1881 год.**

Мастак Станіслаў Віткевіч удзельнічаў у паўстанні 12-гадовым хлопчыкам, якраз у тым веку, калі душа вельмі датклівая, чулая. Маючы фатаграфічную памяць, ён фіксаваў падзеі, каб праз 20 гадоў, навучыўшыся маляваць, ажывіць свае ўспаміны. Дарма што фонам тут родная мастаку Жамойць — гэтаксама ў шляхецкія сядзібы і сялянскія хаты прывозілі параненых паўсюль. Гэтаксама нехта ўратаваў Валерыя Урублеўскага.
Найбольшая каштоўнасць карціны — у яе рэпартажнасці. Рэпартажаў з паўстання — такіх, як цяпер, напрыклад, пішуць і здымаюць на вайне ва Украіне, — мы не маем. Але дзякуючы Віткевічу нібы трапляем на месца: адчуваем электрычнасць у паветры, трывогу і няпэўнасць, чыесьці пакуты выбару. Можна забыцца пра час, углядаючыся ў твары герояў, чытаючы гісторыю кожнага.
Сям'ю Станіслава выслалі ў Томск. Адтуль хлопец паступіў у Пецярбург, але застаўся незадаволены: ад студэнцкіх карцін патрабавалі гераічнага пафасу і рамантызму. А Віткевічу быў блізкі рэалізм. Мастак давучыўся ў Мюнхене (тут ужо знайшоў больш паразумення), жыў у Варшаве, а асеў у Закапаным. Захапіўся мясцовым каларытам і стаў ідэолагам цяпер ужо брэндавага закапанскага стылю.
Карціну «Паранены паўстанец» 40 гадоў хавалі знаёмыя мастака (вядома, што двойчы яна была ў руках Генрыка Сянкевіча) і ўпершыню выставілі для публікі ў 1920 годзе.

## «Прыйдзе час, і вольная Айчына належным чынам узнагародзіць сваіх герояў»

пашпартам ён пераехаў у Лондан, а французскім трыбуналам быў завочна прысуджаны да смяротнага пакарання. Жывучы ў Англіі, генерал увайшоў у склад Генеральнай рады І Інтэрнацыянала, перапісваўся з Карлам Марксам і Фрыдрыхам Энгельсам. Акрамя таго, падтрымліваў цесныя сувязі і з расійскімі рэвалюцыянерамі. Існуе версія, што Урублеўскі нават меў дачыненне да арганізацыі забойства расійскага імператара Аляксандра ІІ.

У 1876 годзе генерал пераехаў у Жэневу, а пасля амністыі для камунараў 1885 года вярнуўся ў Францыю, пасяліўся ў Ніцы. Ён пакутаваў ад хвароб і нястачы і, каб выжыць, працаваў малатабойцам у кузні. Дзякуючы дапамозе Энгельса, Урублеўскаму ўдалося пераехаць у Парыж, дзе ён уладкаваўся інспектарам рознічнага продажу ў газеце «Энтрансіжан» — з французскай мовы гэтая назва перакладаецца як «Нязломны». На гэтай працы ён быў вымушаны штодзённа, пад халодным дажджом або пякучым сонцам, хадзіць у Парыжы ад шапіка да шапіка і кантраляваць, як раскладаюць газету ў тамтэйшым «саюздруку».

У 1900 годзе, яшчэ пры жыцці героя, у Парыжы выйшла невялічкая (на васьмі старонках з партрэтам) брашурка Станіслава Гершынскага пад назвай «Генерал Валеры Урублеўскі». Аўтар з невымернай павагай напісаў ▶

У Гродне, Брэсце, Жалудку, а таксама ў Катавіцах (Польшча) ёсць вуліцы Валерыя Урублеўскага. У снежні 2011 года, у гонар 175-годдзя з дня нараджэння Урублеўскага, у цэнтры гарадскога пасёлка Жалудок адкрылі памятны знак. Імя легендарнага паўстанца таксама носіць Жалудоцкая сярэдняя школа, вучні якой падчас выканання школьнага гімна спяваюць: «Врублевского имя свято мы чтим, вершин достигаем, бесспорно. А сколько ещё генералов взрастим! Будь, школа, за нас спокойна…»

▶ пра «чалавека вайсковай выпраўкі», які самотна крочыць па парыжскіх вуліцах, успамінаючы сваіх таварышаў, што «памерлі, паснулі вечным сном дзе-небудзь у літоўскіх лясах або на бруку Парыжа». На старонках кнігі легендарны генерал «блукаў як цень рэвалюцыйнага эпасу вялікіх дзён і мроіў пра мінулае, пра колішнюю барацьбу, пра лясы на берагах Нёмана, дзе прайшлі гады яго баявога юнацтва...»

...Так сталася, што Урублеўскага пахавалі на тых самых могілках, дзе карныя каманды ў 1871-м расстрэльвалі апошніх камунараў. ◆




**Магіла Валерыя Урублеўскага.** Могілкі Пэр-Ляшэз. Францыя.

## Унікальны экспанат Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея:

# ДЗЁННІК 14-ГАДОВАГА ПАЎСТАНЦА, высланага ў Сібір

**Магілёўскі падлетак Аляксей Вайніловіч адправіўся ў ссылку разам з 64-гадовым бацькам Лукашом: «Сумна, мае любыя браты, у маладыя свае гады пакідаць сваю Радзіму».**




11 лістапада 1863 года Аляксей замаляваў **арыштанцкія капялюш і плашч.**

Аляксей выйшаў з Магілёва, апрануты, як і іншыя ссыльныя, у шэры капялюш з двума шырокімі вушамі і шэры плашч, які самі арыштанты называлі «бродяга».

Падарожжа Вайніловіча прайшло праз многія гарады. Так, у Смаленску ў паўстанцаў «праводзілі рэвізію», забіраючы ўсе рэчы. У Маскве ў «выхаваўчых мэтах» дэманстравалі клетку, у якой ў 9-кілаграмовых нажных кандалах два месяцы ўтрымлівалі іншага паўстанца — Емяльяна Пугачова, — пакуль не пакаралі смерцю ў студзені 1775-га. Аляксей перамаляваў клетку ў свой дзённік.

Спачатку Вайніловічы жылі ў горадзе Турынску (сёння ў Свярдлоўскай вобласці), затым у Омску. Дзённік скончыўся 1867 годам: бацька Аляксея Вайніловіча разам з некалькімі іншымі ссыльнымі напісаў на імя омскага губернатара прашэнне аб ад'ездзе з Сібіры. Першы раз беспаспяхова, а вось на другі раз дазвол быў атрыманы. Але чамусьці ў сваім звароце Лукаш Вайніловіч не ўзгадаў пра сына, 18-гадовага Аляксея. У адрозненне ад бацькі, ён мусіў застацца ў высылцы.

Невядома, калі дакладна Аляксей Вайніловіч вярнуўся дадому. Вядома, што ў міжваенны час ён жыў у Заходняй Беларусі і перадаў свой дзённік у гродзенскі музей. ◆

**Васіль Герасімчык**



**Клетка Емяльяна Пугачова,** якую паказвалі паўстанцам.




Гісторыю пра тое, як шасцёра паўстанцаў таемна праніклі ў Лодзь з яе 10-тысячным гарнізонам, абяззброілі варту і паспрабавалі застрэліць генерала Брэмсэма, які піў чай на балконе рэзідэнцыі, захоплена пераказвала ўся колішняя Рэч Паспалітая. Галоўным героем гісторыі быў Валянцін Парчэўскі, які зладзіў 22 удалыя засады на расійскія войскі.

Валянцін Парчэўскі (1829—1869) быў афіцэрам прускай арміі і ў 1848 годзе ўдзельнічаў у задушэнні паўстання ў Велікапольшчы, дзе ў адной з бітваў мусіў змагацца супраць уласнага брата. У 1863-м варшаўскія кіраўнікі паўстання накіравалі яго ўзначаліць адзін з атрадаў у Бельскім павеце Гродзенскай губерні, каля Белавежскай пушчы.

За пару тыдняў Парчэўскі здолеў стварыць добрую баявую адзінку для дзейнасці ва ўмовах партызанскай вайны. Ён ніколі не павялічваў свой атрад больш чым да 30 чалавек, а нападаў толькі з засадаў і загадзя падрыхтаваных пазіцый. Ягоны атрад мог узяць Беласток, але пад Супраслем Парчэўскі быў цяжка паранены. Атрад прыйшлося распусціць.

Пад выглядам селяніна Парчэўскі дабраўся да Вільні. Выздаравеўшы, узначаліў паўстанцкі атрад на тэрыторыі Польшчы, пад Калішам. Пасля паразы паўстання выехаў на эміграцыю, дзе ў 1866 годзе далучыўся да добраахвотніцкага корпуса і змагаўся супраць Аўстрыі за незалежнасць Італіі.

## Вайсковы прафесіянал: Аляксандр Лянкевіч

Менавіта ён кіраваў паўстанцамі ў пераможнай бітве пад Мілавідамі.

Пасля службы ў расійскім войску Аляксандр Лянкевіч (каля 1820 — ?) вярнуўся ў бацькоўскі маёнтак Панюкі, што каля Скідзеля. У час паўстання ён быў прызначаны ваенным начальнікам Гродзенскага павета і ў пачатку мая 1863 года ўзначаліў атрад у 36 чалавек, якія на ўсіх мелі пяць старых стрэльбаў. Гэта не перашкодзіла паўстанцам авалодаць мястэчкам Азёры, размешчаным за 25 км ад Гродна. Пасля гэтага атрад Лянкевіча (мянушка Ландэр) павялічыўся яшчэ на сотню чалавек, у асноўным праваслаўных сялян навакольных вёсак. Яны размясціліся лагерам у Святым Балоце, дзе заняліся трэніроўкамі ў стральбе.

Але рускія ўлады не далі паўстанцам часу на баявое зладжванне і накіравалі супраць іх дзве роты пяхоты пры 30 казаках. 4 мая Лянкевіч адступіў спачатку пад Ваўкавыск, а затым у Слонімскі павет, дзе 3 чэрвеня 1863 года кіраваў аб’яднанымі паўстанцкімі сіламі ў бітве пад Мілавідамі (каля 800 чалавек). У гэтай бітве расійскія войскі (каля 700 чалавек) пакінулі поле бою, страціўшы 10 чалавек забітымі і 40 параненымі. Але ў сувязі з падыходам новых войскаў і пад пагрозай акружэння паўстанцы вырашылі адступіць. Правёўшы яшчэ шэраг баёў у Гродзенскім ваяводстве, Лянкевіч адступіў у Аўгустоўскі павет і ў верасні выправіўся на эміграцыю. За 4 месяцы ён узяў удзел у 16-ці бітвах, пасля чаго ад Часовага ўрада на чале з Кастусём Каліноўскім атрымаў званне палкоўніка.



Брошка з паўстанцкай сімволікай.

## Кіраўнік «Літоўскай кавалерыі»: Казімір Кабылінскі

У асяродку шляхты менавіта яго лічылі найлепшым паўстанцкім камандзірам на Гродзеншчыне. На паўстанне пайшоў разам з трыма сынамі.

Казімір Кабылінскі (1816—1863) спачатку ўзначальваў касінераў у атрадзе Духінскага і Урублеўскага, якія пацярпелі паразу ў бітве пад Валіламі на Падляшшы 29 красавіка. Сам Кабылінскі з падначаленымі яму паўстанцамі вымушаны быў хавацца ў Мастаўлянах, дзе нарадзіўся Кастусь Каліноўскі. Але найбольшых поспехаў Кабылінскі дасягнуў неспадзяванымі дзеяннямі ў тыле ворага на чале коннага атрада, які ўзначаліў напрыканцы чэрвеня і за якім замацавалася назва «Літоўская кавалерыя».

У ягоны атрад можна было патрапіць, толькі прайшоўшы праверку здольнасцей. Пасля гэтага чалавек атрымліваў вопратку сіняга колеру, якая вылучала падначаленых Кабылінскага сярод іншых паўстанцаў. «Літоўская кавалерыя» ўвесь час знаходзілася ў руху, таму захапіць яе знянацку не ўдавалася. 16 чэрвеня Кабылінскі ўзяў Ружаны, дзе абяззброіў расійскіх жаўнераў. Далей была перамога каля Вялікага Кута і 17—18 ліпеня бітва пад Шапятовам. Аднак у выніку Кабылінскі адступіў на тэрыторыю Польшчы, дзе і загінуў 4 лістапада. Ён узяў удзел у амаль двух дзясятках баёў.


Паўстанцкая шабля.

З КАЛЕКЦЫІ ГРОДЗЕНСКАГА ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНАГА МУЗЕЯ. ФОТА ВАСІЛЯ ГЕРАСІМЧЫКА




# Хто вы з камандзіраў паўстання?

## Даведайцеся, як склаўся б ваш лёс у 1863-м і хто з паплечнікаў Каліноўскага вам найбліжэйшы

**1. Якія ў вас адносіны з бацькамі? Падзяляюць яны вашы памкненні ці розніца пакаленняў даецца ў знакі?**
а) Яны на дзяржаўнай службе і баяцца, каб чаго не выйшла.
б) Канечне, у паўстанцкі атрад яны мяне не адпраўлялі, але яшчэ з дзяцінства расказалі пра нашу слаўную гісторыю.
в) Сям'я навучыла мяне ўсяму, што я знаю. Бацьку я шаную, нават выбраў прафесію па яго прыкладзе.
г) Мой бацька — чалавек пры ўладзе, я пры ім пра свае патрыятычныя памкненні маўчу.
д) Няма ніякай розніцы пакаленняў. Дзед мой ваяваў, як і я, а бабуля спявала мне ваенныя песні.

**2. Ці лёгка вам падпарадкоўвацца, прызнаваць аўтарытэты?**
а) Няпроста, асабліва калі мною спрабуюць камандаваць некампетэнтныя людзі.
б) Так, я разумею, што ва ўсім мусіць быць парадак.
в) Магу падпарадкоўвацца, але пры ўмове, што гэта трэба для справы.
г) Не люблю, калі мной спрабуюць кіраваць, кампрамісы — гэта не маё.
д) Я люблю сам за ўсё адказваць.

**3. Які з гэтых серыялаў вам найбольш падабаецца? (Калі не глядзелі, не бяда, выбірайце па назве — яна адпавядае зместу.)**
а) «Улада ў начным горадзе».
б) «Вікінгі».
в) «Горац».
г) «Мост».
д) «Гульня тронаў».

**4. Ці з радасцю ўспамінаеце школу? Як у вас увогуле з вучобай?**
а) Добра, я нават і сам потым выкладаў.
б) Я добра пазакласныя мерапрыемствы ўмеў арганізаваць.
в) Ды неяк не вельмі, толькі фізкультура падабалася.
г) Галоўнае не тэорыя, а практыка.
д) Лепш адразу ў бой.

**5. У якую з пералічаных краін вас цягне найбольш?**
а) Расія. Хай мала хто верыць у расіян, а я веру.
б) Усё ёсць тут, я з радзімы нікуды не паеду!
в) Францыя. Свабода, роўнасць, братэрства.
г) Італія. Такая розная, яна змагла аб'яднацца — для нас гэта добры прыклад.
д) Венгрыя. Гэта настолькі незвычайная краіна!

**6. А цяпер пагаворым пра паўстанне. Хто, на вашу думку, мусіць быць яго галоўнай апорай?**
а) Палякі. Польшча — наша сястра, у нас з ёй адна гісторыя.
а) Сяляне, яны заўжды мучыліся і цяпер маюць права на вольнае жыццё.
в) Усе мы людзі і будзем дапамагаць адно аднаму незалежна ад паходжання.
г) Замежжа: суседзі ўжо такое перажылі і могуць дапамагчы.
д) Шляхта — давайце ўспомнім слаўныя часы паспалітага рушання.

**7. Як найлепш далучыць людзей да паўстання?**
а) Перамагае той, у каго лепшая прапаганда.
б) Трэба шчыра пераймацца патрэбамі людзей — і людзі табе павераць.
в) Пры любой нагодзе трэба тлумачыць, што чалавек сам вызначае свой лёс.
г) Усё гэта тонкасці. А на справе: заняў маёнтак, сабраў усіх мужчын — і вядзі за сабой!
д) Моцная рука — і нікому нічога не прыйдзецца тлумачыць.

**8. Ваша пераможная тактыка — якая яна?**
а) Займаю гарады.
б) Партызаню.
в) Найперш — размаўляю з людзьмі, прычым на іх роднай мове.
г) Б'ю з засады, адбіраю карэспандэнцыю і планую свае дзеянні залежна ад планаў праціўніка.
д) Іду ва ўладу і кірую гэтым усім.

**9. Уявіце, што вы трапілі ў акружэнне. Праз пару гадзін вораг нагоніць атрад, на вас, як на камандзіра, абвешчана персанальнае паляванне. Як будзеце дзейнічаць?**
а) Распушчу атрад — няма чаго хлопцам дарма гінуць — і сам паспрабую прабрацца на свабоду.
б) Буду біцца да канца, хай і памру.
в) Падману ворага: пераапрануся і выеду з ачаплення.
г) Схаваюся ў лесе, а лепш у балоце і перасяджу.
д) Прыкінуся мёртвым.

**10. За мінулы год вы шчасліва перажылі некалькі атак, выйшлі з акружэння, узялі пару гарадоў. Але сілы сканчаюцца. Здаецца, паўстанню канец. Які лёс вы сабе абіраеце?**
а) Адступлю, каб вярнуцца на поле бою з новымі сіламі.
б) Жыццё, смерць — усё адно, галоўнае, заставацца разам з братамі-паўстанцамі.
в) Эміграцыя: я яшчэ магу зрабіць нешта добрае для чалавецтва.
г) Лепш ужо высылка: раней ці пазней, але вернешся дадому.
д) Памру, але не здамся.

**Перагарніце старонку і даведайцеся, хто вы з герояў паўстання-1863.**



**Сялянскі цэп, перароблены ў зброю.**
(Цэпам без шыпоў раней малацілі збожжа.)

# Хто вы з камандзіраў паўстання?

**Калі ў вас пераважае адказ «А»,
Вы — нястомны і напорысты
ЛЮДВІК ЗВЯЖДОЎСКІ**



Вілянчук Людвік Звяждоўскі (1829–1864) быў вайсковым інжынерам. Тры гады праслужыў у Брэсцкай крэпасці, з пачаткам Крымскай вайны пераведзены ў Вільню. Тут ён быў любімым ад'ютантам генерал-губернатара Назімава і нават стаў хатнім настаўнікам яго дзяцей. Менавіта заступніцтва Назімава выратавала яго ад арышту ў 1862 годзе, калі стала вядома, што малады штабс-капітан — сябар таемнай арганізацыі.

Кіраўніцтва паўстання прызначыла Звяждоўскага кіраўніком паўстанцкіх сілаў Магілёўскай губерні. У ноч з 5 на 6 мая тут пачалося выступленне шасці атрадаў агульнай колькасцю каля 300 чалавек. Супраць іх руская сканцэнтравалі ў 50 разоў болей войскаў.

## Верыў у рэвалюцыю ў Расіі і да апошняга не здаваўся

Звяждоўскі разлічваў узняць у Магілёўскай і Смаленскай губернях 15 тысяч сялян, з якімі збіраўся рушыць у кірунку Волгі. Там, у Казані, рыхтавалі тады сваё выступленне прадстаўнікі рэвалюцыйнай арганізацыі «Зямля і воля».

6 мая Звяждоўскі захапіў горад Горкі, дзе да яго далучыліся студэнты земляробчага інстытута. У горадзе быў захоплены куфар з 15 тысячамі расійскіх рублёў, але паўстанцы не здолелі яго адкрыць, пакінуўшы куфар на беразе ракі пры адступленні.

Калі выявілася, што астатнія пяць паўстанцкіх атрадаў на Магілёўшчыне былі ўжо знішчаныя, а мясцовае насельніцтва не збіралася падтрымліваць барацьбу, Звяждоўскі, акружаны 11 мая пад Прапойскам, вырашыў распусціць атрад і скласці зброю. Больш за 140 чалавек здаліся і былі сасланыя ў аддаленыя куткі імперыі.

Пасля гэтага Звяждоўскі паспяхова выехаў у Канстанцінопаль, дзе сярод эмігрантаў сабраў грошы на закуп зброі і, вярнуўшыся, стаў ваенным начальнікам Сандамірскага ваяводства. Яго схапілі пасля правальнай бітвы пад Апатавам і 23 лютага 1864 года павесілі. Апошнімі яго словамі былі: «Перадайце, што я — Людвік Звяждоўскі».

**Калі ў вас пераважае адказ «Б»,
Вы — аматар гісторыі і таленавіты арганізатар
ЛЮДВІК НАРБУТ**



Людвік Нарбут (1832–1863) быў сынам Тэадора Нарбута, архітэктара, інжынера, а таксама аднаго з першых беларускіх гісторыкаў, аўтара дзевяцітомнай «Гісторыі літоўскага народа». У час навучання ў Віленскай гімназіі хлопец заснаваў таемнае таварыства, пасля выкрыцця якога Людвіку пагражала смяротнае пакаранне. Усё скончылася 25 ударамі розгаў і накіраваннем у салдаты. Там Людвік даслужыўся да падпаручніка, атрымаўшы некалькі дзяржаўных узнагарод, а таксама амністыю.

## Апошнімі яго словамі сталі: «Як соладка памерці за Радзіму»

З пачаткам паўстання Людвік Нарбут быў прызначаны ваенным начальнікам у сябе на радзіме — у Лідскім павеце. У ваколіцах вёскі Нача стварыў паўстанцкі атрад, куды ўступіў і будучы паэт Францішак Багушэвіч. Асноўную частку атрада складалі сяляне. Два месяцы Людвік Нарбут праводзіў партызанскія дзеянні ў Рудніцкай, Ягелонскай і Гродзенскай пушчах, пагражаючы адначасова Вільні і Гродну. Гродна паўстанцы планавалі захапіць у сярэдзіне сакавіка 1863 года. Але з-за няўдалых дзеянняў групы гімназійнай моладзі на гродзенскім вакзале захоп горада давялося адмяніць.

Нарбут быў тройчы паранены ў бітве пад Дубічамі на Лідчыне і памёр на полі бою ў атачэнні паплечнікаў. Ягонымі апошнімі словамі сталі: «Як соладка памерці за Радзіму».

Дазвол на пахаванне Нарбута і яго атрада быў атрыманы толькі пасля асабістага звароту да тагачаснага віленскага генерал-губернатара Уладзіміра Назімава расійскага капітана, які перамог Нарбута. Труны з 25 паўстанцамі былі выстаўленыя ў касцёле ў Дубічах у форме піраміды, з целам іх камандзіра на самым версе. Усіх пахавалі ў адной доўгай магіле.

**Калі ў вас пераважае адказ «В»,
Вы — натхняльны і зычлівы
ВАЛЕРЫЙ УРУБЛЕЎСКІ**

Валерый Урублеўскі (1836–1908) рана страціў бацьку, але, памятаючы яго аповеды пра прыгоды ў беларускіх лясах, паступіў вучыцца на лесніка. На хлопца паўплываў дзядзька Яўстах, удзельнік кіеўскага Кірыла-Мяфодзьеўскага таварыства. Ён любіў вандраваць па вёсках і спяваць песні на «народнай гаворцы».

Урублеўскі вучыўся ў Віленскай гімназіі і Пецярбургскім лясным інстытуце. Навукі ён засвойваў дрэнна, а ягонымі любімымі заняткамі былі тапаграфія, фехтаванне і стральба. Стаў інспектарам наваствoранай пісарска-егерскай вучэльні ў Саколцы побач з



Белавежскай пушчай і быў настолькі папулярны сярод вучняў, што амаль усе яны падаліся ў паўстанцкі атрад.

Кастусь Каліноўскі, які 1 лютага 1863-га ўзначаліў Часовы ўрад Літвы і Беларусі, прызначыў Урублеўскага вайсковым кіраўніком Гродзенскага ваяводства. Але пасля перавароту «белых» і адхілення «чырвоных» ад улады той стаў толькі кіраўніком генеральнага штаба палкоўніка Ануфрыя Духінскага, які зусім не разбіраўся ў мясцовых справах. Тым не менш у адным з першых баёў паўстанцы святкавалі перамогу ва ўрочышчы Вялікі Кут.

## Цётка Марыі Складоўскай-Кюры вывезла яго за мяжу ў жаночым адзенні. Сябар Каліноўскага, Энгельса і Маркса, ён стане яшчэ генералам Парыжскай камуны

Урублеўскі выдатна арыентаваўся ў лесе, што не раз ратавала паўстанцаў нават ва ўмовах акружэння нашмат большымі сіламі праціўніка. Пасля таго, як Валерый сам узначаліў атрад, ён заняўся прапагандай сярод мясцовага насельніцтва, ведучы яе па-беларуску.

У лістападзе Урублеўскі атрымаў шэраг перамог у Бельскім павеце, але напрыканцы 1863 года яго атрад быў разбіты ў вёсцы Малая Букава пад Люблінам, дзе расійскія войскі амаль цалкам вынішчылі дзве сотні пяхоты з ліку беларускіх сялян.

Некалькі разоў Валерыя абвяшчалі забітым. У апошняй з бітваў пад Усцімавам яго, цяжка параненага, знайшлі і выратавалі мясцовыя сяляне. Потым Баляслава Складоўская, цётка сусветна вядомага фізіка Марыі Складоўскай-Кюры, пераапранула Урублеўскага ў жаночае адзенне і везла яго ў карэце як сваю эканомку. Так Урублеўскі змог выехаць у Еўропу. Ён трапіў у Парыж, дзе стаў адным з заснавальнікаў Інтэрнацыянала, сябрам Энгельса і Маркса і генералам Парыжскай камуны.

### Калі ў вас пераважае адказ «Г», Вы — рашучы і імклівы РАМАН РАГІНСКІ

Раман Рагінскі (1840–1915) — сын інтэнданта варшаўскага следчага ізалятара. Скончыў гімназію ў Варшаве, у 1861 годзе ўдзельнічаў у патрыятычных маніфестацыях і праз пагрозу арышту выехаў у Італію. Скончыў у Генуі вайсковую школу, якая пры падтрымцы Джузэпэ Гарыбальдзі рыхтавала афіцэрскія кадры для будучага паўстання на тэрыторыі колішняй Рэчы Паспалітай. З верасня 1861-га па чэрвень 1862-га школу скончылі 120 чалавек.



Пасля вяртання на радзіму Раман Рагінскі павінен быў у ноч з 22 на 23 студзеня 1863 года авалодаць горадам Белая на Падляшшы, на захад ад Брэста (цяпер Бяла-Падляска). Калі гэта не ўдалося, Рагінскі адступіў пад мястэчка Сямяцічы, дзе пры ўдзеле амаль 4 тысяч паўстанцаў і 2,5 тысячы рускіх вайскоўцаў адбылася адна з найбуйнейшых бітваў паўстання. Расійскія войскі святкавалі перамогу, але не здолелі захапіць Рагінскага.

13 лютага атрад Рагінскага пры падтрымцы мясцовых авалодаў Пружанамі, дзе паўстанцы захапілі 10 тысяч рублёў і 200 карабінаў. Затым скіраваліся да Пінска, але сам горад Рагінскі штурмаваць не стаў, а спыніўся за 11 км каля моста праз Ясельду, дзе перахапіў пошту з сакрэтнай перапіскай і грашыма.

## За 24 дні на чале свайго атрада прайшоў 750 кіламетраў па незнаёмай мясцовасці

Уначы 26 лютага атрад Рагінскага быў атакаваны ў вёсцы Боркі Пінскага павета. З 85-ці чалавек здолелі ўратавацца толькі 12. Хутка Рагінскі быў схоплены мяшчанамі і выдадзены казакам. «Я паважаю вашу смеласць, — казаў яму расійскі генерал Носціц. — Вы ўзнялі мяцеж супраць нашага цара. Калі вам гэта будзе даравана, мы застанёмся сябрамі».

Далей быў суд у Варшаве і смяротны прысуд, які замянілі на 20 гадоў катаргі. Адбыўшы зняволенне, Рагінскі здолеў вярнуцца на Радзіму. Дажываў у Аўстра-Венгрыі, быў у пашане сярод ветэранаў паўстання.

### Калі ў вас найбольш адказаў «Д», Вы — адважны і верны РАМУАЛЬД ТРАЎГУТ

Рамуальд Траўгут (1826–1864) паходзіў з вёскі Шастакова Брэсцкага павета. Пасля заканчэння Свіслацкай гімназіі падаўся ў расійскае войска, у складзе якога ўдзельнічаў у задушэнні Венгерскага паўстання і Крымскай вайне. Даслужыўся да падпалкоўніка. Пайшоўшы ў адстаўку, пасяліўся ў маёнтку Вострава на Кобрыншчыне. Пасля смерці першай жонкі і дваіх дзетак ажаніўся яшчэ раз — з пляменніцай Тадэвуша Касцюшкі.

Падчас паўстання Рамуальд пад мянушкаю Кракоўскі ўзначаліў Кобрынскі атрад, які на працягу 17–25 мая правёў тры бai супраць расійскіх войскаў каля вёсак Горкі і Адрыжын. У першым з іх царскія войскі страцілі 70 чалавек, пасля чаго камандзір рускага атрада Керсноўскі на наступны дзень застрэліўся. Рамуальд Траўгут увесь час дзейнічаў ва ўмовах акружэння, нягледзячы на якое здзейсніў рэйд праз Пінскі павет на Валынь. Але ў выніку вымушаны быў распусціць атрад.

## У Варшаву яму дапамагла трапіць пісьменніца Эліза Ажэшка. Яна перавезла яго пад выглядам сваяка, які знаходзіцца пры смерці

У Варшаву яму дапамагла патрапіць пісьменніца Эліза Ажэшка, што перавезла яго пад выглядам сваяка, які пры смерці. Адтуль Траўгут выехаў за мяжу для пошуку саюзнікаў і грошай на справу паўстання, але ў кастрычніку 1863 года вярнуўся і стаў дыктатарам паўстання на тэрыторыі Польшчы. Ён спрабаваў узняць «паспалітае рушанне» супраць расійскіх войскаў, але быў арыштаваны. Паводле рашэння суда Рамуальд Траўгут быў павешаны ў Варшаўскай цытадэлі 5 жніўня 1864 года. З яго смерцю паўстанне канчаткова пацярпела паразу.



**Склалі Васіль Герасімчык, Паўліна Скурко**

ФОТА ЯЎГЕНА ХАЛДЗЕЯ, MIL.RU



Генералы Міхаіл Букштыновіч (злева) і Васіль Кузняцоў перад Рэйхстагам.

# З ГУЛАГа — НА РЭЙХСТАГ

## «Калі застануся жывы, падпарадкуюся любым рашэнням судовых органаў»

**Наш зямляк з вёскі Жомайдзь Валожынскага раёна генерал Міхаіл Букштыновіч кіраваў падраздзяленнем, якое брала рэйхстаг. Але спачатку ў ягоным жыцці быў ГУЛАГ. Піша доктар гістарычных навук Эмануіл Іофэ.**

Восень 1942-га, ідзе абарона Сталінграда. Любы лейтэнант разумее, што лёс краіны ляжыць на шалях. Пад пагрозай Волга, галоўны шлях пастаўкі каспійскай нафты, без якой не змогуць ехаць танкі і ляцець самалёты. Што ўжо казаць пра тых, хто даўно не лейтэнанты.

У гэтыя дні 50-гадовы былы камдзіў Міхаіл Букштыновіч у лагеры ў сібірскім Марыінску атрымлівае вестку, што пад Сталінградам забіты ягоны 20-гадовы сын.

І апальны вайсковец, адзін з соцень тысяч, якія патрапілі ў мясарубку «айца народаў», сядае пісаць ліст самому тырану:

«Народнаму камісару абароны СССР Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну ад былога камандзіра 7-га механізаванага корпуса РККА Міхаіла Фаміча Букштыновіча, які знаходзіцца ў зняволенні ў лагерах.

Мая поўная невінаватасць ва ўсіх інкрымінаваных мне абвінавачаннях, шчырасць і сумленнасць намераў даюць мне маральнае права яшчэ і яшчэ раз звярнуцца да Вас. 4 гады, як я нявінна, незаслужана і несправядліва пакутую ў зняволенні.
Мой сын Ігар Букштыновіч з першых дзён вайны пайшоў на фронт і загінуў у баі з фашыстамі, выхаваны мною сын майго брата Уладзімір Букштыновіч тры разы паранены ў баях з фашыстамі, цяпер ён камандуе ротай на фронце. Шэраг маіх таварышаў і таварышаў па службе, цяпер генералаў Чырвонай Арміі, ужо вызваленыя з-за кратаў (Ракасоўскі, Лізюкоў, Зайцаў, Варажэйкін ды іншыя). Мяне штучна зрабілі ворагам народа. На сотні маіх заяў Галоўны вайсковы пракурор адмаўляе ў пераглядзе справы. Я добра разумею, што цяпер не час для перагляду спраў зняволеных, але разам з тым вайна — адзіная для мяне магчымасць, каб крывёю змыць з сябе ганебнае таўро ворага народа. Драпежны і злосны вораг забівае маіх дзяцей і сваякоў, а мяне трымаюць за кратамі, калі мае веды, досвед і адданасць партыі Леніна-Сталіна маглі яшчэ раз саслужыць службу савецкай зямлі. Бо недарэчна, дзіка і жорстка трымаць мяне ў зняволенні толькі таму, што калісьці ў дачыненні да мяне была дапушчана жахлівая памылка. Ні маё мінулае, ні праца ў шэрагах ВКП (б), ні служба ў Чырвонай Арміі на працягу 21 года не гавораць за тое, што я быў ці мог быць ворагам народа, ворагам партыі Леніна-Сталіна.
Я звяртаюся да Вас, Іосіф Вісарыёнавіч, і малю Вас вярнуць мяне ў шэрагі РККА. Запэўніваю Вас, што з найвялікшай гатоўнасцю аддам сваё жыццё за Радзіму, за Сталіна.
Пасля вайны, калі застануся жывы, падпарадкуюся любым рашэнням урадавых і судовых органаў у дачыненні да сябе. І калі ўрад знойдзе патрэбным, то адбуду далейшае зняволенне.

Былы камдзіў РККА
зняволены Букштыновіч
Паштовы адрас: горад Марыінск, Новасібірскай вобласці, Верхняя Чабула, п / с 247/93».

## Разгубленасць Малянкова і сумленнасць Гарбатава

Адрасаваны Сталіну ліст Букштыновіча з Марыінска, магчыма, згубіўся б сярод шматлікіх папер крамлёўскай канцылярыі, калі б не дапамог выпадак.

Генерал Аляксандр Гарбатаў, які сам прасядзеў на Калыме да 1941 года, а пасля пачатку вайны быў вызвалены і прызначаны камандаваць арміяй, успамінаў: у самы цяжкі перыяд Сталінградскай бітвы яго адшукаў член сталінскага Палітбюро Георгій Малянкоў, які прыляцеў на фронт як прадстаўнік Стаўкі. Малянкоў выглядаў разгубленым і прыгнечаным. Выклікаўшы Гарбатава, ён папрасіў таго выказацца пра прычыны няўдач СССР у вайне.

«Шчыра кажучы, я здзівіўся, — успамінаў генерал. — Так з намі раней такія людзі не размаўлялі. Сказаў:

**Малянкоў выглядаў разгубленым. Гарбатаў сказаў: «Перш за ўсё трэба вярнуць з лагераў арыштаваных камандзіраў і накіраваць на фронт»**

перш за ўсё трэба вярнуць з лагераў арыштаваных камандзіраў і накіраваць на фронт».

Малянкоў папрасіў Гарбатава скласці спіс тых, за каго ён можа паручыцца.

Гарбатаў піша, што праседзеў ноч, бо баяўся прапусціць кагосьці, з кім сустракаўся на этапе і ў лагеры. Адчуваў, што вырашае ў тую ноч лёс многіх людзей. Атрымаўшы спіс, Малянкоў паляцеў з ім у Маскву.

І па шчаслівым супадзенні акурат у гэты час у Крэмль прыйшло прашэнне Букштыновіча. У снежні 1942-га яго вызвалілі, аднавіўшы ў званні палкоўніка і прызначыўшы намеснікам камандзіра 357-й стралковай дывізіі 3-й ударнай арміі Калінінскага фронту. Першая аперацыя, у якой Букштыновіч узяў удзел, — узяцце Велікалуцкай крэпасці на Пскоўшчыне, а потым вызваленне Невеля.

Невельская аперацыя ўнікальная тым, што яна, як успамінаў маршал Андрэй Яроменка, завяршылася на працягу сутак. У канцы 1943-га Букштыновіч удзельнічаў у наступальных аперацыях у Латвіі, а са жніўня 1944-га і да канца вайны быў начальнікам штаба 3-й ударнай арміі ў складзе 2-га Прыбалтыйскага і 1-га Беларускага франтоў.

## Паміж Валожынам і Крэвам

Міхаіл Букштыновіч нарадзіўся ў вёсцы Жомайдзь паміж Валожынам і Крэвам у 1892 годзе. Выхадзец з сялянскай сям'і здолеў скончыць Віленскае камерцыйнае вучылішча, пасля чаго тры гады працаваў канторшчыкам — малодшым ▶


У ГУЛАГу.





**Міхаіл Букштыновіч**: на Першай сусветнай і на Другой.

служачым — на чыгунцы ў Вільні і Маскве.

Магчыма, у іншых умовах Букштыновіч так бы ўсё жыццё і прысвяціў працы на чыгунцы, але ягоны лёс, як і лёсы мільёнаў іншых людзей, крута павярнула Першая сусветная вайна. Пасля яе пачатку канторшчыка Букштыновіча прызвалі на фронт і неўзабаве, прыкмеціўшы ягоны талент вайскоўца, накіравалі ў Ташкенцкае вайсковае вучылішча. У 1917 годзе Букштыновіч ужо камандаваў ротай на аўстрыйскім фронце.

Пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года Міхаіл Букштыновіч падтрымаў бальшавікоў і падчас Грамадзянскай вайны ў Расіі ваяваў на іх баку. У гэты час яму давялося быць камендантам расійскага горада Кастрама і начальнікам штаба войскаў Кастрамскога раёна, падаўляць яраслаўскае антыбальшавіцкае паўстанне, ваяваць супраць уральскіх казакоў. Ваяваў ён, відаць, няблага, бо атрымаў ад бальшавікоў ордэн Чырвонага Сцяга — найвышэйшую ў той час савецкую ўзнагароду.

Пасля вайны Букштыновіч застаўся ў войску, праходзячы службу па ўсім СССР і паступова падымаючыся з прыступкі на прыступку ў вайсковай іерархіі. Ён быў камандзірам брыгады ў Самары (камандзірам ягонага палка тады быў будучы маршал Канстанцін Ракасоўскі), палкавым камандзірам у Пензе, камендантам крэпасці Кушка, якая месцілася ў туркменскіх пустынях на самым поўдні СССР. Кіраваў Аб'яднанай вайсковай школай у Ташкенце, палкамі ў Ашхабадзе і Фергане. У 1935-м вярнуўся з Сярэдняй Азіі ў еўрапейскую частку СССР, заняўшы пасаду намесніка начальніка штаба Ленінградскай вайсковай акругі і атрымаўшы званне камдзіва.

Але паспяховая вайсковая кар'ера раптоўна перарвалася: 1 верасня 1938 года Букштыновіча арыштавалі. Для таго часу такі паварот лёсу армейскага камандзіра быў хутчэй тыповы, чым адметны.

Па стандартным фальшывым абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці і арганізацыі тэрактаў Букштыновіча асудзілі на 15 гадоў папраўча-працоўных лагераў з паражэннем у правах. Да канца 1942 года ён знаходзіўся ў Марыінску Новасібірскай вобласці. Вязні Сіблага валілі тут лес, адлівалі чыгун, здабывалі торф, рабілі мэблю і вопратку.

Пра лагерныя рэаліі тагачаснага Марыінска захаваўся красамоўны факт з успамінаў мастачкі Ірмы Гекер: пасля ўцёкаў двух вязняў, якія схаваліся ў санях пад трупамі іншых зняволеных, начальства паставіла чалавека, які драўляным молатам разбіваў галовы ўсіх нябожчыкаў у санях. Каб усе, хто пакідаў на тых санях тэрыторыю зоны, гарантавана аказваліся мёртвымі. Зрэшты, у сталінскім ГУЛАГу практыкавалася і не такое — той, хто ў яго патрапляў, праходзіў усе колы пекла, і жывыя зайздросцілі мёртвым.

Можна сабе ўявіць, з якім жахам вызваленыя генералы ўспаміналі гэта і як страшыла гэтых мужных людзей перспектыва зноў трапіць у стан бяспраўных зэкаў.

### Першым захапіць рэйхстаг

«Начальнік штаба жыў адной думкай: рэйхстаг павінна захапіць 3-я ўдарная армія, — успамінаў пра Букштыновіча начальнік аператыўнага аддзела гэтага штаба генерал-лейтэнант Георгій Сямёнаў. — Ён здолеў заразіць гэтай ідэяй камандуючага арміяй генерала Кузняцова і штабных афіцэраў».

Пасля пяцідзённых баёў 3-я ўдарная армія ўварвалася на паўночна-заходнюю ўскраіну Берліна. Цэнтр горада павінны былі штурмаваць 5-я ўдарная і 8-я гвардзейская арміі. І хоць абедзве рухаліся найкарацейшым шляхам, але армія, штабам якой кіраваў Букштыновіч, прасунулася далей. «Мы маглі б праскочыць міма цэнтра Берліна на захад, але генерал Букштыновіч пачаў планамерна праводзіць у жыццё сваю думку, — піша Сямёнаў. — Увечары 28 красавіка мы выйшлі на паўночны бераг Шпрэе насупраць чыгуначных шляхоў Лехтарскага вакзала. Такім чынам, мы выканалі ў гэтым раёне сваю задачу. Другі бераг Шпрэе ўваходзіў у паласу іншай арміі. Але нашы суседзі адсталі. А мы бліжэй за ўсіх падышлі да рэйхстага...»

Букштыновіч патэлефанаваў у штаб фронту, просячы дазволу наступаць на рэйхстаг цераз Шпрэе, — і атрымаў згоду. Начальнік штаба 1-га Беларускага фронту Міхаіл Малінін запатрабаваў паведаміць, як толькі рэйхстаг будзе ўзяты. Дзеля таго Букштыновіч «сам загадзя напісаў праект невялікага данясення аб узяцці рэйхстага, пакінуўшы месца для таго, каб праставіць гадзіны і хвіліны. Затым выклікаў падпалкоўнікаў Фядотава і Неміроўскага і загадаў ім дзяжурыць на вузле сувязі». Дзяжурства падпалкоўнікаў, як аказалася, было не дарэмным: менавіта байцы 3-й ударнай арміі Аляксей Бераст, Мелітон Кантарыя і Міхаіл Ягораў (апошні, дарэчы, — гэта мала хто ведае, — смаленскі беларус з ваколіц мястэчка Рудня каля самай мяжы з Беларуссю) у выніку ўвайшлі ў гісторыю як людзі,

**«Звяртаюся да Вас, Іосіф Вісарыёнавіч, і малю Вас, з найвялікшай гатоўнасцю аддам сваё жыццё за Радзіму, за Сталіна. Пасля вайны, калі застануся жывы, падпарадкуюся любым рашэнням у адносінах да сябе. І калі ўрад знойдзе патрэбным, то адбуду далейшае зняволенне»**




што сімвалічна ўсталявалі на даху рэйхстага чырвоны сцяг.

Пасля ўзяцця рэйхстага камандуючы 3-й ударнай арміяй генерал-палкоўнік Васіль Кузняцоў быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Начальнік ягонага штаба, наш зямляк Міхаіл Букштыновіч, таксама быў прадстаўлены да гэтага звання разам са сваім камандзірам, але ў выніку атрымаў толькі ордэн Суворава 1-й ступені.

Пасля вайны Букштыновіч служыў у Галоўным камандаванні Сухапутных войскаў СССР, але падарванае ў сталінскіх катоўнях здароўе ўжо не дазваляла яму працаваць у поўную сілу. 28 чэрвеня 1950-га ён памёр ва ўзросце 57 гадоў і быў пахаваны на прэстыжных Новадзявочых могілках у Маскве.

Так, генерал Букштыновіч дайшоў да Берліна. Але ці не мог бы ён дасягнуць большага, каб не рэпрэсіі?

Сёння генерал Букштыновіч вядомы на радзіме куды менш, чым іншыя ўраджэнцы Беларусі, што вызначыліся на той вайне, — маршалы Васіль Сакалоўскі і Іван Якубоўскі, генералы Іосіф Гусакоўскі і Васіль Маргелаў. Але ён таксама заслугоўвае памяці і як военачальнік, і як ахвяра сталінскага рэжыму. ◆



**Сябры Саюза беларускай моладзі ў Паставах**. Першы злева сядзіць Віктар Сікора, другі злева стаіць Аўген Жыхар.

# ВАЙНА пасля вайны

## Антысавецкія партызаны і падпольшчыкі ў пасляваеннай Беларусі

**Хоць беларусы перад вайной не мелі ні ўласнай нацыянальнай дзяржавы, як палякі ці літоўцы, ні шматлюдных нацыянальных арганізацый, як украінцы, антысавецкае падполле ў Беларусі таксама было, піша даследчык таго перыяду Антон Рудак.**

Ад пасляваенных Украіны ці Літвы падпольныя арганізацыі, якія дзейнічалі ў Беларусі, адрозніваліся разнароднасцю. Тут былі групы беларускіх нацыяналістаў. Польскае падполле было актыўнае на тэрыторыях, дзе жыло шмат палякаў і каталікоў, а ўкраінскае — на Брэстчыне і Піншчыне. А яшчэ і проста групы асоб, якія мелі рахункі з савецкай уладай.

Польскае, літоўскае, эстонскае падполле абгрунтоўвала сваю дзеянні вернасцю дзяржавам, якія былі захопленыя Савецкім Саюзам. Украінскае падполле мела яшчэ да вайны разгалінаваныя структуры на чале з харызматычнымі лідарамі.

Нічога гэтага ў Беларусі не было. Не было ўласнай дзяржавы — былі толькі мары пра яе. Таму, хоць партызанка — гэта заўсёды партызанка, са сваімі жорсткімі ўмовамі, калі галоўным робіцца выжыванне, — структура антысавецкага падполля была ў Беларусі не такой, як у суседніх краінах.

На нелегальным становішчы пасля адыходу немцаў аказаліся вельмі розныя катэгорыі людзей: былыя паліцыянты, супрацоўнікі акупацыйнай адміністрацыі, дэзерціры ад мабілізацыі ў Чырвоную Армію ды і ўвогуле любыя асобы, якія мелі праблемы з савецкімі законамі. Часам яны дзейнічалі паасобку, а часам аб’ядноўваліся ў групы, якія не мелі аніякай ідэалогіі. Але змагаліся беларусы і ў складзе арганізаваных партызанскіх частак — прытым не абавязкова беларускіх.

### АК і УПА

Яшчэ з часоў нацысцкай акупацыі дзейнічала ў Заходняй Беларусі Армія Краёва — партызанскае войска польскай падпольнай дзяржавы, якое падпарадкоўвалася польскаму ўраду ў выгнанні, што з 1940 года знаходзіўся ў Лондане. На тэрыторыі Беларусі дзейнічалі чатыры акругі АК, у адпаведнасці з даваеннымі ваяводствамі: Навагрудская, Палеская, Беластоцкая і Віленская (дзве апошнія — часткова).

Палеская акруга па стане на 1944 год налічвала каля чатырох тысяч партызан, Навагрудская — каля васьмі, а агулам, на думку даследчыкаў, у складзе АК у Беларусі ваявалі каля 20 тысяч чалавек і яшчэ каля 40 тысяч удзельнічалі ў польскім падполлі. Пераважную большасць складалі мясцовыя жыхары, прытым частка з іх была праваслаўнаю, а каля 40% нават падавалі сваю нацыянальнасць як беларускую.

У 1945 годзе Армія Краёва была афіцыйна распушчаная, але яе жаўнеры працягвалі ўваходзіць

у шэраг іншых арганізацый, якія прынята агулам называць постакаўскім падполлем (напрыклад, Рамуальд Райс Буры, адказны за знішчэнне мірнага беларускага насельніцтва на Беласточчыне ў 1946-м, на той час быў ужо афіцэрам не АК, а Нацыянальнага вайсковага аб'яднання).

На паўночным захадзе Беларусі дзенідзе дзейнічалі і літоўскія партызаны, хоць з'яўляліся яны тут эпізадычна, проста заходзілі, а колькасць іх была невялікай. Што і не дзіўна: пры фактычнай адсутнасці на гэтай тэрыторыі літоўскага насельніцтва літоўскім «лясным братам» не было тут на каго абаперціся.

На Заходнім Палессі ваявала супраць Саветаў Украінская паўстанцкая армія. Па стане на 1944 год яе атрады на тэрыторыі БССР налічвалі каля 15 тысяч чалавек. Можна меркаваць, што яшчэ прыкладна 30 тысяч чалавек на Брэстчыне і Піншчыне тым ці іншым чынам яе падтрымлівалі.

### Хто такі Усевалад Родзька

Калі антысаветчыкі з ліку літоўцаў, палякаў ці ўкраінцаў часта мелі на выбар па некалькі падпольных арганізацый, да якіх яны маглі далучыцца паводле свайго густу і палітычных перакананняў, то беларусаў у змаганні супраць СССР проста не было каму аб'яднаць. Самую масавую нацыянальную арганізацыю, Беларускую сялянска-работніцкую грамаду (120 тысяч чалавек), яшчэ ў 1927 годзе ліквідавалі палякі, а пасля Сталін фізічна знішчыў яе кіраўнікоў, якія ратаваліся ў Савецкім Саюзе.

Тыя ж беларускія арганізацыі, што ўзніклі пад акупацыяй, існавалі пад пільным кантролем немцаў, часта — перадусім для задавальнення іх патрэбаў. Беларуская народная самапомач у 1942 годзе налічвала каля 30 тысяч сяброў, Саюз беларускай моладзі ў 1944-м меў на тэрыторыі Беларусі каля 10 тысяч, у Беларускую краёвую абарону было мабілізавана каля 20 тысяч. Варта таксама памятаць, што гэтыя мноствы перасякаліся, а таксама — што далёка не ўсе ўдзельнікі гэтых арганізацый былі ідэйнымі. Беларусы ў большасці сваёй у калабарацыйныя структуры не рваліся.

Беларускі антысавецкі рух пасля адыходу немцаў улетку 1944-га застаўся дэзарганізаваным і наогул пазбаўленым якой-кольвек структуры. Лідары пранямецкіх арганізацый і пераважная большасць іх актыву адступіла з немцамі і апынулася на Захадзе, а падпольных структураў яны не пакідалі. Часам у літаратуры згадваецца ў такой якасці Беларуская незалежніцкая партыя (БНП), якую спрабуюць прадставіць трэцяй сілай, што нібыта змагалася супраць нацыстаў і бальшавікоў адначасова. Але фактаў, якія б сведчылі на карысць такога меркавання, няма. Наконт канкрэтнага моманту заснавання арганізацыі з такой назвай яшчэ трываюць спрэчкі, але дакладна вядома, што прынамсі з канца 1942 года БНП кіраваў Усевалад Родзька, які быў афіцэрам абвера і бурмістрам Віцебска, а пазней — кіраўніком аддзела моладзі пры Беларускай цэнтральнай радзе ▶

**Усевалад Родзька** (1920–?) — вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі. Афіцэр польскага войска, у 1939 трапіў у нямецкі палон, супрацоўнічаў з абверам, у 1941 быў прызначаны бурмістрам Віцебска. Узначальваў Беларускую незалежніцкую партыю, якая аб'ядноўвала прыхільнікаў незалежнасці Беларусі на акупаванай нацыстамі тэрыторыі, адначасова трымаючы іх пад кантролем нацысцкіх спецслужб. У 1944 годзе — фактычны кіраўнік разведшколы абвера для беларусаў у мястэчку Дальвіц, арганізатар дэсантавання дыверсантаў і разведчыкаў на тэрыторыю БССР. У 1945 годзе арыштаваны ў Беластоку, у 1946 годзе ў Мінску прысуджаны да расстрэлу, які быў заменены 25 гадамі зняволення.

## Афіцэр абвера Усевалад Родзька ні дня не пражыў у Савецкім Саюзе і не разумеў беларускай сітуацыі

**Беларуская народная самапомач** — аналаг Чырвонага Крыжа. Была створаная з дазволу акупацыйных уладаў увосень 1941 года. Займалася зборам ахвяраванняў, дапамогай пацярпелым ад вайны. Разам з тым, нацысты змушалі БНС агітаваць людзей ехаць на работы ў Германію. Увесну 1943 года актывісты БНС паспрабавалі дамагчыся ад немцаў стварэння беларускага ўрада, які абвясціў бы Беларусь незалежнай, што выклікала рэпрэсіі з боку акупацыйных уладаў.

**Саюз беларускай моладзі** — моладзевая арганізацыя, створаная ўлетку 1943 года. Сябрамі маглі быць дзеці і падлеткі 10–20 гадоў. Акрамя 12 тысяч сяброў у Беларусі, у СБМ запісалі 3,5 тысячы беларусаў-остарбайтэраў.

**Беларуская краёвая абарона** — вайсковае фарміраванне, створанае ўвесну 1944-га, фармальна пад кіраўніцтвам Беларускай цэнтральнай рады, шляхам мабілізацыі. У рэчаіснасці БКА падпарадкоўвалася камандаванню паліцыі ў акупаванай Беларусі, яе меркавалася выкарыстоўваць для змагання супраць партызан. Насамрэч, вельмі нямногія часткі БКА атрымалі ўзбраенне, немцы беларусам не давяралі.


«БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА»

**Узброеная група Мікуліча.** Ільянскі (цяпер Вілейскі) раён, 1952 год. Мяркуецца, што фота зрабіў Я. Філістовіч.



**Анатоль Радзівонік Олех** паходзіў з Ваўкавыска і быў праваслаўным. Да сваёй гібелі ў 1949 годзе ён заставаўся апошнім кіраўніком польскай партызанкі на Лідчыне.

▶ і камандзірам батальёна Беларускай краёвай абароны.

## Сын Сікоры

Віктар Сікора, сын вядомага беларускага агранома Івана Сікоры, сведчыў, што ў 1944 годзе Родзька вазіў сяброў БНП з ліку сяброў Саюза беларускай моладзі ў Паставах рэгістравацца і атрымліваць зброю ў аддзеле абвера ў Вільні (ён меў нумар палявой пошты 58779). Дарэчы, у СБМ навучэнцаў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі прымалі ў прымусовым парадку — Сікора сведчыць, што пяцярых хлопцаў, якія адмовіліся ўступаць, немцы арыштавалі, некуды вывезлі і след іх прапаў.

Улетку 1944-га, напярэдадні прыходу савецкіх войскаў, Віктар Сікора атрымаў ад Родзькі загад застацца ў родных мясцінах на Пастаўшчыне і арганізаваць антысавецкі партызанскі атрад. Сам Сікора быў узброены аўтаматам і трыма пісталетамі. Але арганізаваць групу яму ўдалося не адразу. Сікору мабілізавалі ў Чырвоную Армію, перад пагрозай арышту ён дэзерціраваў, дабраўся да родных мясцінаў і толькі тады стварыў атрад — з такіх самых дэзерціраў. Але ў выніку застаўся адзін і быў арыштаваны.

Такі ж самы загад аб арганізацыі атрадаў у савецкім тыле атрымалі яшчэ чацвёра чалавек, у тым ліку Алег Лапіцкі, старэйшы брат Расціслава, кіраўніка моладзевага падполля на Мядзельшчыне. Але ніякіх пэўных звестак пра існаванне такіх атрадаў няма. Сябры БНП пазней прыгадвалі, што Родзька, які ні дня не пражыў у Савецкім Саюзе, быў няздольны цвяроза ацаніць шанцы на поспех свайго праекта па арганізацыі ў паваеннай Беларусі руху супраціву.

## Батальён «Дальвіц»: спроба № 2

Той самы аддзел абвера з нумарам палявой пошты 58779 пасля адступлення немцаў з Беларусі апынуўся ў Дальвіцы (цяпер — Калінінградская вобласць Расіі), дзе дзейнічаў як разведшкола для дыверсантаў-беларусаў. Школа была закансьпіраваная пад будаўнічы лагер, у размовах між сабой курсанты называлі яе «беларускім спецыяльным батальёнам». Пасля падрыхтоўкі дыверсантаў перакідвалі ў Беларусь паветраным шляхам. Агулам былі здзейсненыя каля пяці дэсантаў — некалькі дробных груп па 1–3 чалавекі і адна вялікая — амаль 30 чалавек. Гэты атрад дэсантаваўся 17 лістапада 1944 года і мусіў зрабіцца ядром партызанскага руху, абрасці з часам новымі партызанамі. У склад групы нездарма набіралі былых жаўнераў навагрудскага батальёна Барыса Рагулі, а дэсантавацца яны мусілі ў Налібоцкай пушчы, ля возера Кромань.

Але ўсё пайшло не так:— хітры Рагуля ў апошні момант ляцець адмовіўся, яго замяніў Міхал Вітушка. Вылет адбываўся ў кепскіх метэаўмовах, і самалёт не даляцеў да месца. Дэсантнікаў выкінулі пад Воранавам на Лідчыне, група расцерушылася, пасля дэсанту сабрацца разам яе сябры не здолелі і былі вымушаныя дзейнічаць малымі групамі па некалькі чалавек. Пераважная большасць дэсантнікаў была арыштаваная неўзабаве пасля

**Барыс Рагуля ў апошні момант ляцець адмовіўся, яго замяніў Міхал Вітушка**

**Міхал Вітушка** (1907–1944) — скончыў Віленскую беларускую гімназію, вучыўся ў Варшаўскім політэхнічным універсітэце. Увосень 1939 служыў у савецкай міліцыі ў Нясвіжы. У 1941–1944 быў на кіроўных пасадах у паліцыі ў Менску, Смаленску, Бранску, Магілёве. Увосень 1944 дэсантаваўся на Воранаўшчыне з групай, якая мусіла скласці ядро антысавецкага супраціву ў Беларусі. Далучыўся да атраду АК «Комара», быў прызначаны намеснікам камандзіра. Загінуў у студзені 1945 года ля возера Кернава на тэрыторыі Літоўскай ССР.



**Тарас Бульба-Баравец,** стваральнік і камандзір украінскай партызанкі на Палессі.

# АПОШНІ

**Аўген Жыхар** (1925–1955) — навучэнец Пастаўскай настаўніцкай семінарыі, сябар Саюза беларускай моладзі. У 1944 годзе прайшоў падрыхтоўку ў разведшколе абвера ў Дальвіцы, вярнуўся ў родныя мясціны і перайшоў на нелегальнае становішча. Быў забіты ў 1955 годзе пры спробе затрымання.

прызямлення. Некаму, як Вітушку, удалося далучыцца да атрадаў Арміі Краёвай — але стварыць сваю, беларускую партызанку ім так і не ўдалося. Дэсанты спыніліся, бо разведшкола была вымушаная адступаць усё далей і далей на захад пад націскам Чырвонай Арміі.

У маі 1945-га курсанты былі раззброеныя чэшскімі партызанамі, хто-ніхто з іх спрабаваў прабрацца ў Беларусь. Усевалад Родзька быў арыштаваны ў Беластоку і ў 1946 годзе ў Мінску прысуджаны да расстрэлу. Ёсць звесткі, што прысуд быў заменены на шматгадовае зняволенне і пасля яго бачылі жывым у лагерах — пра гэта сведчыла ў размове з даследчыкам Сяргеем Яршом сястра жанчыны, якая была знаёмая з Родзькам у акупаваным Мінску, а пазней выпадкова сустрэла яго ў Сібіры. Калі праўда, што Родзьку захавалі жыццё, то гэта значыць, што ён «актыўна супрацоўнічаў са следствам», другога варыянту ў тыя часы не магло.




**МГБ сцвярджала, што такім было змесціва тайніка Янкі Філістовіча**, які знайшлі пасля яго арышту.

### Аўген Жыхар, апошні партызан

Сярод пастаўскіх семінарыстаў, якія ўступілі ў СБМ, зрабіліся сябрамі БНП і прайшлі курс у дальвіцкай разведшколе, быў і Аўген Жыхар — той удзельнік паваеннай партызанкі, пра якога мы з дакладнасцю можам сказаць, што ён быў свядомым беларусам. Хутчэй за ўсё, Жыхар быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію недзе ў Еўропе, а пасля вярнуўся ў родныя мясціны, уцёк пры спробе арышту і перайшоў на нелегальнае становішча. Разам з атрадам, а пазней і ў адзіночку ён партызаніў ажно да 1955 года, калі быў забіты пры спробе затрымання.

### Без цэнтра, без кіраўніцтва

Наогул, зброю ў тыя паваенныя гады мелі многія, і ў лесе хавалася нямала людзей, але далёка не ўсе ўжывалі зброю ў змаганні супраць улады. Калі ў 1951-м ЦРУ падрыхтавала і закінула на Вілейшчыну прадстаўніка Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Янку Філістовіча, ён сустрэў у лесе ўзброеную групу людзей, якія з розных меркаванняў хаваліся ад савецкай улады.

## Суполкі беларускіх патрыётаў падпольна дзейнічалі ў Глыбокім, Навагрудку, Слоніме, Ляхавічах

Для каго яшчэ з пасляваенных партызан антысавецкі супраціў быў змаганнем за незалежнасць Беларусі? Дакладных звестак няма, але, напрыклад, узброеная група былога актывіста Беларускай народнай самапомачы Івана Раманчука ініцыявала на Нясвіжчыне стварэнне моладзевага падполля Саюза змагання за незалежнасць Беларусі, якое было выкрыта ў 1949 годзе.



**Янка Філістовіч — эмісар Рады Беларускай народнай рэспублікі,** дэсантаваны пад Вілейкай.

Што дакладна вядома — нацыянальныя партызанскія і падпольныя групы не мелі адзінага кіраўніцтва.

### Зерне негвалтоўнага супраціву

Варта адзначыць, што акрамя ўзброеных груп, узнікалі і палітычныя структуры.

Вядома, напрыклад, пра існаванне шматлікіх падпольных моладзевых арганізацый: Саюз беларускіх патрыётаў на Глыбоччыне, Саюз вызвалення Беларусі ў Навагрудку, «Чайка» на Слонімшчыне, Саюз змагання за незалежнасць Беларусі на Ляхавіччыне налічвалі ад 20 да 50 сяброў. Пералічаныя тут былі выкрытыя да 1950 года. Зрэшты, далёка не пра ўсе такія групы вядома і да сёння.

Гэтыя людзі вялі антысавецкую агітацыю, выступалі ў абарону сацыяльнай справядлівасці і нацыянальнай культуры, за незалежнасць Беларусі. І ні на кім з іх няма крыві — яны не браліся за зброю. Лёс судзіў ім увайсці ў гісторыю як дзеячам негвалтоўнага супраціву, што мела важнае гістарычнае значэнне, бо кінуць ідэйны выклік таталітарнаму рэжыму на самым піку ягонай магутнасці могуць толькі сапраўды неардынарныя асобы. ◆

**Англічанін Кім Філбі быў адным з найбольш паспяховых савецкіх разведчыкаў. Працуючы на камуністаў, яму ўдалося трапіць у кіраўніцтва брытанскіх спецслужбаў і перадаць Саветам мноства інфармацыі. У 1950-я Філбі каардынаваў аб'яднаныя англа-амерыканскія аперацыі, скіраваныя супраць СССР, і яго небеспадстаўна падазраюць у датычнасці да правалу многіх антысавецкіх праектаў — ад Албаніі да Беларусі, піша гісторык Антон Рудак.**




# Кім Філбі: беларускі след

Парашутыст Цімох Вострыкаў, адзін з групы маладых беларусаў, якія прайшлі навучанне ў ЦРУ і ў 1952 годзе дэсантаваліся ў Налібоцкай пушчы з заданнем аб'яднаць беларускіх партызанаў на паўстанне супраць савецкай улады, успамінаў так: «Прызямліліся мы. Па задуме, нас павінны былі скінуць у самую глуш. Толькі я па інструкцыі склаў і схаваў парашут, бачу: ходзіць грыбнік. Пасля — яшчэ адзін».

Месцам прызямлення быў лес у раёне вёскі Кляцішча. Хто быў там, той ведае: Кляцішча цягнецца доўгай вуліцай, хаты ўсе драўляныя, гіганцкія — чаго-чаго, а лесу там даволі. Пушча на дзясяткі кіламетраў, ад вёскі да вёскі — як у тайзе.

Савецкая дзяржбяспека, відавочна, ведала пра будучы дэсант і вяла парашутыстаў, каб пабачыць, да каго яны будуць грукацца, на якія явачныя кватэры пойдуць.

Вострыкаў высадзіўся 27 жніўня, а праз дзень, 28-га, яму споўнілася 30 гадоў. Пасля будзе арышт і суд. Вострыкаў атрымае 25 гадоў лагераў, з якіх адсядзіць 23, выйдзе, створыць сям'ю і дажыве ў Гомелі да незалежнасці Беларусі. Лёс судзіў яму перажыць чалавека, пра якога ён не ведаў, але які адыграў паваротную ролю ў ягоным лёсе.

### Яго прывёў антыфашызм

Савецкія архівы, звязаныя з Філбі, дагэтуль засакрэчаныя. Вядома, што ён атрымаў ордэн Леніна і іншыя высокія савецкія ўзнагароды. І добра вядома пра ягоны побыт у Маскве, бо ўспаміны пакінула яго савецкая жонка.

Гаральд Адрыян Расэл Філбі нарадзіўся ў 1912 годзе ў Індыі ў сям'і службоўца брытанскай адміністрацыі. Пазней бацькі далі яму імя Кім — у гонар героя рамана Рэдзьярда Кіплінга.

Бацька Філбі быў вядомым арабістам — настолькі, што нават прыняў іслам і ўзяў за другую жонку дзяўчыну-арабку.

Студэнцкія гады Кіма прыпалі на час, калі галаву ўздымаў нацызм. Антыфашызм натуральна прыводзіў студэнтаў да тых, супраць каго агідны нацызм быў скіраваны. Малады Філбі ўдзельнічаў у працы Міжнароднай арганізацыі дапамогі рэвалюцыянерам (МОПР). У 1934 годзе ён ажаніўся са сваёй першай жонкай — габрэйкай-камуністкай Ліцы Фрыдман. Мяркуюць, што менавіта яна пазнаёміла Філбі з агентам НКВД Арнольдам Дэйчам, які завербаваў яго для супрацоўніцтва з Саветамі.

Пазней, калі Кім на даручэнне савецкай разведкі выконваў ролю сімпатызанта гітлераўцаў, яму і Ліцы давялося развітацца, хоць яны засталіся сябрамі і афіцыйна разышліся толькі ў 1946-м.

Дэйч быў каралём вярбоўкі. Зрэшты, не асабісты фактар, а страшная пагроза ўсім народам, Гітлер, штурхалі людзей дапамагаць Краіне Саветаў. Толькі ў Брытаніі Дэйч прыцягнуў да супрацоўніцтва з Саветамі

**Кім Філбі** (1912–1988) — савецкі агент у Вялікабрытаніі, адзін з кіраўнікоў брытанскай разведкі ў 1940–1950-я гады. Уцёк у СССР у 1963 годзе. На фота — у Маскве, 1968 год.


КОМИТЕТ ГОСУДАРСТВЕННОЙ БЕЗОПАСНОСТИ СССР

УДОСТОВЕРЕНИЕ

Товарищ Филби Гарольд Андриан Рассел

приказом КГБ СССР № 001

от 1 января 1982 г.

награжден нагрудным знаком

ПОЧЕТНОГО СОТРУДНИКА ГОСБЕЗОПАСНОСТИ

№ 6061 за заслуги в деле обеспечения государственной безопасности Союза ССР

ПРЕДСЕДАТЕЛЬ Комитета государственной безопасности СССР

**Пасведчанне КДБ СССР** на імя Гаральда Андрыяна Расэла Філбі.

каля дваццаці агентаў, у тым ліку ўсіх удзельнікаў так званай «Кембрыджскай пяцёркі». Гэтыя пяцёра выпускнікоў Кембрыджскага ўніверсітэта ў будучыні занялі высокія пасады ў брытанскіх дзяржаўных органах і разведцы.

### Спецыяльны карэспандэнт

Падчас грамадзянскай вайны 1936–1939 гадоў у Іспаніі Філбі працаваў у якасці ваеннага карэспандэнта газеты «Таймс», паралельна выконваючы заданні брытанскай разведкі. І савецкай заадно. У НКВД была нават ідэя задзейнічаць яго для замаху на генерала Франка. Філбі, сапраўды, меў доступ да франкісцкай вярхоўкі, асабліва пасля таго, як атрымаў ордэн за мужнасць падчас выканання сваіх журналісцкіх абавязкаў.

У 1940 годзе, пасля вяртання на радзіму, Філбі быў запрошаны ўжо на працу ў офісе Сакрэтнай выведнай службы (SIS) і ўжо праз год прызначаны намеснікам начальніка контрразведкі. У 1944-м ён узначаліў аддзел SIS, які займаўся савецкай і камуністычнай актыўнасцю ў Вялікабрытаніі. Такім чынам, Саветам робіцца вядома ўсё, што брытанцам вядома пра іх дзейнасць на астравах. А ў 1949–1951 гадах менавіта Філбі становіцца кіраўніком місіі сувязі ў Вашынгтоне, якая каардынуе з ФБР і ЦРУ супольныя англа-амерыканскія антыкамуністычныя аперацыі. Як вядома, у гэтых праектах актыўна бралі ўдзел і беларусы.

У 1951 годзе двух удзельнікаў «Кембрыджскай пяцёркі» выкрылі, Філбі тады таксама западозрылі ў супрацы з Саветамі, але доказаў не было, і яму ўдалося пазбегчы адказнасці. На пяць гадоў ён быў фактычна адхілены ад працы ў спецслужбах, але на той момант усе асноўныя праекты супрацоўніцтва беларускіх эмігрантаў з амерыканцамі і брытанцамі ўжо былі распачатыя і Масква атрымала інфармацыю пра іх.

### Як Філбі пасварыў эміграцыю

Кастусь Мерляк — як вынікае з раскрытых архіваў ЦРУ, ён першы з беларусаў у ЗША распачаў супрацоўніцтва з ЦРУ ў 1956 годзе, — у сваіх мемуарах паказаў Кіма Філбі злым духам беларускага палітычнага жыцця на Захадзе.

У трактоўцы Мерляка менавіта Філбі спрычыніўся да таго, што брытанская разведка вырашыла выкарыстаць у сваёй дзейнасці Радаслава Астроўскага, які знаходзіўся ў той час у брытанскай акупацыйнай зоне ў Германіі, і паспрыяла аднаўленню ў 1948 годзе дзейнасці Беларускай цэнтральнай рады, створанай яшчэ пад нацысцкай акупацыяй Беларусі ў 1943-м. У выніку ўся актыўнасць Астроўскага і ягонай БЦР на эміграцыі аказалася натуральным чынам скіраваная на нейтралізацыю палітычных канкурэнтаў з Рады БНР пад кіраўніцтвам Міколы Абрамчыка. Такая міжусобіца была на руку Саветам і каардынавалася, на думку Мерляка, іх агентам Філбі.

Факт, што, пасля таго як Філбі быў выкрыты, дзеячы эміграцыі з лагераў Рады БНР і БЦР яшчэ больш актыўна пачалі абвінавачваць адзін аднаго ў супрацоўніцтве з камуністамі. Гэта насамрэч было выгадна СССР, бо не дазваляла беларускай эміграцыі аб'ядначца.

**Філбі паспрыяў, каб брытанская разведка выцягнула з нябыту Беларускую цэнтральную раду**

### На верную смерць

Амаль пэўна, што Філбі быў датычны ў тым ліку і да правалу парашутыстаў-беларусаў, якіх ЦРУ ў паразуменні з Радай Беларускай Народнай Рэспублікі выпраўляла ў СССР у 1951–1952 гадах: Янкі Філістовіча і групы з чатырох чалавек у складзе Генадзя Касцюка, Цімоха Вострыкава, Міхала Кальніцкага і Міхала Арцюшэўскага. Вярбоўкай маладых беларусаў — у групу ўваходзілі пераважна асобы, якія ў вайну служылі на нямецкім баку, — займаўся Барыс Рагуля, які з беларускага боку быў кіраўніком праекта AEQUOR — аперацыі па перакіданні ў СССР нелегальным шляхам разведчыкаў з ліку патрыятычнай беларускай моладзі, якая жыла на Захадзе.

Янка Філістовіч быў дэсантаваны ў верасні 1951 года на Вілейшчыне.

Даследчык Алег Ліцкевіч, які знаёміўся з крымінальнай справай Філістовіча ў архіве КДБ, ▶



**Цімох Вострыкаў** (1922–2007) — беларускі агент ЦРУ, у 1952 годзе дэсантаваны ў складзе групы з чатырох чалавек у Налібоцкай пушчы. Неўзабаве быў арыштаваны і асуджаны, правёў 23 гады ў лагерах. Пазней КДБ выкарыстоўваў яго ў выкрыцці амерыканскіх агентаў у СССР.



БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА
УРАД БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
REPUBLIQUE DEMOCRATIQUE BIELORUSSIENNE
GOUVERNEMENT DE LA REPUBLIQUE DEMOCRATIQUE BIELORUSSIENNE

Гаспода 11. [illegible] 1951. X

PASVIETCANNIE.

My, Prezydent Rady Bielaruskaj Narodnaj Respubliki hetym svietčym što sp. F i l i s t o v i č Janka zjaŭlajecca sibram Rady BNR i upaŭnamočanym Pradstaŭnikom Uradu BNR.

Usim bielaruskim arhanizacyjam i ustanovam zahadyvajecca, a ustanovy prychilnych nam narodaŭ prosiacca davać sp. Filistoviču usialakuju pasilnuju dapamohu.

Mikola Abramčyk
PREZYDENT RADY BNR.

В.РАМАНОЎСКІ «САЎДЗЕЛЬНІКІ Ў ЗЛАЧЫНСТВАХ»

**Пасведчанне прадстаўніка ўрада БНР** Янкі Філістовіча.



ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

## Філбі быў страшна прыгнечаны савецкай рэчаіснасцю і запіў

▶ апублікаваў тэкст касацыйнай скаргі, нібыта напісанай асуджаным Філістовічам. У ёй падпольшчык піша, што, імаверна, быў завербаваны ЦРУ і прызначаны на ролю першага разведчыка з падказкі прэзідэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка, які бачыў у гарачым юнаку патэнцыйнага палітычнага канкурэнта сабе.

Філістовіч быў выпраўлены фактычна на смерць — ён не меў пры сабе нават рацыі і мусіў пісаць паведамленні для ЦРУ тайнапісам паміж радкоў лістоў, якія павінен быў нейкім чынам перадаваць у Францыю на адрас аднаго з беларускіх эмігрантаў. У адным з данясенняў Філістовіч пісаў, што чакае наступнага дэсанту, у склад якога мусілі б увайсці, сярод іншага, пляменнік і цёзка прэзідэнта БНР Мікалай Абрамчык і Валянцін Міцкевіч — пляменнік Якуба Коласа.

Але гэты дэсант так і не адбыўся, а ў лясах Вілейшчыны Філістовіч спаткаў толькі нешматлікую — шэсць чалавек — партызанскую групу пад кіраўніцтвам Сяргея Мікуліча і ніякай актыўнай дзейнасці не разгарнуў. МГБ ведала пра дэсант Філістовіча і абставіла яго сваімі агентамі, але пэўны час чакала, каб даведацца, якія сувязі ён мае ў БССР. У верасні 1952-га, праз год пасля дэсанту, Філістовіч быў арыштаваны, а неўзабаве — асуджаны і расстраляны.

### Беларусы як прыкрыццё?

Наступная група разведчыкаў Рады БНР была закінутая ЦРУ на тэрыторыю БССР акурат пры канцы 1952-га, калі Філістовіч яшчэ не быў арыштаваны, але амерыканцы не мелі пэўнасці, што ён дзейнічае не пад кантролем Саветаў. Таму групу пад кіраўніцтвам Генадзя Касцюка, былога жаўнера навагрудскага батальёна Барыса Рагулі, скінулі не на Вілейшчыне, а ў Налібоцкай пушчы.

Цікава, што месца дэсанту — ля вёскі Кляцішча ў ваколіцах возера Кромань — супадала з планаваным месцам дэсантавання групы Міхала Вітушкі ў лістападзе 1944 года. Тую групу таксама складалі жаўнеры батальёна Рагулі, і дэсантавацца яна мусіла з ім на чале. Толькі ў апошні момант Рагуля адмовіўся і быў заменены Вітушкам. Група Вітушкі ў выніку з-за неспрыяльных метэаўмоваў дэсантавалася зарана, ля Воранава, і сваёй задачы па арганізацыі ў Беларусі антысавецкай партызанкі не выканала.

Удзельнікі групы Касцюка неўзабаве пасля дэсанту таксама былі арыштаваныя, адзін з іх загінуў пры затрыманні. Цімоха Вострыкава, які адседзеў у лагерах 23 гады, КДБ перавербаваў і выкарыстоўваў у выкрыцці амерыканскіх агентаў у СССР. Неўзабаве пасля смерці былі апублікаваныя ягоныя мемуары, у якіх ён выказваў перакананне, што амерыканцы ў 1952-м свядома ахвяравалі беларускай групай, выкарыстаўшы яе як прыкрыццё для іншага, больш важнага агента, які дэсантаваўся адначасова з імі.

### Кім верыў

А што ж далей здарылася з Кімам Філбі? Праверка яго брытанскай контрразведкай нічога не дала, і ў 1956 годзе Філбі зноў быў прыняты на службу і накіраваны ў Бейрут. Але ў 1963 годзе ў выніку няўдалай спробы вярбоўкі місія агента Філбі правальваецца, пасля чаго яго тэрмінова нелегальна вывозяць у Савецкі Саюз. Тут ён пражыў рэшту жыцця і ўжо чацвёрты для сябе раз пабраўся шлюбам з савецкай грамадзянкай Руфінай Пухавай.

Пухава ўспамінала, што Філбі быў страшна прыгнечаны савецкай рэчаіснасцю. Настолькі, што запіў і нават спрабаваў забіць сябе. «Кім верыў у справядлівае грамадства і ўсё сваё жыццё аддаў камунізму, — расказвала ягоная жонка. — А тут яго чакала такое расчараванне, ён аж плакаў. Ён казаў: «Чаму старыя тут так кепска жывуць? Яны ж у такой вайне

**Такім жа туманным жнівеньскім ранкам 1952 года** высадзіліся са зброяй у Налібоцкай пушчы парашутысты-беларусы.

В.РАМАНОЎСКІ «САЎДЗЕЛЬНІКІ Ў ЗЛАЧЫНСТВАХ»



**Узбраенне групы Касцюка**, дэсантаванай у Налібоцкай пушчы ў жніўні 1952 года.

перамаглі», — сказала яна ў інтэрв'ю «Московскому комсомольцу».

Хоць з матэрыяльнага пункту гледжання Філбі быў забяспечаны па максімальных савецкіх стандартах, жыў у шыкоўнай кватэры ў ціхім месцы ў цэнтры Масквы. Перабежчыкам з Захаду дазвалялася шмат чаго. Калегу Філбі па «Кембрыджскай пяцёрцы» гомасэксуалу Гаю Бёрджэсу нават дазволілі завесці рускага каханка, хоць гомасэксуалізм у СССР быў крымінальным злачынствам. Што да Філбі, то кватэру яму падабралі такую, каб з двара дома быў толькі адзін выхад. Да самых апошніх дзён за ім сачылі кругласутачна. Пад канец жыцця Філбі пачалі запрашаць для кансультацый і навучання маладых разведчыкаў, таксама ён чытаў лекцыі і выступаў на ўрачыстых мерапрыемствах, прымеркаваных да розных угодкаў КДБ.

Калі былі раскрытыя архівы «Штазі», у іх быў знойдзены захапляльны ▶



**Кім Філбі і яго чацвёртая жонка Руфіна Пухава,** маладзейшая за мужа на 21 год.

Руфіна Пухава расказвала, што Філбі штовечар выпіваў дзве шклянкі каньяку. Пухава апісала і іншыя звычкі Філбі: па расійскай модзе ён піў просты чай а 7-й раніцы, а па англійскай — вечарам, а 5-й, піў чай з малаком. Да канца жыцця Філбі суправаджаў куратар з КДБ: «Аднойчы мы паехалі ў круіз па Волзе. Сядзім у каюце, абмяркоўваем планы, і я нешта ў кагэбіста спыталася. А той маўчыць і робіць выгляд, што не чуе, гартае свой часопіс. Кім ускочыў і прароў: "Хто хаміць маёй жонцы, хаміць і мне!" Бачылі б вы яго твар».

▶ дакумент: відэазапіс лекцыі Філбі. У 1981 годзе разведчыка прывозілі ў ГДР дзяліцца досведам. На відэа ён расказвае, як лёгка было падманваць калег-сібарытаў у ліберальнай Брытаніі. Напрыклад, з Бейрута ён уцёк, бо агент, прыстаўлены яго пільнаваць, пакінуў свой пост, таму што хацеў не ўпусціць нагоду пакатацца на горных лыжах, а ў ліванскіх гарах акурат выпаў снег.

Памёр Кім Філбі ў Маскве ў 1988 годзе, калі Савецкаму Саюзу заставалася існаваць толькі тры гады. Перад смерцю яму дазволілі даць інтэрв'ю журналісту Sunday Times.

А Цімох Вострыкаў памёр у Гомелі ў 2007 годзе, ужо ў незалежнай Беларусі. ◆

# Акадэмкніга прапануе




Акадэмкніга прапануе кнігу дызайнера, мастака і паэта **Міхала Анемпадыстава «Колер Беларусі»**

«Колер Беларусі» — гэта адна з першых спробаў візуалізаваць каларыстыку беларускай мінуўшчыны і сучаснасці з яе яскравымі колерамі і адценнямі, з прыроднымі структурамі, народжанымі пад уздзеяннямі трох стыхій. Дызайнерскі альбом «Колер Беларусі» стаў апошняй вялікай працай выбітнага дызайнера, мастака і паэта Міхала Анемпадыстава. Шыкоўная візуальная частка кнігі суправаджаецца аўтарскімі тэкстамі, якія раскрываюць галоўныя беларускія колеры — паходжанне іх назвы, гісторыю распаўсюду на асобных тэрыторыях, сімвалічную інфармацыю і тыя чыннікі, што ўплывалі на ўсталяванне пэўных каларыстычных прэферэнцый і стыляў. Даследуючы колер як феномен культуры і маркер традыцыі, аўтар паказвае гісторыю стыляў і задае пэўны ракурс для разумення ўласнай ідэнтычнасці.
У кнізе апісаныя 7 колераў, якімі «пафарбаваная» беларуская культура: белы, чорны, чырвоны, сіні, шэры, залаты і зялёны. Кожны «энцыклапедычны артыкул» праілюстраваны дзясяткам фота, дзе зафіксаваная прысутнасць колеру ў прыродзе і ў матэрыяльнай культуры. Чаму «красным» у Беларусі называлі зялёны колер? Чаму чорны нам не страшны? Што яднае шэры і зялёны? Як звязаны чырвоны колер з развіццём тэхналогій?
Адказы на гэтыя і шмат іншых пытанняў можна знайсці ў кнізе.

## Алексіевіч
### на беларускай мове



У найноўшым беларускім перакладзе апублікаваныя разам пяць кніг першай ў беларускай гісторыі лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры Святланы Алексіевіч, аб'яднаных у цыкл «Галасы утопіі»




**Уладзімір Арлоў. Павел Татарнікаў. Айчына: маляўнічая гісторыя.** Частка першая. Ад Рагнеды да Касцюшкі.

Гэтая кніга — для кожнай беларускай сям'і. Яна адрасаваная найперш дзецям і падлеткам, але прачытаць яе будзе карысна і дарослым: бацькам, дзядулям і бабулям, настаўнікам. Кнігу, якая выходзіць у дзвюх частках, склалі цікавыя, спазнаваўчыя і надзвычай багата ілюстраваныя апавяданні з гісторыі Беларусі. Першая частка ахоплівае час ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя.

# вялізны выбар кніг

Мінск, праспект Незалежнасці, 72
Філіял: вуліца Багдановіча, 46
Т/ф. 375-17-292-00-52, 292-46-52, 292-50-43
Філіял: 255-72-86, 351-72-87




**Сябры Вялікай Беларускай Рады.** Кастрычнік 1917 года.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ И МАСТАЦТВА

# Беларускім сцягам мог стаць трыкалор, але вайскоўцам спадабаўся бел-чырвона-белы

**З неймавернай хуткасцю бел-чырвона-белыя стужкі на вайсковай уніформе распаўсюдзіліся па ўсіх франтах заходняга тэатру баявых дзеянняў былой царскай арміі працягласцю 3 тысячы кіламетраў. Піша кандыдат гістарычных навук Уладзімір Ляхоўскі.**

Нацыянальная сімволіка цесна злучана з нацыянальнай ідэяй. Сцяг, герб і гімн, прапанаваныя нацыянальнымі элітамі і прынятыя ды замацаваныя ў свядомасці насельніцтва, становяцца своеасаблівымі «кодамі нацыі».

Узнікненне нацыянальнай сімволікі большасці народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы пачалося з «Вясны народаў» 1848—1849 гадоў, а канчаткова замацавалася яна напрыканцы Першай сусветнай вайны, падчас разбурэння поліэтнічных Расійскай і Аўстра-Венгерскай імперый. Беларусы тут не былі асаблівым выключэннем, хоць аналагічныя працэсы праходзілі ў іх са спазненнем у параўнанні з найбліжэйшымі суседзямі.

Гісторыкі, што даследуюць час станаўлення беларускага вызваленчага руху, звязанага з дзейнасцю першых нацыянальных гурткоў і таварыстваў, у тым ліку Беларускай сацыялістычнай грамады, не выявілі праектаў нацыянальнага сцяга, створаных у адзначаны перыяд. Падобна на тое, што напярэдадні Першай сусветнай вайны для беларускай нацыянальнай эліты пытанне стварэння ўласных кодаў нацыянальнай самаідэнтыфікацыі яшчэ не стаяла на парадку дня.


НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Першы варыянт праекта беларускага нацыянальнага сцяга** Л. Дубейкаўскага 1916 года.

На падставе выяўленых на сёння дакументальных сведчанняў можна лічыць, што першая спроба стварыць праект нацыянальнага сцяга была зроблена вядомым беларускім архітэктарам Лявонам Дубейкаўскім у 1916 годзе. У той час беларускія дзеячы, што апынуліся ў бежанстве ў Расіі, паспрабавалі стварыць агульнанацыянальны палітычны цэнтр. На іх паўлегальных сустрэчах неаднаразова ўзнікалі дыскусіі пра далейшыя шляхі развіцця беларускага руху. Пад уплывам гэтых размоў Дубейкаўскі зрабіў свае першыя накіды праекта беларускага сцяга, якія сімвалізавалі сабой гэты рух.

Свой варыянт сцяга архітэктар зрабіў у снежні 1916 года, калі знаходзіўся ў Петраградзе і кароткі час працаваў у Беларускім таварыстве дапамогі ахвярам вайны. У наспех накіданым эскізе Дубейкаўскі выкарыстаў традыцыйныя «агульнаславянскія» колеры: чырвоны, белы і сіні, якія прысутнічалі на нацыянальных сцягах сербаў, славенцаў, харватаў, чэхаў і славакаў. Схематычна праект беларускага сцяга ўяўляў з сябе прастакутнае белае палотнішча, на якім у левым сегменце быў размешчаны чырвоны квадрат у прапорцыі 1:2 да ўсяго сцяга; ад чырвонага квадрата па гарызанталі раўналежна адыходзілі тры сінія паласы аднолькавай шырыні. На жаль, аўтар не пакінуў аніякіх тлумачэнняў адносна таго, якую ідэйную нагрузку мусілі мець асобныя элементы гэтай выявы. Увогуле, складваецца ўражанне, што дадзены малюнак не быў да канца завершаны аўтарам. Пра яго тады, відаць, ніхто так і не даведаўся ці ведала толькі вузкае кола людзей. Таму гэтая гісторыя не набыла розгаласу.


НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Лявон Дубейкаўскі** падчас шпацыру па старой Вільні. 1930-я гады.

Лютаўская рэвалюцыя 1917 года абудзіла нацыянальнае самаўсведамленне і дала моцны імпульс далейшаму развіццю ▶

▶ нацыянальных рухаў на тэрыторыі былой царскай імперыі. Важным чыннікам гэтай этнічнай мабілізацыі становяцца ўжо «легітымізаваныя» нацыянальныя сімвалы: сцягі, стужкі і банты ў адпаведных колерах, якія выкарыстоўваліся прыхільнікамі незалежнасці адпаведных краін. Нацыянальныя сімвалы сталі неад'емным атрыбутам палітычнай салідарнасці і мабілізацыі людзей. Без іх не адбывалася аніводная грамадская падзея: маніфестацыя, з'езд ці вайсковыя парады.

Асаблівае значэнне гэтая сімволіка набыла ў войску, дзе акурат у той час сталі ствараць нацыянальныя фармаванні. Нагадаем, што напярэдадні бальшавіцкага перавароту ў складзе былой царскай арміі разам з польскімі нацыянальнымі легіёнамі ўжо дзейнічалі латышскія, эстонскія і ўкраінскія стралковыя, кавалерыйскія і артылерыйскія часткі. Беларусы-вайскоўцы ў фарміраванні сваіх узброеных аддзелаў трохі спазніліся: толькі ўвосень 1917 года яны абралі нацыянальныя франтавыя рады, якія кааптавалі сваіх прадстаўнікоў у створаную ў Менску Цэнтральную беларускую вайсковую раду (ЦБВР). Але стварыць уласныя нацыянальныя палкі ці корпус да бальшавіцкага перавароту ЦБВР не паспела. Тым не менш ужо з ліпеня 1917 года беларусы-вайскоўцы, аб'яднаныя ў нацыянальныя гурткі і камітэты, на сваіх мундзірах і шынялях пачалі актыўна выкарыстоўваць бел-чырвона-белыя стужкі, што адрознівала іх ад прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў былой царскай арміі. Абавязак насіць адпаведную пятлічную стужку ці бант быў замацаваны рашэннем II сесіі Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый у Менску 5 жніўня 1917 года. Падобны сцяг узгадваецца ў вершы «Покліч» падпаручніка 43-га Сібірскага стралецкага палка Ігната Дварчаніна, надрукаванага 21 лістапада 1917 года ў газеце «Вольная Беларусь» («Пад свой сцяг чырвона-белы пасклікай усіх сыноў, параскіданых па свеце, каб збіраліся дамоў»).

Відавочна, аднак, што бел-чырвона-белыя колеры ў верасні — лістападзе 1917 года яшчэ не былі прынятыя лідарамі беларускага руху ў якасці элементаў нацыянальнага сцяга, які б увасабляў імкненне беларусаў да аўтаноміі ці федэрацыі (тады яшчэ мала хто думаў пра поўную незалежнасць). Ускосным пацвярджэннем гэтага можа служыць фота сяброў Вялікай беларускай рады (ВБР) у Менску, датаванае 15 (28) кастрычніка 1917 года. Прысутныя на фота знятыя на фоне простага белага палотнішча, на якім чырвонымі літарамі напісана: «Няхай жыве вольная Беларусь!». Пры гэтым на вопратцы і вайсковых мундзірах беларускіх актывістаў не бачна аніводнай бел-чырвона-белай стужкі. Таксама мы ведаем, што менавіта ў лістападзе 1917 года, напярэдадні правядзення Усебеларускага з'езда, кіраўніцтва ВБР замовіла праект такога сцяга згаданаму вышэй Лявону Дубейкаўскаму.

На творчы суд ВБР Дубейкаўскі хутка прэзентаваў свой новы варыянт нацыянальнага сцяга. У колеравым вырашэнні новы эскіз супадаў з ранейшым яго малюнкам, пра які ішла гаворка вышэй, але ў астатніх элементах меў істотныя адрозненні.

**Бальшавіцкі камісар назваў гэты сцяг «нацыянальнай анучай» і запатрабаваў скінуць яго. У адказ генерал-лейтэнант Канстанцін Аляксееўскі апусціўся на калена і пацалаваў край палотнішча**



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ И МАСТАЦТВА

**Другі варыянт беларускага нацыянальнага сцяга** Л. Дубейкаўскага 1917 года.



**Варыяцыя бел-чырвона-белага сцяга**, якую выкарыстоўвала Беларуская рада ў Вільні ў 1918 годзе.

На новым эскізе, што захоўваецца цяпер у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, мы бачым тое ж прастакутнае палотнішча белага колеру ў суадносінах шырыні да даўжыні 1:3; левы сегмент сцяга каля дрэўка займае вертыкальная чырвоная паласа ў прапорцы 1:6 да ўсёй даўжыні палотнішча; па сярэдзіне сцяга (па гарызанталі) праз усё палатно праходзіць блакітная палоска ў прапорцыі 1:6 да ўсёй шырыні. На малюнку сцяг трымае ганаровы сцяганосец, апрануты ў традыцыйныя лапці і белую сялянскую вопратку, перавязаную васількова-белым поясам. Увесь урачысты строй завяршаўся высокім белым капелюшом на галаве.

Ёсць ускосныя сведчанні (напрыклад, успаміны Язэпа Дылы), што ВБР папярэдне ўхваліла гэты праект і ён быў прадстаўлены дэлегатам Усебеларускага з'езда на адным з яго першых пленарных пасяджэнняў. Але ў наступныя дні працы форуму пад уплывам дэлегатаў-вайскоўцаў фігураваў ужо толькі бел-чырвона-белы сцяг. Паводле газеты «Беларуская Рада», ужо 7(20) снежня 1917 г. на з'ездзе разам з белым транспарантам з надпісам «Няхай жыве вольная Беларусь!» і чырвоным партыйным сцягам БСГ прысутнічаў таксама «нацыянальны чырвона-белы сцяг з надпісам: "За родны край, за вольную Беларусь!"». Гэты факт пацвярджае карэспандэнт менскай бальшавіцкай газеты «Советская правда» (за 23.12.1917 (5.12.1918), № 19), які схаваўся пад псеўданімам Георгій Фанвіч. У сваім рэпартажы «"Всебелорусский" съезд» ён паведамляў, што на трэці дзень працы з'езда ад імя Абласнога выканаўчага камітэта саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту выступіў камісар-латыш Людвіг Рэзаўскі, які прапанаваў «замяніць паўбелы, паўчырвоны штандар на чырвоны сцяг Інтэрнацыянала». На самай справе, Рэзаўскі з асаблівым цынізмам зняважыў гэты сцяг, назваўшы яго «нацыянальнай анучай» і запатрабаваўшы скінуць яго. У адказ дэлегат з'езда генерал-лейтэнант Канстанцін Аляксееўскі, апусціўшыся на калена, у знак пашаны да штандара, пацалаваў край палотнішча.

Сёння мы можам канстатаваць: бел-чырвона-белы сцяг атрымаў прызнанне ў прыхільнікаў незалежнасці Краю якраз падчас Усебеларускага з'езда. Як сведчыў пазней беларускі палітык і паэт Макар Краўцоў, з пачатку студзеня 1918 года ў Мінску «зусім легальна, пры бальшавіках», над пад'ездам дома № 2 па Паліцэйскай вуліцы, дзе месцілася сядзіба ЦБВР, удзень і ўначы вісеў бел-чырвона-белы штандар. Іншыя альтэрнатыўныя праекты на гэты момант адпалі самі па сабе і больш нідзе не згадваліся.

Доўгі час аўтарства бел-чырвона-белага сцяга заставалася невядомым. Толькі ў пачатку 1990-х гадоў у якасці яго стваральніка ўсплыло імя аднаго з «айцоў» БНР Клаўдзія Дуж-Душэўскага. У ягонай следчай справе, што захоўвалася ў былым архіве КДБ Літоўскай ССР, была выяўлена копія яго аўтабіяграфіі на літоўскай мове, датаваная жніўнем 1934-га. У гэтым дакуменце Душэўскі засведчыў, што ў першай палове 1917 года яму «давялося зрабіць некалькі праектаў нацыянальнага сцяга, і адзін з іх быў ►

Гісторыя з беларускім бел-чырвона-белым штандарам на Усебеларускім з'ездзе атрымала свой працяг у застойны савецкі час. Кіруючыся негалоснымі камуністычна-гэбісцкімі ўстаноўкамі па недапушчэнні ў навуковую літаратуру і сродкі масавай інфармацыі аб'ектыўных звестак і фактаў пра беларускі нацыянальны рух, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ Сцяпан Пачанін у 1977 годзе ў сваёй манаграфіі «Историей обреченные», спасылаючыся на згаданы ў гэтым тэксце рэпартаж 60-гадовай даўніны з газеты «Советская правда», груба сфальсіфікаваў выкладзены ў ім факт: замест бел-чырвона-белага (ці «паўбелага, паўчырвонага», як было ў арыгінале) сцяга ён упісаў «пунсова-блакітны». Часам гэтая «дэза» яшчэ і сёння выкарыстоўваецца як «аргумент» прыхільнікамі «гістпартаўскай» трактоўкі нашай найноўшай гісторыі. Між тым гэты выпадак — лішняе сведчанне таго, што навуковай гістарыяграфіі беларускага нацыянальнага руху ў савецкі час проста не існавала. Яна цалкам замянялася прапагандысцкімі пасквілямі, аўтарам якіх ніколі нельга верыць на слова. Нават цытаты за «гісторыкамі» з партбілетамі трэба абавязкова правяраць!

СА ЗБОРАЎ АРСЕНЯ ЛІСА




**Клаўдзій Дуж-Душэўскі (злева) і Антон Бакач** разам з жонкамі й дзецьмі.

прыняты, а менавіта — бел-чырвона-белы. Ад таго часу гэты сцяг і лічыцца беларускім нацыянальным сцягам».

На падставе ўзгаданай вышэй аўтабіяграфіі Дуж-Душэўскага, а таксама з архіўных дакументаў Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны ў Петраградзе і Рады Міністраў БНР можна прыкладна вызначыць дату стварэння бел-чырвона-белага сцяга. Душэўскі, магчыма, ведаў пра праект, зроблены Дубейкаўскім, і гэта магло падштурхнуць яго, тады яшчэ студэнта Горнага інстытута, да стварэння ўласнага варыянта сцяга. Ёсць падставы меркаваць, што праект быў замоўлены Душэўскаму гуртком беларусаў-вайскоўцаў Петраградскага гарнізона.

**Хто быў аўтарам сцяга, стала вядома са следчай справы, што захоўвалася ў архіве КДБ Літоўскай ССР**

На сёння нідзе не прыведзена дакументальных сведчанняў, якія абвяргалі б словы Клаўдзія Дуж-Душэўскага. Пярэчанні пэўных даследчыкаў, што Душэўскі ў снежні 1917-га не прысутнічаў на Усебеларускім з'ездзе, на якім адбылося прызнанне бел-чырвона-белага сцяга, не вытрымліваюць крытыкі. Бо і Лявон Дубейкаўскі, аўтар альтэрнатыўнага праекта, прадстаўленага на з'ездзе, таксама быў тады не ў Менску, а ў Арле. Па-другое, бел-чырвона-белая сімволіка яшчэ да снежня 1917 года ўжо атрымала шырокую папулярнасць сярод беларусаў-вайскоўцаў. З неймавернай хуткасцю бел-чырвона-белыя стужкі на вайсковай уніформе распаўсюдзіліся па ўсіх франтах заходняга тэатру баявых дзеянняў былой царскай арміі адлегласцю ў 3 тыс. км.

З абвяшчэннем Беларускай Народнай Рэспублікі бел-чырвона-белы сцяг быў канчаткова замацаваны ў якасці дзяржаўнага сімвала Беларусі. 8 мая 1918 года адмысловай камісіяй па ўвядзенні эмблем і вонкавых знакаў пры Народным сакратарыяце БНР бел-чырвона-белы сцяг быў канчаткова ўхвалены як «дзяржаўны сцяг Рэспублікі». Пастанова ўрада БНР была пададзена на канчатковае зацвярджэнне Радзе БНР (на жаль, пратакол пасяджэння, дзе разглядалася гэтае пытанне, не захаваўся). З гэтага часу можна канстатаваць, што бел-чырвона-белы сцяг стаў агульнапрызнанай святыняй для беларускіх незалежнікаў. ◆




**Адбітак пячаткі Беларускага вучыцельскага хаўруса ў Менску. 1919–1920 гады.**

**Святкаванне першых угодкаў Акта 25 Сакавіка** ў Горадні ў 1919 годзе мясцовым беларускім актывам.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ ЛІТВЫ (НГМЛ)

# Раскрадзены арсенал

## Як шведы, рускія, палякі і немцы пазакопвалі, павывозілі і патапілі ўнікальную калекцыю Нясвіжскага замка

**У Беларусі не засталося ніводнай гарматы з калекцыі Радзівілаў, піша кандыдат гістарычных навук Мікола Волкаў. Між тым у яе ўваходзілі шэдэўры, кошт якіх нават цяжка ацаніць.**

Адным з найбольш жаданых трафеяў у войнах мінулых стагоддзяў былі гарматы. Такія трафеі былі не толькі зброяй: паколькі на бронзавых ствалах, як правіла, знаходзіліся гербы і надпісы з імёнамі ды тытуламі замоўцаў, то авалоданне такой гарматай было натуральным сведчаннем здабытай перамогі. Некаторыя гарматы ўяўлялі сабой сапраўдныя шэдэўры ліцейнага мастацтва, што рабіла іх надзвычай прэстыжнай здабычай.

Артылерыйскі парк Нясвіжскай фартэцыі, які стварыў Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка на мяжы XVI–XVII стагоддзяў, налічваў каля 30 гармат. З іх 22 былі адлітыя на замову магната непасрэдна для новазбудаванай рэзідэнцыі.

Найбольш каштоўныя гарматы былі выраблены ў людвісарні, якую ўзвялі на тэрыторыі Нясвіжскага замка, спецыяльна запрошаным нямецкім майстрам Германам Мольцфельтам. Яны адрозніваліся выдатным мастацкім аздабленнем і ідэйным напаўненнем. Гэта стала для іх і праклёнам, і выратаваннем. Цягам некалькіх стагоддзяў Нясвіжскі замак займалі варожыя войскі. У выніку многія з гармат былі страчаныя, аднак восем штэк, адлітых Германам Мольцфельтам, дзякуючы высокім мастацкім якасцям зберагліся да цяперашняга часу.

### Першыя страты

Першыя гарматы Сіроткі пакінулі Нясвіжскі замак неўзабаве пасля яго смерці. У 1618 годзе рэзідэнцыю Радзівілаў наведаў каралевіч Уладзіслаў, які накіроўваўся ў выправу на Маскву, спадзеючыся здабыць сабе царскую карону. Ад Яна Юрыя Радзівіла, сына Сіроткі, ён атрымаў шчодры падарунак: найбольш магутныя гарматы з нясвіжскага арсенала «Св. Мікалай» і «Св. Крыштаф». Вядома, што ў жніўні 1618-га іх прывезлі пад Мажайск для аблогі гэтай крэпасці.

Да 1619 года дзве гарматы ліцця Мольцфельта — «Гідра» і «Мелюзіна» — былі перададзены ў Біржанскі замак, які належаў Радзівілам кальвінскай лініі. ▶




**Гармата «Мелюзіна».** Малюнак Філіпа Якаба Тэлота, XVIII стагоддзе.



Найбольш каштоўныя гарматы былі выраблены ў людвісарні Нясвіжскага замка спецыяльна запрошаным нямецкім майстрам **Германам Мольцфельтам**

**Нясвіжскі замак.** Гравюра Тамаша Макоўскага, пачатак XVII стагоддзя.

Першая з іх неўзабаве была вернута ў Нясвіж, а другая стала здабычай шведскай арміі, што захапіла замак у Біржах у 1625 годзе. Аблогай кіраваў кароль Густаў II Адольф Ваза, які, ацаніўшы мастацкія якасці нясвіжскай гарматы, загадаў адправіць яе ў Стакгольм, дзе яна захоўваецца і сёння.

У час вайны 1654–1667 гадоў пагроза захопу навісла над самім Нясвіжскім замкам. Пры гэтым, як пісалі сучаснікі тых падзей, у выпадку захопу фартэцыі ў рукі непрыяцеля трапіла б «такая выдатная артылерыя» (у дакументах па-польску «*tak zacna armata*»). Верагодна, пад увагу браліся не толькі значная колькасць гармат, сабраных у гэты час у Нясвіжскім замку, але і іх каштоўнасць. Тым не менш, у гэтую вайну фартэцыя не была здабыта, а яе артылерыя засталася на месцы.





**Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка.** Гравюра па партрэце Лукаса Кіліяна, 1638 год.

### Выпрабаванні Паўночнай вайны

Фатальнай для Нясвіжскага замка стала Вялікая Паўночная вайна. 20 мая 1706 года да фартэцыі падышла шведская армія на чале з Карлам XII. Слабы гарнізон, якому далі ўсяго паўгадзіны на роздум, капітуляваў. Кароль застаўся ў Нясвіжы на тры дні і меў магчымасць асабіста агледзець захоплены замак і яго артылерыю.

Земляныя валы было загадана зраўняць з зямлёй, мураваныя канструкцыі — узарваць, а палацы — спаліць. Нясвіжскі адміністратар Ежы Таўрыловіч, які назіраў за гэтым, лічыў, што шведы знішчылі і ўсю артылерыю. Аднак ён памыляўся. Захопнікі пашкодзілі цяжкія бронзавыя гарматы, якія было немагчыма транспартаваць, а жалезныя, што не ўяўлялі каштоўнасці, затапілі. У сваю чаргу, лёгкія бронзавыя гарматы Карл XII загадаў забраць з сабой, каб пасля пераправіць іх у Швецыю для дэманстрацыі сваіх перамог.

Аднак далёка вывезці нясвіжскія гарматы шведы не змаглі. Атрад, якому была даручана іх перавозка, меў на мэце як мага хутчэй злучыцца з асноўнымі шведскімі сіламі, якія ўжо выступілі на Валынь, таму накіраваўся туды найкарацейшай дарогай праз мястэчка Лахва. Але шведы не ўлічылі складанасць пераправы цераз Прыпяць і былі вымушаныя проста затапіць трафейныя гарматы. Толькі ў 1717 годзе Таўрыловіч даведаўся пра затопленую ў Лахве артылерыю. Неўзабаве з вады былі паднятыя і вернутыя ў Нясвіж 11 гармат і 2 марціры. Так, дзякуючы збегу абставін, найбольш каштоўныя гарматы перажылі вайну, у якой і шведскія, і расійскія войскі мэтанакіравана «чысцілі» арсеналы фартэцый Вялікага Княства.

### За часамі Пане Каханку

Да сярэдзіны XVIII стагоддзя баяздольнасць радзівілаўскай прыватнай міліцыі і артылерыі значна ўзрасла. Таму тагачасны нясвіжскі ардынат Караль Станіслаў Радзівіл Пане Каханку вырашыў у 1764-м і ў 1768-м выступіць супраць прарасійскай партыі, якая кіравала дзяржавай.

**Карл XII не ўлічыў складанасць пераправы цераз Прыпяць і свае трафеі вымушаны быў проста затапіць**

У выніку супраць яго двойчы скіроўваліся моцныя расійскія карпусы, якія займалі Нясвіжскі замак. У першым выпадку абышлося без стратаў для нясвіжскай артылерыі, і падавалася, што і ў другі раз расійскія войскі не крануць маёмасць Пане Каханку. Але на пачатку 1771 года сітуацыя карэнным чынам змянілася, і расійскае камандаванне вырашыла знішчыць альбо вывезці ўсё ўзбраенне. Гэта было выклікана бескампраміснай пазіцыяй Радзівіла, які не хацеў ісці на супрацоўніцтва з Расійскай імперыяй. У студзені 1771-га са Слуцка ў Нясвіж былі дастаўленыя 52 гарматы і 3 марціры. Неўзабаве 41 слуцкая гармата разам з 26 нясвіжскімі былі вывезены з замка і знішчаны. На пачатку красавіка яшчэ 11 слуцкіх і 10 нясвіжскіх гармат адправілі ў Свержань, дзе іх пабілі на кавалкі і прадалі. «Чыстка» нясвіжскага арсенала працягвалася



**Караль Станіслаў Радзівіл Пане Каханку, 1767 год.** Пасля смерці бацькі ў 1762 годзе Караль Станіслаў стаў уласнікам вялікай спадчыны і адначасова галавой усяго роду Радзівілаў. Гэта дало яму магчымасць рэалізаваць свае амбіцыі і пазмагацца за першае месца на палітычнай арэне Рэчы Паспалітай з магутнай партыяй Чартарыйскіх, якую падтрымлівала Расія. Не выклікае сумнення, што амбіцыі магната нават сягалі манаршага тытула.

да 1775 года. Камендант замка Юзаф Сабескі, назіраючы гэта, пісаў: «Масква забірае ўсё, што толькі можна вывезці, пакідаюць толькі сцены».

Паводле Сабескага, пасля сыходу расійскіх жаўнераў у 1775 годзе ў замку засталася толькі адна скураная гармата. Апошняя з'яўлялася своеасаблівым рарытэтам, непрыдатным для выкарыстання. Гарматы са скуры выраблялі ў XVII стагоддзі шведы, але пазней ад гэтага эксперыментальнага віду зброі адмовіліся.

**Найбольш каштоўныя Пане Каханку загадаў схаваць. Мабыць, іх закапалі недзе ў самім замку**

Аднак не ўсе нясвіжскія гарматы былі знішчаныя, бо найбольш каштоўныя, у тым ліку 7 мольцфельтаўскіх, Пане Каханку перад ад'ездам загадаў схаваць. Ёсць падставы меркаваць, што іх закапалі недзе ў самім замку. Практыка хавання скарбаў у падзямеллях і лёхах часта практыкавалася ўладальнікамі Нясвіжскага замка, калі фартэцы пагражала небяспека.

Пра тое, што Радзівіл нешта прыхаваў, расійскаму камандаванню было вядома. Таму вясной 1771-га, калі пачалося рабаванне замка, расійскія жаўнеры ў пошуках скарбаў сталі старанна вывучаць і капаць скляпы, лёхі і равы вакол замка. Аднак ім не ўдалося нічога знайсці. Надзея адшукаць скарбы Пане Каханку адрадзілася ў маі 1773-га, калі нейкі Штамберк, што служыў падафіцэрам у корпусе артылерыі Радзівіла, прызнаўся, што ведае, дзе схаваныя гарматы. Па яго арыенціроўцы спачатку капалі ля капліцы, а пасля перад тыльнай брамай, якая вяла да грэблі. Нарэшце ў Нясвіж быў прыведзены сам Штамберк, які зноў капаў ля капліцы. Але пошукі былі безвыніковыя, і ў хуткім часе іх спынілі. Пасля вяртання Нясвіжскага замка Пане Каханку ў 1777 годзе схаваныя гарматы разам з іншымі скарбамі былі выцягнутыя са сховішчаў, а ў 1784-м іх паказвалі каралю Станіславу Аўгусту, які наведаў радзівілаўскую сталіцу. Дзе і як хаваў свае скарбы Радзівіл, застаецца таямніцай.

## Хованкі і знаходкі

Апошнім акордам ваеннай гісторыі Нясвіжскага замка стала аблога фартэцыі ў 1792 годзе, калі ў Рэч Паспалітую былі ўвайшлі расійскія войскі, каб перашкодзіць рэформам Чатырохгадовага сойма. 15 чэрвеня фартэцыя была заблакавана і ў хуткім часе здалася. За чатыры тыдні да пачатку аблогі Мацей Радзівіл загадаў пабіць лафеты і пахаваць гарматы. Камендант замка Дамінік Дзядзерка сцвярджаў, што перад здачай замка было схавана 66 стваловў. Паводле іншых дадзеных, у замку ў гэты час магло быць сабрана больш за 80 гармат. Пры гэтым вядома, што расійскія жаўнеры захапілі ў Нясвіжы толькі 47 гармат. Такім чынам, значная частка гармат не трапіла ў рукі захопнікаў.

Цёмнай старонкай у гісторыі Нясвіжскага замка і яго артылерыі застаюцца падзеі 1812 года. Тагачасны ўладальнік замка Дамінік Радзівіл у вайне Францыі з Расіяй выступіў на баку Напалеона, а пасля быў вымушаны адступіць разам з французамі, пакінуўшы Нясвіжскі замак на рабаванне расійскаму войску. Праўда, перад гэтым, як і ў папярэднія часы, гарматы разам з іншымі каштоўнасцямі, верагодна, былі схаваныя. На жаль, ніякіх канкрэтных звестак пра гэта мы не маем. Не ведалі пра гэта і сучаснікі ▶




НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

**Праект разбудовы ганка** паўднёвага корпуса, другая палова XIX стагоддзя.

ФОТА: «Z DZIEJÓW NIEŚWIEŻA»



**Гармата «Хімера»** на дзядзінцы Нясвіжскага замка, 1920–1930-я гады.

тых падзей. Таму нечаканасцю стала знаходка ў 1819 годзе ў адным з падзямелляў замка закапаных гармат. Усяго з зямлі былі выцягнутыя 32 лёгкія гарматы. Цяжка сказаць, калі гэтыя гарматы былі прыхаваныя — гэта магло адбыцца ў 1792-м ці ў 1812-м. Што цікава, сярод знойдзеных гармат не было сямі мольцфельтаўскіх, якія немаведама як, але перажылі гэтыя складаныя часы. Без адказу застаецца і інтрыгоўнае пытанне: ці ўсе гарматы, схаваныя ў 1792-м і 1812-м, былі знойдзены?..

ФОТА: «KAISER WILHELM II. AUS MEINEM LEBEN 1859–1888»



**Нямецкі кронпрынц Вільгельм** на паляванні на мядзведзя ў ваколіцах Нясвіжа, 1886 год.

### Цікавостка для гасцей

Да 1834 года ў Нясвіжы знаходзіліся 42 гарматы, ці дакладней гарматныя ствалы, якія ляжалі без лафетаў і пакорліва чакалі вырашэння свайго лёсу. Яны былі падзеленыя на дзве групы. Палова з іх — найбольш старажытныя і прыгожыя — былі прызнаныя ўласнасцю Радзівілаў і знаходзіліся ў Нясвіжскім замку. Усе гэтыя гарматы засталіся на месцы да пачатку Першай сусветнай вайны. Больш за тое, дакладна можна сцвярджаць, што 15 з іх захаваліся да цяперашняга часу. Ад адпраўкі ў плавільныя печы іх уратавалі высокія мастацкія якасці і гістарычная каштоўнасць. Яшчэ 21 гармата з Нясвіжскага замка была прызнана ўласнасцю «манаршага скарбу», і да 1841 года іх пусцілі на пераплаўку.

Тым часам слава пра нясвіжскія гарматы пачала шырыцца па краі. Адным з першых, хто напісаў пра іх для шырокай публікі, быў Уладзіслаў Сыракомля. У сваёй кнізе, выдадзенай у 1853 годзе, ён адзначыў: «Шкада, што не ўдалося аздобіць кнігу малюнкамі гэтых найпрыгажэйшых гармат, якія смела можна назваць выдатнымі творамі мастацтва».

Зрабілі ўражанне гарматы і на жонку Антонія Вільгельма Радзівіла Марыю Дароту дэ Кастэлян, якая ўпершыню наведала замак у 1865 годзе.

### Людвісары — майстры, што рабілі гарматы

Ліцейшчыкаў у нас называлі **людвісарамі** (ад ням. Rotgießer — «ліцейшчык», майстар, які працуе з бронзай), ці **гісэрамі** (ад ням. gießen — «ліць»). Першапачаткова яны былі вандроўнымі рамеснікамі і не мелі сталых майстэрняў. З другой паловы XV стагоддзя, калі тэхналогія вырабу ствалоў ускладнілася, з'явілася практыка заснавання пастаянных ліцейных майстэрняў. Такія майстэрні называліся людвісарні, ці гісэрні. Іх заснoўвалі ў найбольш зручных з эканамічнага і ваенна-лагістычнага пункту гледжання месцах.

Людвісарні ў той час былі двух тыпаў. Першы — вялікія прадпрыемствы, якія паўставалі з ініцыятывы дзяржавы. Такія, як віленская людвісарня сярэдзіны XVI стагоддзя, арганізаваная на загад Жыгімонта II Аўгуста, каб забяспечваць артылерыяй памежныя замкі ВКЛ. Другі — майстэрні асобных ліцейшчыкаў, якія працавалі на замову прыватных асоб. Людвісараў маглі наймаць на працяглы час. Тады яны ставілі свае варштаты ў горадзе, для якога замаўляліся гарматы альбо званы. Добры прыклад — немец Герман Мольцфельт, для якога Мікалай Радзівіл Сіротка загадаў узвесці майстэрню ў самім Нясвіжскім замку. Аднак у большасці выпадкаў Радзівілы замаўлялі гарматы ў людвісараў, якія мелі свае варштаты ў вялікіх гарадах (Гданьск, Вільня і іншых).

У Еўропе прадпрыемствы такога кшталту да сярэдзіны XVII стагоддзя мелі часовы характар і паступова занепадалі са змяншэннем цікавасці з боку дзяржаўных структур. З сярэдзіны XVII стагоддзя з умацаваннем цэнтральнай улады ў еўрапейскіх краінах пачалі ствараццa вялікія мануфактуры па вытворчасці зброі, якія працавалі на сталай аснове і выконвалі дзяржаўныя замовы на забеспячэнне ўзбраеннем вялікіх рэгулярных армій. **У Рэчы Паспалітай з прычыны адсутнасці абсалютысцкіх тэндэнцый армія заставалася нешматлікай, а справа вытворчасці зброі захоўвалася ў руках асобных рамеснікаў ажно да канца Рэчы Паспалітай.**

Яна пісала: «Замкавая капліца была майстэрняй цесляроў. Яны працавалі сярод разбітых алтароў і слынных гармат, занадта цяжкіх, каб іх мог хто-небудзь прыўлашчыць». У далейшым, верагодна, з ініцыятывы маладой гаспадыні паўстала першая ідэя экспанавання гармат. Меркавалася прыбудаваць вялікі ганак да паўднёвага корпуса палаца, у аздабленні якога выкарыстаць 10–12 ствалоў старажытных гармат.

У 1886-м Нясвіжскі замак прымаў нямецкага кронпрынца Вільгельма. У сваіх успамінах госць згадвае пра гарматы, якія яму прадэманстравалі: «Гэтыя ствалы маюць не толькі вялікую каштоўнасць як вырабы з бронзы, але і дэманструюць высокі ўзровень ліцейнага мастацтва і ў такой колькасці наўрад ці прадстаўленыя ў якім-небудзь музеі артылерыі».

Кронпрынц парэкамендаваў «паставіць іх вертыкальна вылетам угару як слупы для даху альтанкі, якую можна размясціць на вялікім, пазбаўленым аздаблення дзядзінцы замка». Але Антоній Вільгельм Радзівіл абмежаваўся тым, што выклаў гарматы ля ганка паўднёвага корпуса.

### У Расію і назад

Пераломным момантам у гісторыі нясвіжскай калекцыі гармат стала Першая сусветная вайна. Магутнае нямецкае наступленне ў 1915 годзе вымусіла расійскую армію адыходзіць на ўсход, што суправаджалася маштабнай эвакуацыяй каштоўнасцей. Абавязковаму вывазу ў Расію падлягалі ў тым ліку вырабы з бронзы, якая з'яўлялася важнай сыравінай для ваеннай прамысловасці. Таму ўсе гарматы былі вывезеныя з Нясвіжскага замка.

**Пасля ўзяцця Берліна радзівілаўскую артылерыю выцягнулі з развалаў цэйхгаўза, але адправілі не на радзіму, а ў артылерыйскі музей Ленінграда**

У глыбіні Расіі гарматы перажылі вайну, у адрозненне ад вялікай колькасці царкоўных і касцельных званоў, якія ў большасці пусцілі на пераплаўку. Мірная дамова, заключаная ў 1921 годзе паміж савецкай Расіяй і Польшчай, стварыла юрыдычныя падставы для вяртання артылерыі ў Нясвіж, які апынуўся ў межах новаўтворанай польскай дзяржавы. Неўзабаве, у 1922-м, Польшчы былі перададзены 24 гарматы, якія належалі Радзівілам. З-за неспакойнай міжнароднай абстаноўкі і вялікай верагоднасці аднаўлення вайны артэфакты вырашылі адразу не перадаваць у памежны Нясвіж і змясцілі на дзядзінцы Каралеўскага замка ў Варшаве.

Акрамя таго, тагачасны нясвіжскі ардынат Альбрэхт Радзівіл за вяртанне гармат павінен быў выплаціць дзяржаўнаму скарбу 15% ад іх кошту. Пазней яму была зроблена зніжка да 7,5%, але і гэтая сума была завялікай для ўладальніка Нясвіжскага замка. ▶

ФОТА МІКОЛЫ ВОЛКАВА

**Казённая частка гарматы «Хімера», пашкоджаная ў час бамбардзіравання берлінскага цэйхгаўза.**



**Гарматы «Цэрбер» і «Вінаград»** ля будынка Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Менску. Фота Бруна Томаса, 1942 год.

У выніку замест грошай ён перадаў дзяржаве чатыры гарматы, а астатнія 20 урэшце былі адпраўленыя ў Нясвіж. Найбольш каштоўныя з іх атрымалі простыя драўляныя лафеты і былі выстаўленыя на замкавым дзядзінцы.

## Развітанне з радзімай

У Нясвіжы гарматы прабылі нядоўга. У верасні 1939-га горад занялі савецкія войскі. Радзівілы былі вымушаныя пакінуць сваю рэзідэнцыю, а новыя гаспадары пачалі дзяліць іх скарбы. У 1940 годзе ўсе гарматы перадалі Дзяржаўнаму гістарычнаму музею ў Менску.

Неўзабаве пачалася новая вайна, і сталіцу БССР занялі немцы. У 1942 годзе акупаваны Менск наведаў вядомы аўстрыйскі зброязнаўца Бруна Томас, і найбольшую ўвагу яго прыцягнулі якраз нясвіжскія гарматы. Ён пісаў, што нямецкія ваенныя ўлады ўжо два разы збіраліся адправіць іх на пераплаўку, а адзінай магчымасцю іх уратаваць быў вываз у Нямеччыну. Супраць гэтай ідэі выступіла кіраўніцтва Генеральнай акругі Беларусь, якое жадала пакінуць гарматы ў Менску ў якасці сведчання «нямецкага культурнага ўплыву на ўсходзе». Тым не менш яны былі вывезеныя і ў чэрвені 1943-га перададзеныя берлінскаму цэйхгаўзу (арсеналу), у якім знаходзіўся музей узбраення.

Як пазначана ў акце прыёмкі, у Берлін было прывезена 17 гарматных ствалоў. Але і тут нясвіжскія гарматы не затрымаліся надоўга. Пры гэтым падчас адной з апошніх бамбардзіровак саюзнай авіяцыяй нямецкай сталіцы цэйхгаўз зазнаў значныя разбурэнні, а многія яго экспанаты, у тым ліку і нясвіжскія гарматы, былі пашкоджаныя. Сляды мінулай вайны і цяпер выразна бачныя на іх ствалах.

Пасля ўзяцця Берліна савецкімі войскамі і ўсталявання новай улады радзівілаўская артылерыя не засталася па-за ўвагай савецкіх спецыялістаў, якіх прыслалі для пошуку каштоўнасцей, вывезеных з тэрыторыі СССР. Гарматы былі выцягнутыя з развалаў цэйхгаўза і адпраўленыя ў артылерыйскі музей Ленінграда. Варта адзначыць, што нясвіжскай калекцыі зноў пашанцавала, бо многія іншыя гарматы берлінскага цэйхгаўза пайшлі на пераплаўку. Аднак і ў Ленінградзе нясвіжскія гарматы доўга не затрымаліся. Ужо ў 1948 годзе савецкі ўрад перадаў большасць з іх Польшчы. У паўночнай сталіцы Расіі пакінулі толькі дзве, а ўсе астатнія гарматы трапілі ў Музей польскага войска ў Варшаве. Такім быў доўгі і пакручасты шлях выдатнай па сваіх мастацкіх якасцях і гістарычнай каштоўнасці калекцыі гармат з Нясвіжскага замка, якія на цяперашні час раскіданыя па музеях Польшчы (Музей польскага войска ў Варшаве), Расіі (Музей артылерыі ў Санкт-Пецярбургу), Украіны (Львоўскі гістарычны музей) і Швецыі (Музеі арміі ў Стакгольме).

Зусім нядаўна арыгінальная жалезная гармата з'явілася і ў самім замку Радзівілаў у Нясвіжы. Яе знайшлі ў 2007 годзе падчас правядзення рэстаўрацыйных работ у замкавым рове. Жалезная, канца XVII стагоддзя. Такая, у адрозненне ад прыгожай бронзавай, мела яўна практычнае прызначэнне. Цяпер яна ў пастаяннай экспазіцыі мясцовага музея. А не так даўно для яго былі выраблены таксама копіі дзвюх мольцфельтаўскіх гармат, што знаходзяцца ў Санкт-Пецярбургу. ◆







# МАЯ САБАЧАЯ СПРАВА




## Неймаверныя прыгоды ў свеце сабачых жэтонаў

**Пра сваю незвычайную калекцыю расказвае Аляксандр Ачарэтні.**

Гісторыю можна вывучаць па-рознаму, не толькі па кнігах. Так, адзін мой прыяцель займаецца сфрагістыкай. Ён калекцыянуе старыя пячаткі ды штампы і па іх вывучае гісторыю. Ёсць знаёмыя філабутаністы: яны займаюцца калекцыянаваннем мундзірных гузікаў, а гэта вельмі ўдзячная аснова для вывучэння войнаў, якія пракаціліся па нашай краіне. Вывучаць гісторыю роднага краю можна нават па посудзе! Калекцыянеры сталовых прыбораў распавядуць вам такое, чаго не прачытаеш ні ў якой кнізе.

Я збіраю сваю калекцыю параўнальна нядаўна, з 2011 года. Умоўна называю яе «кіналагічнай». У гэтай калекцыі сабраныя прадметы, так ці інакш звязаныя з сабакамі і сабакагадоўляй. Прычына такой тэматыкі вельмі простая: мая праца і мае захапленні так ці інакш звязаныя з сабакамі і паляваннем. Большасць прадметаў маёй калекцыі паходзіць з тэрыторый, якія можна гістарычна аднесці да беларускіх, незалежна ад іх цяперашняй дзяржаўнай прыналежнасці.


ФОТА АЛЯКСАНДРА АЧАРЭТНЯГА

**Крэсіва — металічная прылада для высякання агню з крэменю.** Высечаная з крэменю іскра падпальвала цэру (маса, утвораная з вываранага і высушанага дрэвавага грыба, моху, лёну). Крэмень, крэсіва і цэру насілі звычайна ў скураным мяшэчку каля пояса з левага боку. Бытавала з эпохі жалезнага веку да XIX стагоддзя, калі з'явіліся запалкі.

### Сабакі з казкі Андэрсана

На фота — дзве бронзавыя ручкі ад крэсіва. Ручка з адным сабакам адносіцца да сярэдзіны XIX стагоддзя. А тая, што з трыма сабакамі, — больш ранняя. Наколькі ранняя, сказаць складана, бо гэтыя прадметы пакуль што навукоўцамі вывучаюцца не надта скрупулёзна.

«Самотны сабака» быў знойдзены ў пачатку 2000-х у раёне Лунінца, а ручка «з трыма галовамі» — недалёка ад горада Янава на Берасцейшчыне.

Такія ручкі, як першая, знаходзяць на велізарнай тэрыторыі ад цэнтральных раёнаў Польшчы да Урала. А вось тры сабачкі сустракаюцца куды радзей, і часцей за ўсё на тэрыторыі Беларусі і ўсходней, аж да Цэнтральнай Расіі.

Цікавы сюжэт, выяўлены на гэтай ручцы. Безумоўна, існавала нейкае агульнаеўрапейскае паданне, якое звязвала трох сабак, агонь і крэсіва. У сярэднія вякі не толькі кот, але і сабака быў увасабленнем цёмных сіл і лічыўся памочнікам сатаны. Яркі адгалосак гэтых еўрапейскіх легендаў — казка Ганса Хрысціяна Андэрсана «Крэсіва», у якой фігуруюць і старая ведзьма, ►

Гэты ашыйнік знойдзены ў Смаленскай вобласці на месцы, дзе ў пачатку XIX стагоддзя стаяла карчма.

і тры страшныя сабакі-ахоўнікі ў падзямеллі, уладу над якімі атрымлівае ўладар крэсіва. Ну і, канечне, спрытны салдат, які ўсіх падмануў і ажаніўся з прынцэсай. Як вядома, сюжэты для сваіх казак Андэрсан браў з народных паданняў, прычым зусім не дзіцячых. Ён толькі адаптаваў іх пад юнага чытача, прыбіраючы адтуль найбольш віртуозныя зверствы і порна-сцэнкі.

Думаю, што і ручка крэсіва з галовамі трох сабак — адгалоссе тых страшных гісторый для дарослых, з якімі ўсе тады былі знаёмыя. Што да пазнейшага сабачкі, то гэта ўжо зусім стылізаваны водгалас падання, на якое ўсе, напэўна, ужо забыліся: маўляў, сабачка сабе і сабачка.

## Улюбёнец карчмара з-пад Смаленска

Наступны экспанат «сабачай калекцыі» — гэта ашыйнік. Гісторыя яго даволі займальная. Знойдзены ён у Смаленскай вобласці на месцы, дзе ў пачатку XIX стагоддзя стаяла карчма. Такія месцы лічацца патэнцыйна вельмі багатымі на знаходкі, аднак з масавым з'яўленнем металадэтэктараў у пачатку новага тысячагоддзя яны былі літаральна вычышчаныя аматарамі прыборнага пошуку.

Але аднойчы праз месца, што раскінулася на вядомым тракце — ужо настолькі падчышчанае тысячамі скарбашукальнікаў, што шукаць там, здавалася б, няма чаго, — сталі пракладаць дарогу. Для гэтага здымалі пласт грунту ў паўметра таўшчынёй. Пра будаўнічыя работы ў такой цікавай мясцовасці даведаўся мой смаленскі прыяцель, ён і апынуўся на месцы ў ліку першых. Бульдозер адкрыў пласт вуголля. Спадарожныя знаходкі (манеты) адназначна сведчылі пра год пажару: не пазней за 1812-ы. Гэта значыць, што карчма, хутчэй за ўсё, згарэла падчас вайны з Напалеонам.

Вось у гэтым пажарышчы і быў знойдзены бронзавы ашыйнік, які




**Жэтон датаваны 1867–1868 гадамі і выдадзены сабаку з «прапіскай» у горадзе Кёнігсбергу,**

які належаў Усходняй Прусіі. Менавіта з Усходняй Прусіі пайшло масавае распаўсюджанне сабачых жэтонаў. Традыцыя хутка распаўсюдзілася па ўсіх астатніх нямецкіх землях, а затым перакінулася на польскія, літоўскія, беларускія і ўкраінскія землі. Сабак пачалі рэгістраваць спачатку ў Варшаве і Вільні, затым па ўсёй Беларусі і Украіне, а пасля і на ўсёй тэрыторыі імперыі.

калісьці насіў вельмі вялікі сабака. Прытым сабака быў не толькі вялікім, але, відаць, дарагім і любімым, бо звычайныя вясковыя сабакі тады насілі «збрую» з вяроўкі (хто прасцейшы) ці з сырамятнай скуры (больш салідныя). А бронзавы ашыйнік быў прыкметай сабачай эліты.

На ашыйніку захавалася пяцелька для замка. Асаблівым шыкам для таго часу лічылася павесіць на ашыйнік маленькі замок, ключ ад якога знаходзіўся заўсёды пры гаспадару: ён служыў доказам таго, што сабака належыць яму.



**Медзялянскія сабакі** цалкам зніклі да пачатку ХХ стагоддзя.

## Медзялянскія сабакі – парода вялікіх сабак, якія былі распаўсюджаныя ў Беларусі, але ў ХХ стагоддзі зняліся

Якая парода магла насіць такі вялікі ашыйнік? Я адмыў яго ад наліплай за стагоддзі зямлі і паспрабаваў прымерыць на свайго сабаку. Сабака ў мяне буйны, але ашыйнік быў яму безнадзейна вялікі. І прыйшоўся ў самы акурат толькі сабаку бардоскага дога. А гэта, трэба сказаць, проста велізарны сабака.

Якія ж буйныя пароды былі распаўсюджаныя на Смаленшчыне да пачатку ХІХ стагоддзя? Адказ адназначны: медзялянскія сабакі.

Існавалі, вядома, і іншыя пароды. Але, несумненна, менавіта медзялянін быў прыкметай статусу і дастатку, мог служыць рэкламай піцейнай установе і адначасова дысцыплінаваць наведнікаў адным сваім выглядам.

Медзялянскія сабакі — асаблівае адгалінаванне адной з італьянскіх парод, завезенай спачатку на тэрыторыю ВКЛ, а потым і ў Расію. Калі менавіта – невядома, дакладна раней за XVIII стагоддзе. Сама назва пароды кажа пра яе паходжанне: горад Мілан па-лацінску пішацца як *Mediolanum*, па-польску яго таксама называюць *«Мэд'ёланам»*.

Выдадзены ў 1882 годзе энцыклапедычны ўсенавуковы слоўнік пад рэдакцыяй Віктара Клюшнікава апісваў медзялянцаў наступным чынам: «Парода прысадзістых, тоўстых, з прытупленай пысай сабак. Медзялянкі цяжкія і няўклюдныя, але надзвычай моцныя, рашучыя і смелыя. Асабліва прыдатныя для палявання і барацьбы з дзікімі звярамі. Некаторыя асобіны бяруць мядзведзя ў адзіночку».

Да пачатку ХХ стагоддзя гэтая парода цалкам знікла.




Найстаражытнейшы сабачы жэтон адносіцца да перыяду Старажытнага Рыма і захоўваецца ў Брытанскім музеі. Надпіс на жэтоне, зроблены на вульгарнай народнай лаціне, гаворыць: **«Трымай мяне, не дай уцячы і вярні майму гаспадару Вівенцію ў маёнтак Каліста».**

### Жэтон на шыі

Асноўная частка маёй сабачай калекцыі – жэтоны. Для пачатку трэба акрэсліць, чым адрозніваецца жэтон ад іншых «відюлек», якія часам можна пабачыць на ашыйніку. Жэтон — гэта свайго роду дакумент, які нясе інфармацыю.

Жэтон можа сведчыць пра тое, каму сабака належыць (сюды можна залічыць і распаўсюджаныя сёння «адраснікі»), што сабаку зробленыя прышчэпкі ад пэўных хвароб (часцей за ўсё гаворка ідзе пра шаленства), што сабака хатні і за яго заплачаны падатак, што гэта паляўнічы сабака, за яго заплачаны падатак і яму дазволены выхад у паляўнічыя мясціны, што сабака браў удзел у выставе ці быў нейк адзначаны.

Самыя старыя ўзоры маёй калекцыі датаваныя ХІХ стагоддзем. Адзін з іх — круглы і літы, што вялікая рэдкасць, бо звычайна яны штампаваныя. Гэты жэтон куплены ў антыкварнай краме ў Хельсінкі, ён вісеў некалі на шыі сабакі з прыватнай псярні. Надпіс па-руску прачытаць не ўдалося, хоць, мяркуючы па ўсім, там напісана прозвішча ўладальніка. ◆

## Рэгістрацыя сабак набыла масавы маштаб у міжваеннай Польшчы.

Свае асаблівыя знакі выпускаліся ў кожнай гміне. Нумарны жэтон сведчыў пра аплату штогадовага падатку за сабаку. На фота — падборка жэтонаў розных гадоў і розных мясцовасцей міжваеннай Польшчы.

Былі тады і спробы ўніфікацыі. Так, у 1937 годзе майстэрня Леона Бытнера з Познані атрымала вялікую дзяржаўную замову на выраб сабачых жэтонаў для некалькіх гмін Польскай Рэспублікі.

Не ведаю, як у вас, але ў мяне ў галаве зразу ж замільгалі сучасныя паняцці, такія як «тэндар», «дзяржзамова» і нават «адкат». Аднак, магчыма, я і не маю рацыі.




## Характэрныя ўзоры савецкіх рэгістрацыйных сабачых жэтонаў.

Гэта яскравы прыклад саўковай кандовасці і пагардлівага стаўлення да ўсяго. Танна, груба, непрыгожа. Як здзек у такім ракурсе ўспрымаюцца словы «Усё для чалавека, усё ў імя чалавека». Каб адчуць розніцу, варта параўнаць гэтыя прадметы з двума алюмініевымі і адным бакелітавым жэтонамі сярэдзіны XX стагоддзя, выробленымі ў Германіі і Аўстрыі.







## Жэтон берлінскага сабакі, знойдзены ў полі пад Мінскам

(злева). Відавочна, нейкі «турыст» з Германіі ў пачатку 40-х гадоў мінулага стагоддзя прыехаў у Беларусь са сваім улюбёнцам. Прытым гэта жэтон не вайсковага сабакі, а звычайнай хатняй жывёлы. Другі жэтон выдадзены ў мястэчку Ленін Жыткавіцкага раёна. А трэці жэтон выдала ў 1900 годзе Іркуцкая гарадская ўправа. Памятаеце штамп са словам «уплочено», які булгакаўскі кот Бегемот паставіў у даведцы Мікалая Іванавіча (Вепрука) як пацвярджэнне, што той прысутнічаў на балі Сатаны? Дык вось слоўца «уплочено» — гэта не смешачкі Булгакава, як многія думаюць, а граматычная норма таго часу.




**Жэтоны з назвамі беларускіх населеных пунктаў, выдадзеныя ўладамі Трэцяга Рэйха асабістым сабакам мясцовага насельніцтва.**

Яны сведчылі пра аплату падатку. У 1942 годзе нямецкім уладам на нашых тэрыторыях была справа да ўсяго, уключаючы нават прыватных сабак, якія сядзелі навязанымі на падворках.

# Трыумф і трагедыя аднаго сялянскага роду



# РЫГОР МАЗАЛЕЎСКІ

## *самы багаты селянін Гродзенскай губерні*

**Для большасці з нас сяляне, што жылі сто і болей гадоў таму, асацыююцца перадусім з галечай, жыццёвай беспрасветнасцю і непісьменнасцю — «паны сахі і касы». На самай справе ўсё было зусім не так, піша доктар гістарычных навук Сяргей Токць.**

Пасля адмены прыгоннага права ў 1861 годзе беларускія сяляне атрымалі маёмасныя правы і законныя магчымасці ўзбагачацца: набываць зямлю ва ўласнасць, закладаць прадпрыемствы, займацца гандлем. Некаторыя вяскоўцы хутка скарысталіся з гэтага і сталі заможнымі землеўладальнікамі, прадпрымальнікамі і купцамі. У савецкай гістарыяграфіі іх называлі «кулакамі» і абвінавачвалі ў эксплуатацыі аднавяскоўцаў. Такой сялянскай буржуазіі гісторыкі прысвячалі значна менш увагі ў параўнанні з вясковым пралетарыятам, і ў выніку беларускі селянін-буржуа так і застаўся таямнічым незнаёмцам з дрэннай рэпутацыяй.

Аднак гістарычная рэальнасць выглядала больш складанай.




**Местачковая плошча ў Скідзелі,** побач з якой знаходзіўся родавы пляц Рыгора Мазалеўскага. Фотаздымак пачатку XX ст.

«Багатыры», як называлі ў беларускай вёсцы багатых гаспадароў, былі звычайна людзьмі моцнымі і неардынарнымі, хоць іх шляхі да ўзбагачэння рэдка адпавядалі жыццепісанням хрысціянскіх святых. Яркі прыклад — Рыгор Мазалеўскі з мястэчка Скідзель, які стаў самым багатым селянінам Гродзенскай губерні канца XIX стагоддзя.

### Сын бунтаўніка, які стаў начальнікам

Мазалеўскія былі карэннымі жыхарамі Скідзеля. Калі ў 1829 годзе скідляне ўзбунтаваліся супраць уладальніцы мястэчка княгіні Чацвярцінскай, то адным з важакоў бунту стаў бацька Рыгора Іван Мазалеўскі. Княгіня аддала яго ў салдаты, хоць Іван меў ужо 39 гадоў. Далейшы ягоны лёс невядомы. Рыгор, які меў тады 12 год, вырас у сям'і дзядзькі Якуба.

Паводле гаспадарчага інвентара маёнтка Скідзель 1845 г., ён ужо быў самастойным гаспадаром, меў сына Сцяпана (памёр маленькім). Потым Рыгор пакінуў гэтую гаспадарку сваім братам і заснаваў новую. Паводле рэвізскай сказкі 1858 года, ён жыў з жонкай Тэкляй, сынамі Лявонам, Пятром і Іванам, дачкой Ганнай.

У 1861 годзе сяляне Скідзельскай воласці абралі Рыгора Мазалеўскага старшынёй. Яго ўзрост тады быў прыкладна 46 гадоў. Варта ўзгадаць, што перад гэтым Мазалеўскі быў паліцэйскім тысяцкім: ажыццяўляў паліцэйскую ўладу ў маёнтку Чацвярцінскіх. Напэўна, што ён знайшоў паразуменне з уладальнікам — князем Канстанцінам Чацвярцінскім (1792–1871), сынам Калеты (1774–1840), якая незаконна аддала ў салдаты ягонага бацьку. Цікава, што Рыгор Мазалеўскі адзіны з жыхароў Скідзеля пагадзіўся прыняць землі, якія ім прапанавалі Чацвярцінскія замест адабраных (астатнія скідляне змагаліся за зварот старой зямлі ажно да 1939 года). Хоць зямля і была няўдобіцай, Мазалеўскі яе ўгнойваў і атрымліваў добры ўраджай.

Рыгор Мазалеўскі, чалавек няпростага характару, кіраваў воласцю жалезнай рукой. Але ў час паўстання 1863 года над ім навісла пагроза.

## У Скідзелі захавалася паданне, што Мазалеўскі прысвоіў скарб паўстанцаў 1863 года, які паслужыў яму першапачатковым капіталам

### Як змяняліся прозвішчы

На прыкладзе сям'і Мазалеўскіх можна ўбачыць, як змяняліся прозвішчы беларусаў. У інвентары, складзеным яшчэ ў Рэчы Паспалітай у 1792 годзе, прадзед Рыгора запісаны як «Дымітр Мазоль». У 1816 годзе чыноўнікі Расійскай імперыі ўжо запісалі Рыгоравага дзеда Сымона прыгожым прозвішчам Мазалеўскі: «Семен Змитриев Мозолевский».

### Пасварыўся са святаром і ледзь не трапіў у Сібір

26 лістапада 1863 года віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў напісаў гродзенскаму губернатару, што Мазалеўскі «позволил себе в самых неблагонамеренных выражениях отзываться на счет правительственных распоряжений, поясняя, между прочим, что Императрица ▶



**Магіла Рыгора Мазалеўскага** і яго жонкі на скідзельскіх могілках. Сучасны выгляд.

▶ Екатерина, заграбивши этот край, лишила их тех привилегий и преимуществ, какими предки их будто-бы пользовались, что Русское правительство установило крепостное право, которого в Польше не существовало, и что, наконец, Высочайший манифест 19-го Февраля 1861 года не принес существенного улучшения их быта». Акрамя таго, Мазалеўскі нібыта быў прасякнуты польскім духам і рэвалюцыйнымі

## Багатых гаспадароў беларусы называлі «багатырамі»

настроямі, моцна спачуваў ідэям паўстання. Дзеля таго Мураўёў прапанаваў Мазалеўскага, «як чалавека нядобранадзейнага і шкоднага», выслаць разам з сям'ёй. Як аказалася, скаргу на Мазалеўскага напісаў скідзельскі святар Іван Хамічэўскі, у якога адбыўся канфлікт з валасным старшынёй з-за народнага вучылішча.

Рыгора Мазалеўскага выратавала тое, што за яго заступіліся мясцовыя ўплывовыя чыноўнікі, якія пазычалі грошы ў спраўнага селяніна. Губернатар Іван Скварцоў 10 лютага 1865 года даслаў у Вільню ліст з просьбай пакінуць Рыгора Мазалеўскага «на ранейшым месцы жыхарства і пры займанай пасадзе», але пачаць за ім тайны нагляд паліцыі.





Ілля Рэпін. **Касар-літвін.** Фрагмент.

### У селяніна добры адвакат

У Скідзелі захавалася паданне, што Мазалеўскі прысвоіў скарб паўстанцаў 1863 года, які паслужыў яму першапачатковым капіталам. Так ці не, але ў 1869-м ён сышоў з палітыкі ў бізнэс — пакінуў пасаду валаснога старшыні і засяродзіўся на кіраванні сваёй вялікай гаспадаркай.

Як паўставала багацце Рыгора Мазалеўскага? Усё пачалося ў 1864 годзе, калі ўладальнік суседняга маёнтка Каўшова Мікалай Кахоўскі падараваў селяніну 8 дзесяцін зямлі. Хутчэй за ўсё, такім чынам ён разлічыўся за пазыку. Як сірата Мазалеўскі стаў адным з асноўных крэдытораў акругі? Верагодна, узбагаціцца яму дапамаглі пасады. Яшчэ да пасады валаснога старшыні ён выконваў функцыі паліцэйскага тысяцкага ў маёнтку Скідзель, напэўна, кантраляваў корчмы... Пры гэтым яго сваякі, сям'я дзядзькі, так і засталіся звычайнымі гаспадарамі ў Скідзелі.

У 1865-м селянін Мазалеўскі купіў луг Абалонь у свайго былога пана Канстанціна Чацвярцінскага (ягоная маці аддала ў салдаты Рыгоравага бацьку Івана). Здзелка выклікала канфлікт з сялянамі вёскі Гліняны, якія лічылі гэтую зямлю сваёй. Мазалеўскі на правах валаснога старшыні наклаў на глінянцаў штрафы за спробу забраць сена са спрэчнага лугу, а некаторых уласнаручна збіў, ледзь не пакалечыўшы.

Маёнтак Мазалеўскага ўвесь час разрастаўся, часта цаной не зусім справядлівых здзелак. У снежні 1877-га селянін вёскі Каўшова Міхал Шагун скардзіўся ўладам, што ягоны былы пан Аляксандр Кахоўскі аддаў яму 6 дзесяцін зямлі «як забеспячэнне ўзятых у яго 150 рублёў». Пан даў селяніну распіску, якая, аднак, не мела юрыдычнай сілы, і абяцаў пры продажы маёнтка здзейсніць фармальную купчую крэпасць, але раптоўна памёр. Судовы прыстаў прадаў маёнтак Кахоўскага Рыгору Мазалеўскаму, а новы гаспадар не пажадаў прызнаваць правы Шагуна на тую зямлю. Губернскія ўлады параілі Шагуну звярнуцца ў суд, але шанцаў выйграць працэс у Мазалеўскага непісьменны селянін не меў.

У 1879 годзе сяляне вёскі Пузавічы таксама беспаспяхова судзіліся з Рыгорам Мазалеўскім за ўрочышча Старына. Мазалеўскі пры гэтым не траціў асабісты час на судовыя

пасяджэнні, ягоныя інтарэсы бараніў калежскі асэсар Алімп Бучынскі.

### Шмат грошай даваў на дабрачыннасць

У 1890 годзе Рыгору Мазалеўскаму належалі маёнткі Мількаўшчына (980 дзесяцін зямлі) і Каўшова (1383 дзесяцін), і ён тады з'яўляўся найбуйнейшым у губерні землеўладальнікам сялянскага паходжання.

Трэба прызнаць, што Мазалеўскі шмат грошай аддаваў на дабрачыннасць, асабліва на ўпрыгожванне скідзельскай Свята-Пакроўскай царквы, дзе быў ахрышчаны. Пасля вялікага пажару ў Гродне ў маі 1885-га ён ахвяраваў пагарэльцам 100 рублёў. Памёр Рыгор Мазалеўскі 11 чэрвеня 1895 года ў 78 гадоў і быў пахаваны ля скідзельскай царквы.

Паводле тастаменту, яго маёнтак на той час ацэньваўся астранамічнай для селяніна сумай — 116 940 рублёў. Рыгор завяшчаў маёнтак Радзівонавічы з фальваркам Суцькі сыну Ляву, маёнтак Каўшова і палову маёнтка Лагер — Івану, фальварак Кахова і другую палову Лагера — Сымону, а Вялікую Мількаўшчыну — малодшаму Андрэю. Дачкам выплочваліся вялікія сумы грошай.

### Пасля Рыгора

Усе маёнткі Мазалеўскага перайшлі ў спадчыну сынам. Багатыры сялянскага паходжання мелі праблемы з адаптацыяй да новага статусу, з цяжкасцю пераадольвалі комплексы. Прыклад гэтага — дарожнае здарэнне, якое адбылося са старэйшым сынам Рыгора Мазалеўскага Іванам. 10 студзеня 1889 года парабак князя Друцкага-Любецкага, прускі падданы Андрэй Фалярынскі, на параконнай фурманцы спрабаваў абагнаць фурманку Івана Мазалеўскага, што апошні расцаніў як абразу і, «подъехав к корчме при деревне Пузевичах, вызвал находившихся в оной несколько человек, которые начали наносить Фоляринскому побои, от которых он по доставлении приехавшими в Пузевичи товарищами батраками домой в фольварок Лавно вскоре умер».

### Унучка заснавала Тэатр юнага гледача

Першая сусветная вайна стала выпрабаваннем для роду Мазалеўскіх. Унучка Рыгора Любоў Іванаўна Мазалеўская (1903–1964) у 1920 годзе далучылася да Чырвонай Арміі. У 1926-м яна скончыла ў Маскве Беларускую тэатральную студыю і стала пазней вядомай беларускай артысткай і тэатральным рэжысёрам, стваральніцай Беларускага тэатра юнага гледача. У міжваенны час Любоў Мазалеўская перапісвалася са сваімі сяброўкамі з Каўшова і Скідзеля.

Валоданні Мазалеўскіх «за польскім часам» паменшалі. У 1921-м маёнтак Каўшова Івана Мазалеўскага складаў 790 дзесяцін, маёнтак Мількаўшчына Андрэя Мазалеўскага — 630 дзесяцін. Мазалеўскія наймалі на працу шматлікіх парабкаў. Мясцовы краязнаўца Аляксандр Сявенка запісаў успаміны пра тое, што ў маёнтку Каўшова парабкаў запрашалі за адзін з гаспадарамі стол і не шкадавалі ім «ні сала, ні кілбасаў». Дзяцей з бедных сем'яў паілі малаком. Мазалеўскія ўвесь час вялі сялянскі лад жыцця і радніліся з мясцовымі сялянамі. Паводле інфармацыі польскай паліцыі, яны цікавіліся беларускім нацыянальным рухам, але камуністычны характар гэтага руху не мог іх не адстрашваць.

### Усіх расстралялі і выслалі, апошняга забілі партызаны

Прыход савецкай улады ў верасні 1939 года азначаў крах роду Мазалеўскіх. Яны хутка страцілі свае маёнткі, у якіх былі створаны калгасы. Але пазбаўленне ўласнасці было толькі пачаткам трагедыі. Ужо ў верасні 1939 года Іван Мазалеўскі быў расстраляны разам з польскімі асаднікамі ў гміне Жыдомля актывістамі мясцовага рэўкама. Былы ўладальнік Мількаўшчыны Андрэй Мазалеўскі і ягоныя сыны Рыгор, Уладзімір ды Канстанцін былі ў 1940-м асуджаныя як «сацыяльна небяспечныя элементы» на тэрміны ад 5 да 8 гадоў лагеру (усе пазней рэабілітаваныя). Таксама былі арыштаваныя сыны Івана Рыгоравіча Мазалеўскага: Іван, Рыгор і Андрэй.

Застаўся на Скідзельшчыне толькі Канстанцін Іванавіч — малодшы ўнук Рыгора Мазалеўскага. Косцік, як яго называлі, з прыходам немцаў у 1941 годзе пайшоў служыць у паліцыю. Летам 1943-га на хутар, дзе Косцік жыў з маці і сястрой, прыйшлі партызаны. Ён прапанаваў ім выпіць гарэлкі, а ў часе выпіўкі смяротна параніў аднаго партызана, свайго школьнага сябра, нажом.

Партызаны застрэлілі Косціка і спалілі хутар. Загінулі таксама яго маці і сястра. 15-гадовы парабак Пеця Лапыш, які стаў сведкам падзей, мусіў падацца ў партызаны.

Памяць пра Мазалеўскіх была выкраслена з афіцыйнай гістарычнай памяці іх малой радзімы. Зніклі будынкі, не захаваліся фотаздымкі. Лёс гэтага сялянскага роду адлюстроўвае лёсы прадпрымальнай часткі беларускага сялянства. Гэтыя моцныя і спраўныя людзі маглі шмат зрабіць для беларускага нацыянальнага руху, для народа і дзяржавы, але віхура гісторыі нішчыла і ламала іх у першую чаргу, часта з каранямі вырываючы з роднай зямлі. ◆

У 1905 годзе сын Рыгора Мазалеўскага **Іван** валодаў маёнткам Каўшова (1 135 дзесяцін), ягоны брат **Андрэй** — Мількаўшчынай (1096,5 дзесяцін), **Сымон** валодаў маёнткам Пілатаўшчына ў Гарадоцкай воласці Беластоцкага павета, а **Леў** — Радзівонічамі і Круглянамі ў Луненскай і Горніцкай валасцях Гродзенскага павета.

**Летам 1943-га на хутар, дзе Косцік жыў з маці і сястрой, прыйшлі партызаны**

**Сяргей Токць** (нар. 1968) — доктар гістарычных навук, жыве ў Гродне. Вывучае гісторыю Беларусі XIX–XX стагоддзяў. Аўтар некалькіх манаграфій, асноўная з якіх — «Беларуская вёска ў эпоху змен: другая палова XIX – першая траціна XX ст.» (Мінск, 2007)

ТАА «І-ЭКС-ПІ КЭПІТАЛ», УНП 191780020

**Даўней беларускія малочныя прадукты цаніліся не менш, чым цяпер. Нават у Вялікабрытаніі — раскапаў доктар гісторыі Алесь Белы.**



# Ці трэба абуваць БЕЛАРУСКІХ СЫРАВАРАЎ у лапці?

На фота: **выгляд малачарні ў Пружанах «пры першых немцах».** Каля 1916 года.

Цяпер самы распаўсюджаны вобраз даўняга беларускага сыравара на ўпакоўцы малочных прадуктаў — селянін з густымі сівымі вусамі, у вышыванцы і брылі. Такі вобраз прапануе гандлёвая марка «Пан Мысліцкі», блізкі мае і «Ян Сыравар». Яну Сыравару ў Верхнядзвінску нават помнік паставілі, у дадатак яшчэ і ў лапцях. Але рэальныя майстры-сыравары выглядалі інакш: гэта былі людзі, апранутыя паводле еўрапейскай прафесійнай моды.

## Паны — сыры, сяляне — масла

Рынкавае сыраварства пачало ў нас развівацца ў другой палове XIX стагоддзя. Спачатку сырамі займалася шляхта ў сваіх фальварках, потым малочная гаспадарка пачала пераходзіць на капіталістычныя рэйкі. У справу ўцягнуліся заможныя сяляне.

Калі грымнуў сусветны аграрны крызіс 1880-х гадоў, а параплавы з Аргенціны ды паравозы з Украіны завалілі ўвесь свет танным збожжам, мужык з панам, спыніўшы на хвіліну сваю адвечную спрэчку, са здзіўленнем зразумелі, што традыцыйнае земляробства ў Беларусі не акупляецца. Не тыя тут землі і не той клімат, каб рабіць стаўку на збожжа. Спатрэбілася гадоў з дваццаць, жыццё цэлага

пакалення, каб пакутліва намацаць новае месца ў міжнародным падзеле працы. Тады і пачалася сапраўдная гісторыя малочнай гаспадаркі Беларусі, найперш на поўначы і паўночным захадзе краіны.

Паны тады кінуліся выарабляць модныя заходнія сыры: бакштайны ды эмэнталеры, а мужык, які не меў яшчэ адукацыі ды капіталу, але не хацеў прадаваць сваю працу за капейкі, пачаў старанна збіваць масла. І не са смятаны, як вякамі дагэтуль, а з вяршкоў. Балазе шведы акурат тады вынайшлі механічны сепаратар, а таму не трэба было чакаць, пакуль тыя вяршкі ці смятана адстаяцца, з рызыкай яшчэ і сапсавацца пры гэтым. Канец XIX — пачатак XX стагоддзяў стаў часам імклівага росту малочных сялянскіх арцеляў, найперш на поўначы Беларусі. Асабліва шмат іх было ў Дзісенскім павеце — сённяшніх Мёрскім, Шаркаўшчынскім, Глыбоцкім і Пастаўскім раёнах Віцебскай вобласці. Нізінныя, балоцістыя, амаль як тыя Данія ды Галандыя, мясціны на радзіме Язэпа Драздовіча ды Вацлава Ластоўскага ідэальна надаваліся для малочнай жывёлагадоўлі.

Упершыню сялянская масларобчая арцель была створана ў Фядосаве (сучасны Мёрскі раён), а ў 1910 годзе ў Дзісенскім павеце было ўжо 10 арцеляў і 14 кааператыўных малочных заводаў — самыя вядомыя ў Галенаве і Пярмянах. Асабліва шмат кааператураў-масларобаў было ў ваколіцах Глыбокага. Поспех дзісенцаў перакінуўся і на правы бераг Дзвіны, натхніўшы жыхароў суседняга Дрысенскага павета.




**Вокладка брашуры з серыі «Сялянская бібліятэка»**, якая прапагандавала тэорыю і практыку вытворча-збытавай кааперацыі ў малочнай гаспадарцы.

## Дзісенскае масла займала першыя месцы ў англійскім рэйтынгу і каштавала на 2–4 шылінгі даражэй, чым іншыя гатункі

Было сялянам у каго вучыцца. Узорная гаспадарка Плятэр-Зіберкаў у Лужках, чые самавітыя мураванкі дажылі і да нашых часоў, вяла рэй і ў вытворчасці масла, і ў развядзенні пародзістай малочнай жывёлы — англійскай, альгойскай, фрысландскай. Абшарнікі Дзісенскага павета наладзілі кантакт з «Самапомаччу» з Рыгі, якая дапамагла ім арганізаваць збыт масла ў Заходнюю Еўропу.

### Дзісенскае масла на еўрапейскіх сталах

Ахвочыя пакаштаваць масла з-над Дзісны неўзабаве знайшліся не толькі ў Варшаве, Рызе і Кіеве, але і ў Гановеры, Дармштаце, Гамбургу, Парыжы. Асабліва паспяхова развіваўся экспарт у Англію. У 1905 годзе з Дзісенскага павета было адпраўлена туды масла на 10 тысяч, у 1908-м — на 175 тысяч, а ў 1910 — на 260 тысяч рублёў! Улічыце, што тагачасны рубель раўняўся сённяшняй сотні. Дзісенскае масла займала адно з першых месцаў у англійскім рэйтынгу і каштавала на 2–4 шылінгі за фунт даражэй, чым іншыя гатункі масла ▶

Mleczarnia Hurczyna
Wilno, Wielka 53 (róg Szklanej).
Filia Ś-to Jerski prospekt 9.
POLECA: mleko, śmietankę, śmietanę, masło śmietankowe, masło solone, sery, miód.
WĘDLINY LITEWSKIE.

**Рэклама крамаў прыватнай малачарні** Гурчына ў міжваеннай Вільні. Цяпер вуліца Вялікая называецца Дыджоі.

▶ з Расійскай імперыі. Яно збывалася без пасярэднікаў праз транспартную кантору «Герхард і Гей» у Лондан і Лідс. Па прыбыцці ў Англію па пошце высылаўся аванс ад 36 да 45 рублёў за бочку, а рэшта выплачвалася пасля поўнай рэалізацыі. На жаль, арцельныя пастаўшчыкі не паспрабавалі зарэгістраваць адмысловай гандлёвай маркі, таму дзісенскае масла пастаўлялася пераважна пад маркай «галшцінскага». Пасля Першай сусветнай вайны замежны рынак і высокая рэпутацыя дзісенскага масла былі страчаныя назаўжды.

Менавіта галшцінскае кісла-сметанковае масла было самым пашыраным сярод высакаякасных гатункаў у Расійскай імперыі.

Як магла б развіцца малочная галіна ў Беларусі, калі б арганічная кааперацыя не змянілася гвалтоўнай калектывізацыяй, можна ўбачыць на прыкладзе Гарадоцкага раёна Віцебшчыны.
Да канца 1927-га тут меліся 2 малочныя таварыствы, якія аб'ядноўвалі 306 сялян. У 1928-м было створана Селішчанскае малочнае таварыства, якое налічвала 347 чалавек, мела 3 заліўныя пункты і маслазавод у вёсцы Зарэчча. А да канца 1929-га 7 малочных таварыстваў аб'ядноўвалі 1 622 чалавекі, якія валодалі 2 544 каровамі і ў сярэднім за суткі перапрацоўвалі 7 600 кг малака.



Нават славуты хімік Дзмітрый Мендзялееў адзначаў, што адносна нескладаная тэхналогія, якую вынайшлі ў гэтай памежнай з Даніяй нямецкай зямлі, найлепш падыходзіла для засваення нядаўнімі прыгоннымі. Яна не вымагала складаных і дарагіх лядоўняў, пастэрызацыі малака, а гатовы прадукт меў больш натуральны для тагачаснага спажыўца смак і добра захоўваўся. Выраблялася галшцінскае, а значыцца, і дзісенскае масла з падсоленых кіслых вяршкоў, а на продаж фасавалася ў абшытыя чыстай рагожай альховыя бочкі з вушкамі для пераноскі, па 50–60 кг.

## Зрабіць у БССР як у Даніі

Пасля Першай сусветнай вайны малочная гаспадарка Беларусі ляжала ў руінах. Пагалоўе рэзка ўпала, як і надоі, не хапала працоўных рук, экспартныя рынкі закрыліся. Цікава, што шляхі малочнай кааперацыі на захадзе Беларусі і ў БССР спярша развіваліся паралельна. Наркам земляробства Дзмітрый Прышчэпаў выступіў з ідэяй «Чырвонай Даніі», паводле якой развіццё малочнай гаспадаркі ў БССР было абвешчана прыярытэтам, а стаўка пры гэтым рабілася на добраахвотную вытворчую кааперацыю: кожная сям'я самастойна ўтрымлівала кароў, хто па адной, а хто і значна больш, а вось перапрацоўвалі малако ў іншыя прадукты супольна, набыўшы разам для пачатку сепаратар, а потым і іншую тэхніку ды інвентар. У серыі «Сялянская бібліятэка» выйшла нямала кніг, якія мусілі дапамагчы засвоіць тэхналагічны і арганізацыйны бакі малочнай кааперацыі. Але ў канцы 1920-х арганічная кааператыўная праца была згорнутая, а кіраўніцтва СССР узяло курс на прымусовую калектывізацыю з поўным абагульваннем вытворчых рэсурсаў, у тым ліку жывёлы і  пашы.

## На заробкі да сыравара

У міжваеннай Польшчы такі гвалт з уласнасці немагчыма было ўявіць.




**Вокладку часопіса «Самапомач» распрацаваў Язэп Драздовіч.** Назву часопіса пісалі адразу дзвюма версіямі беларускага правапісу: кірыліцай і лацінкай.

Тут сыраварства — і прыватнае, і кааператыўнае — было прыкметным элементам эканамічнага ландшафту. Янка Брыль у кнізе «Золак, убачаны здалёк» згадваў: «У іншы бок, на захад, куды ад нас ніколі не ездзілі, можна было паехаць ці навабранцам у войска, ці — "за палітыку" — у турму, а калі ўжо на заробкі, дык у маёнтак за сыравара або за парабка...»

Продкі многіх эмігрантаў з Заходняй Беларусі былі сыраварамі. Сваю сыраварню, напрыклад, трымала маці вядомай грамадскай дзеячкі беларускай дыяспары ў ЗША Ірэны Каляды-Смірноў з Падкасоўя Навагрудскага раёна. Бацькі выдатнага польскага гісторыка Аляксандра Гейштара, прэзідэнта Польскай акадэміі навук, варылі сыр у Пласковічах за Клецкам. Продкі Марата Клакоцкага, рэдактара амерыканскай газеты «Беларус», таксама мелі невялікую сыраварню ля Ваўкавыска. А рух сялянскіх малочных кааператываў развіваўся

больш устойліва, чым у БССР. Хрысціянскія дэмакраты выдавалі часопіс «Самапомач», які прышчапляў беларусам ідэалы кааперацыі (маючы на ўвазе больш, чым кааперацыю чыста вытворчую ды збытавую, а ўзаемадапамогу ва ўсім). Праўда, вялікіх поспехаў у гэтай справе дасягнуць не ўдалося, не ў апошнюю чаргу таму, што дзяржаўныя ўлады, разумеючы і палітычнае значэнне кааперацыі, усяляк спрыялі развіццю польскіх кааператываў і перашкаджалі беларускім.

### Увекавечыць продкаў на сыры

На сучасным беларускім рынку прысутнічае і мае высокую рэпутацыю польскі сыр *Stary Olęder*. Гэты сыр – шляхетны, цвёрды, з характэрным водарам і смакам, з адчувальнымі крышталікамі, якія ўтвараюцца падчас сама меней 8-месячнага тэрміну даспявання. Вельмі прываблівае і мастацкае афармленне, і гісторыя стварэння гатунку. Назва ўзятая не «са столі»: сыравар, які стварыў гэты гатунак, Збігнеў Журэк, — непасрэдны нашчадак тых перасяленцаў з Нідэрландаў, якія здаўна варылі сыры тыпу эдамер у старых «галяндэрскіх» калоніях Нойдарфе і Нойбраве, што ў сучасным Брэсцкім раёне, каля Дамачава. Гэта менавіта ягоныя продкі выяўленыя на этыкетцы «Старога алендра».



**«Ян Сыравар».**
Помнік у Верхнядзвінску.



**Фермеры-«галендры» з надбужскіх калоній Нойдарф і Нойбраў,** на поўдзень ад Брэста, збіраюць ураджай. 1933 год.

«Olędry», «галендры», «галяндэры» — так у нас раней называлі галандскіх і ніжненямецкіх каланістаў. Іх калоніі, заснаваныя яшчэ ў сярэдзіне XVI стагоддзя, праіснавалі больш за 400 гадоў, да Другой сусветнай вайны. Найбольш славутыя «галендры» былі сваёй малочнай гаспадаркай, якую пастаянна ўдасканальвалі паводле ўзораў, прынятых на радзіме. Пасля апошняй вайны ад квітнеючых Нойдарфа і Нойбрава нічога не засталося. Як і ад тых сыроў, што некалі там выраблялiся. Але, дзякуй Богу,




знайшоўся чалавек, які адрадзіў былую славу сваіх продкаў.

Маркетолагам ды дызайнерам, якія распрацоўваюць візуальнае афармленне і камерцыйныя легенды беларускіх малочных прадуктаў, ёсць на што абаперціся. Годная гісторыя нашай прыватнай і кааператыўнай малочнай гаспадаркі — гэта таксама нацыянальны капітал, якім трэба ўмець карыстацца. ◆

### Рэцэпт сыра «Нябожчык»

Паўгарца (2,8 літра) густой свежай смятаны зліваюць у новую шчыльна сатканую сурвэтку, завязваюць яе над самай смятанай і адразу кладуць у ямку, выкапаную ў чорнай тлустай глебе. Накрываюць згорнутым удвая палатном, каб зямля не насыпалася ўсярэдзіну. Засыпаюць ямку зямлёй, моцна яе прыціскаюць і топчуць нагамі, а зверху кідаюць каменне…
Праз дваццаць чатыры гадзіны асцярожна дастаюць сыр, каб не зламаць і не забрудзіць зямлёй.

*«Літоўская гаспадыня», 1848 год*

# Транты, цымэс, цуцык




## Як ідыш быў дзяржаўнай мовай Беларусі

**Сто гадоў таму мова ідыш гучала на вуліцах і кірмашах, у бібліятэках і народных судах, крамах і майстэрнях. На ёй размаўлялі яўрэйскія «балаголы», якія вазілі грузы па беларускіх дарогах, кантрабандысты і дэлегаты савецкіх з'ездаў. На ёй гучалі лекцыі прафесараў і рэвалюцыйныя лозунгі, ставіліся тэатральныя п'есы, выдаваліся газеты, а ў жніво па наваколлі разліваліся песні працаўнікоў яўрэйскіх калгасаў. Усё гэта цяпер знікла — скончылася цэлая «цывілізацыя ідыш». Піша доктар гісторыі Андрэй Замойскі.**

У 1980-я гады на летніх канікулах, як і многія савецкія школьнікі, я быў у вёсцы, якой цяпер ужо не існуе. Чарнобыль знішчыў гэтыя чачэрскія паселішчы, гісторыя якіх налічвала сотні гадоў: Шапатовічы, Сябровічы, Дудзічы. Прадзед Сцяпан, надакучваючы мне сваімі пытаннямі, цікавіўся пра прозвішчы маіх яўрэйскіх аднакласнікаў. Падчас адной з нашых размоў ён запрапанаваў навучыць мяне лічыць «па-яўрэйску»: «Эйн, цвэй, дрэй». Дзіўна, навошта гэта мне? Што за карысць у незразумелых словах, вельмі падобных да нямецкіх? Толькі пазней я даведаўся, чым была выклікана яго зацікаўленасць.
У 1930-я гады мой прадзед не ўступіў у калгас, бо яму забараніў гэта рабіць бацька, зямлю ў яго канфіскавалі, а сям'я ратавалася рыбалоўствам на Сажы. Рыбу збывалі праз знаёмых




**Універсальны магазін у Мінску.** Канец 1920-х гадоў.

гандляроў-яўрэяў на рынку ў Гомелі. «Яўрэйская мова» прадзеда складалася з невялікай колькасці фраз на ідыш, якія дапамагалі яму ў «дзелавых адносінах».

### Ідышланд

Рассеяныя па ўсім свеце з часоў антычнага Рыму, яўрэі заўсёды пераймалі мову суседзяў, але адначасова зберагалі (хоць і толькі для сакральных патрэб) *іўрыт* — мову сваіх святарных тэкстаў і набажэнстваў.

У Сярэднявеччы ў Вялікае Княства Літоўскае яўрэі прынеслі з сабой ідыш, дыялект паўночнанямецкай мовы. Ёй карысталіся ў штодзённым жыцці яўрэі Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы, Смаленшчыны. Гэтую тэрыторыю неафіцыйна называлі яшчэ «Ідышландам», бо тут яўрэй-падарожнік мог звярнуцца на роднай мове і знайсці прытулак у любым мястэчку. Яшчэ да Першай сусветнай вайны ідыш стаў літаратурнай мовай. Дзякуючы ўраджэнцу Капыля Мендэле Мойхер-Сфарыму і іншым яўрэйскім пісьменнікам (Шолам-Алейхему, Іцхаку-Лейбу Перэцу) ён больш не ўспрымаўся толькі як простая гаворка «яўрэйскай вуліцы».

Сярод іншага ідыш шырока выкарыстоўваўся ў палітычнай барацьбе яўрэяў Расійскай імперыі.

З КАЛЕКЦЫІ БЛАКФОТ




**Студэнты яўрэйскага сельскагаспадарчага тэхнікума** на палявых работах у яўрэйскім калгасе «Шлях да сацыялізму» падчас летняй практыкі (канец 1920-х — пачатак 1930 гадоў).

Сябры сацыялістычнай партыі Бунд адстойвалі правы працоўных і неабходнасць культурнай аўтаноміі для яўрэяў, пры якой сярод іншага атрымала б поўныя правы і мова ідыш. З другога боку, паралельна развіваўся сіяніцкі рух з ідэямі перасялення яўрэяў у Палесціну і адраджэннем як размоўнай мовы *іўрыт*. Ідыш прадстаўнікамі гэтай плыні ўспрымаўся хутчэй не як нацыянальная каштоўнасць, а як непатрэбны канкурэнт іўрыту. Падчас рэвалюцыйных пераўтварэнняў 1917 года ў гарадах і мястэчках Беларусі разгарнулася актыўная барацьба паміж рознымі палітычнымі партыямі і рухамі. Аднак неўзабаве палітычны плюралізм быў задушаны савецкай уладай.

### З апорай на яўсекаў

З першых гадоў сваёй улады бальшавікі намагаліся саветызаваць насельніцтва, у тым ліку і яўрэяў. Камуністычная партыя вяла бязлітасную барацьбу супраць іўдаізму, незалежных яўрэйскіх арганізацый, партый і рухаў, сіянізму, а таксама мовы іўрыт. Гэта стала цяжкім ударам па традыцыйнай яўрэйскай рэлігійнай адукацыі і культуры. Улада выкарыстоўвала супрацоўнікаў яўрэйскіх секцый партыі («яўсекаў»), якія зачынялі сінагогі і традыцыйныя школы (хедары і іешывы), ваявалі супраць звыклых правілаў штодзённага жыцця, што рэгуляваліся нормамі іўдаізму (*кашрут*). З іншага боку, улада ўзяла курс на так званую *ідышызацыю* — пашырэнне ролі ідышу ў розных сферах грамадскага, культурнага і навуковага жыцця. У межах савецкай нацыянальнай палітыкі 1920-х гадоў яўрэі атрымалі права свабоднага карыстання сваёй роднай мовай.

У пачатку 1920-х гадоў яўрэі складалі каля 8% насельніцтва Савецкай Беларусі. Пры гэтым у гарадах працэнт яўрэйскіх жыхароў быў каля 40%, а ў некаторых мястэчках даходзіў да 70—90. Ідыш ведала пераважная колькасць яўрэяў Беларусі — амаль 90%. Таму няма нічога дзіўнага, што ў гады новай эканамічнай палітыкі ▶

**Сіяністы ўспрымалі ідыш як непатрэбны канкурэнт іўрыту**

### Словы і фразы з мовы ідыш, якія засталіся ў сучаснай беларускай і рускай мовах

Жлоб — граміла, бугай.
Квэцаць — мазаць.
Партач, партачыць — нядбайная, халтурная праца.
Транты — старое, патрапанае адзенне.
Гвалд — гвалт, мітусня, крык.
Гешэфт — сумнеўны бізнэс, справа, занятак.
Бобэ майзэс — «бабуліны казкі», небыліцы, лухта.
Гэфілтэ фіш — фаршыраваная рыба.
Кнэдлах — клёцкі.
Цымэс — салодкая страва з варанай морквы з разынкамі і іншымі прыправамі.
Цуцык — няздатны пастаяць за сябе чалавек, гарэза.
Шэйгэц — шалапут, свавольнік, басяк.
Шлімазл — недарэчны, няўдачлівы чалавек, лузер.



З КАЛЕКЦЫІ БДАКФФД

**Калектыўнае чытанне газеты** ў гадзіны вольнага часу ў яўрэйскім калгасе «Шлях да сацыялізму».

▶ (НЭП) Беларусь стала найбуйнейшым цэнтрам вышэйшай адукацыі і навукі на мове ідыш. На педагагічным факультэце БДУ ў Мінску дзейнічала яўрэйскае аддзяленне, дзе выкладалі вядомыя беларускія і яўрэйскія навукоўцы. Па ўсёй БССР была створана

**Яшчэ ў 1980-я ў Мінску, Бабруйску, Гомелі можна было пачуць ідыш на вуліцах, але сваіх дзяцей гэтай мове старэйшае пакаленне ўжо не вучыла**

сетка яўрэйскіх аддзяленняў пры інстытутах сацыяльнага выхавання і прафесійнай адукацыі. Ствараліся яўрэйскія педагагічныя, рабочыя і сельскагаспадарчыя тэхнікумы. У Мінску, Віцебску і Гомелі рыхтаваліся настаўнікі для савецкіх школ на ідыш, выкладчыкі палітычных курсаў. У 1920-я гады Беларусь была пакрыта густой сеткай савецкіх яўрэйскіх школ і яўрэйскіх клубаў.

Дзейнічалі два дзяржаўныя яўрэйскія тэатры ў Мінску і Віцебску. Пры Інстытуце беларускай культуры (пазней на яго аснове была створана Акадэмія навук) дынамічна развіваўся яўрэйскі аддзел. На ідыш пісалі літаратары Ізі Харык, Мойшэ Кульбак, Зэлік Аксельрод. Яўрэйскае насельніцтва БССР карысталася бібліятэкамі, якія камплектаваліся літаратурай на ідыш. Выдаваліся газеты і часопісы на гэтай мове, хоць за іх зместам пільна сачылі яўрэйскія секцыі.

### Нядоўгі росквіт

Ідышызацыя на Беларусі ішла разам з палітыкай каранізацыі і беларусізацыі. Для так званага «забеспячэння правоў працоўных» у месцах кампактнага пасялення нацыянальных меншасцяў ствараліся органы мясцовай улады — нацыянальныя саветы. У БССР дзейнічалі ў асноўным яўрэйскія местачковыя саветы. Для працаўладкавання яўрэйскай беднаты і тых, хто страціў працу ў выніку савецкіх рэформаў, напрыклад прыватных гандляроў, ствараліся яўрэйскія калгасы.

Важным момантам нацыянальнай палітыкі стала замацаванне ідыш Канстытуцыяй БССР 1927 года ў якасці адной з чатырох дзяржаўных моў БССР, разам з беларускай, польскай і рускай. Безумоўна, гэта было палітычнае рашэнне, на якое была атрымана згода з Масквы. Савецкая Беларусь, як памежная рэспубліка, павінна была дэманстраваць, як савецкая ўлада дбае пра правы ўсіх без выключэння нацыянальнасцяў.

Праз год, аднак, у Беларусі пачаўся паступовы адыход ад «паскоранай ідышызацыі». Перш за ўсё гэта было звязана з адыходам ад палітыкі «ліберальнага НЭПа» і ўзмацненнем сталінскай таталітарнай сістэмы. Узмацніўся ціск на беларускую інтэлігенцыю («барацьба з нацдэмамі»). Адначасова прайшлі

### Жыхары Беларусі, якія стваралі на ідыш

**Зэлік Аксельрод** (1904–1941), нарадзіўся ў Маладзечне. Паэт. Перакладаў на ідыш творы Янкі Купалы, Мікалая Някрасава. У 1940 годзе арыштаваны. Расстраляны 26 чэрвеня 1941 супрацоўнікамі НКВД падчас «маршу смерці» з Мінска ў Чэрвень.

**Мойшэ Кульбак** (1896–1937), нарадзіўся ў Смаргоні. У 1920–1927 гадах працаваў у Вільні, у 1928 вярнуўся ў Мінск. Супрацоўнік розных перыядычных выданняў на ідыш, Акадэміі навук БССР. Аўтар выдатнага рамана «Зельманцы». У 1937 годзе арыштаваны і расстраляны.

**Мендэле Мойшэ-Сфарым** (1836–1917), паходзіў з мястэчка Капыль. Пісьменнік, публіцыст, адзін з заснавальнікаў сучаснай літаратуры на мове ідыш.

**Ізі (Ісак) Харык** (1898–1937), паходзіў з мястэчка Зембін. Рэдактар савецкага часопіса на ідыш «Штэрн» («Зорка»), узначальваў секцыю яўрэйскіх пісьменнікаў БССР. Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў на ідыш. Расстраляны ў 1937 годзе.

«чысткі» розных нацыянальных устаноў, у тым ліку і тых, якія працавалі на ідыш. З іх звальнялі «нелаяльных» супрацоўнікаў. У той жа час адбывалася ідэалагічна матываваная рэформа і самой мовы: з яе вычышчалі словы іўрыцкага паходжання і дадавалі новыя савецкія («калгас», «пяцігодка», «індустрыялізацыя»).

Лейзар і Гірш — слуцкія яўрэі. Яны кожную зіму ездзяць па вёсках — шыюць кажухі, світкі, шыюць маладым хлопцам фарсовыя фрэнчы і штаны галіфэ з хатняга сукна. Лейзар і Гірш прыязджаюць са сваёй машынай. У іх, як і ў Ганьчынай мацеры, таксама машына «Зінгер». Але ў іх машына вялікая, нажная. Яе на стол не паставіш. У хаце яна займае цэлы куток...
Лейзар здымае з шыі сантыметр і спрытна прыкідвае ім аўчыну: уздоўж — упоперак. Спачатку адну, потым другую, трэцюю.
— *Гут,* — кажа ён сам сабе і, не гледзячы на Гірша, коратка кідае: — *Гіб...* Падай...
Гірш паслужліва падае яму крэйду. Лейзар бярэ крэйду пагнутымі пракуранымі пальцамі (збоку назіраючы, дзіва бярэ, як ён толькі трымае гэтымі крывымі пальцамі той маленькі кавалачак крэйды) і як штукар які ці фокуснік — раз-раз, раз-раз — пачынае размалёўваць крэйдай чырвоную аўчыну... Гэтаму яго штукарству не надзівіцца кожны раз — хоць і ездзіць з ім ужо не адзін год — маўклівы Гірш. Як зачараваны сочыць ён за Лейзаравымі крывымі пальцамі.
— *Вэк-вэк,* не замінай, не таўчыся пад рукамі, — сярдзіта наступае на яго Лейзар. Гірш пакорна адступае.
— *Гіб!* — скончыўшы маляванне на аўчыне, зноў загадвае Лейзар.
Гірш падае яму вялізныя, якімі стрыгуць авечак, нажніцы.
...Нарэшце гатовы першы кажух — гаспадыні.
Момант урачысты. Бязмоўны Гірш зашпільвае на Фядоры гузікі. А Лейзар, у гэты час таксама бязмоўны і ўрачысты, сядзіць на зэдліку, курыць і збоку, бясстрасна, ацэньвае ўласную работу.
— *Гут,* — зашпіліўшы апошні гузік і ўжо зусім без патрэбы яшчэ раз абцягнуўшы полы кажуха, задаволена звяртаецца да Лейзара Гірш.
— *Вос?* — гэтым «Што?» Лейзар як бы хоча сказаць Гіршу: «Не твая справа...»

*Алена Васілевіч. «Расці, Ганька».*

## Зніклая цывілізацыя

Росквіт ідышу ў Беларусі на працягу 1920-х гадоў быў, такім чынам, хоць і бурным, але нядоўгім. З канца гэтага дзясяцігоддзя пачаўся паступовы (і, як аказалася, незваротны) закат мовы і культуры ідыш, адначасова паскорылася асіміляцыя яўрэйскага насельніцтва. Праўда, да канца 1930-х гадоў дзе-нідзе яшчэ вялося выкладанне на ідыш. Аднак гэтыя ўстановы былі не такія папулярныя, як рускамоўныя школы, якія давалі магчымасць зрабіць кар'еру ў буйных гарадах СССР.

У час Вялікага тэрору 1937—1938 гадоў сетка школ на ідыш, як і яўрэйскіх нацсаветаў, пачала хутка скарачацца. Падпісвацца за дазвол на выкладанне на ідыш у гэтыя часы стала ўжо небяспечна. Шмат каго расстралялі як «ворагаў народа».

А пасля была вайна. Разам з забойствам мільёнаў яўрэяў перастаў існаваць «Ідышланд». Пасля вайны ацалелыя яўрэі масава пераходзілі на рускую мову. Нацызм знішчыў не толькі саміх носьбітаў гэтай мовы. Вялікія страты панесла таксама матэрыяльная культура яўрэяў (архівы, кніжныя зборы). Не спрыялі захаванню мовы і культуры на ідыш і антысеміцкія кампаніі ў СССР. На практыцы гэтая мова магла актыўна выкарыстоўвацца ў грамадскім жыцці выключна ў створанай яшчэ ў 1930-я гады Яўрэйскай аўтаномнай вобласці, дзе жыла толькі малая частка савецкіх яўрэяў.

Праўда, многія яўрэі доўгі час працягвалі гаварыць на ідыш. Яшчэ ў 1960—1980-я гады ў Мінску, Бабруйску, Гомелі і іншых гарадах можна было пачуць ідыш на вуліцах, але сваіх дзяцей гэтай мове старэйшае пакаленне, як правіла, ужо не вучыла.

У канцы 1980-х пачалі рабіцца спробы адраджэння ідыш. Аднак масавая эміграцыя яўрэйскага насельніцтва СССР у Ізраіль, ЗША і іншыя краіны не спрыяла гэтаму працэсу. У выніку ў сучаснай Беларусі амаль не засталося носьбітаў гэтай мовы, хоць і назіраецца цікавасць да яе. Увогуле ж, ідыш не надта добра сябе сёння пачувае і ў цэлым свеце. Але паколькі ён дагэтуль з'яўляецца хатняй мовай для некаторых сем'яў у Амерыцы і Ізраілі, то пакуль што ідыш мова хоць і праблемная, але жывая. ◆




**Латарэйны білет** Таварыства па зямельным упарадкаванні працоўных яўрэяў у СССР з надпісамі на чатырох мовах.



# Сірыя:
# САКРЭТ АСАДАЎ
## 50 гадоў пры ўладзе

**Калісьці ў Сірыі кіраўнікі краіны мяняліся амаль штогод. А пасля да ўлады прыйшоў Хафез Асад. Ён заставаўся на пасадзе 30 гадоў, да самай смерці. Яго змяніў ягоны сын Башар, і кіруе ўжо 18 гадоў. Некалькі войнаў, некалькі ўзброеных паўстанняў — але яны ўтрымалі грамадства пад жорсткім кантролем, пішуць знаўцы Блізкага Усходу доктар паліталогіі Сяргей Богдан і кандыдат гістарычных навук Анжаліка Пабеданосцава Кая.**

Расказваць пра сучасную Сірыю, як і пра іншыя ўсходнія краіны, прынята пачынаючы з Сярэднявечча. Наўрад ці гэта дарэчна. Бо ці шмат для тлумачэння беларускай сучаснасці дае расповед пра Полацкае і Тураўскае княствы? Нягледзячы на даўжэзную перадгісторыю, сучасная Сірыя, Сірыйская Арабская Рэспубліка, — гэта палітычнае ўтварэнне XX стагоддзя. Гэта відавочна нават па назве, якая спрабуе дапасаваць разнастайную, часта неісламскую, а часам і неарабскую спадчыну жыхароў Сірыі да абстракцыі «арабскага свету».

### «Арабскі свет» стварылі праваслаўныя і ўніяты

Арабскі нацыяналізм адпачатку быў спробай рэлігійных меншасцяў пераадолець свае адрозненні ад мусульманскай большасці і гэтак знайсці сваё месца пад сонцам. Маўляў, якая розніца, хто тут якой веры, мы ўсе — арабы, ад Маўрытаніі да Ірака.

Гэта было своеасаблівай абарончай рэакцыяй ва ўмовах, калі доля хрысціян на Блізкім Усходзе няўхільна падала. Хрысціянства ўвогуле часткова паўставала і на землях гістарычнай Сірыі, і той самы Саул стаў апосталам Паўлам па дарозе ў Дамаск. Хрысціяне там жывуць самых розных кшталтаў, толькі асноўных канфесіяў каля дзясятка. Сярод іх і вядомыя беларусам праваслаўе і каталіцтва, і шэраг так званых уніяцкіх цэркваў, якія, праўда, адрозніваюцца ад нашых уніятаў. З нарастаннем міжрэлігійнай канфрантацыі, звязанай з умяшаннем замежных хрысціянскіх дзяржаў і пачаткам масавай эміграцыі хрысціян з Асманскай імперыі,

**У чэрвені 1979-га 35 курсантаў-алавітаў у артылерыйскай вучэльні Алепа забіў іх жа выкладчык-суніт**

хрысціянства паступова стала амаль госцем у сваім жа доме. Ужо да пачатку XX стагоддзя доля хрысціян у Сірыі упала да прыблізна 16%, а да 2000 года іх засталося ўвогуле толькі каля 7,8%.

Гісторыю арабскага нацыяналізму адлічваюць ад 1868 года, калі арабуніят Ібрагім аль-Языджы заклікаў «абудзіцца» арабаў, што жылі тады пад Асманскай імперыяй. А галоўным ідэолагам кіруючай у Сірыі арабскай нацыяналістычнай партыі «БААС» — у перакладзе Партыі арабскага сацыялістычнага адраджэння — стаў праваслаўны Мішэль Афляк. Гэтая партыя імкнулася аб'яднаць арабскія дзяржавы ў адну, дзе грамадства будзе выбудавана ў адпаведнасці з прынцыпамі нацыяналізму і сацыялізму. Праўда, ідэі такога «арабскага свету» чамусьці зусім не спрыялі міжарабскай згодзе, і пакуль прыхільнікі «БААС» трымаліся пры ўладзе ў Сірыі і Іраку, гэтыя дзяржавы былі найзацяцейшымі непрыяцелькамі адна адной.

Калі натхнёныя творамі Афляка баасісты і іншыя нацыяналісты прыйшлі да ўлады ў Сірыі, яны запрапанавалі іншым арабскім дзяржавам аб'ядноўвацца. У 1958 годзе сірыйцы нават стварылі сваю «Саюзную дзяржаву» з Егіптам.

### Пераварот у «Саюзнай дзяржаве»

Праўда, адразу ж пасля ўзнікнення новай дзяржавы высветлілася, што супольнай спадчыны, пра якую так ▶

**Алавізм** узнік у рэгіёне ў IX стагоддзі і вядомы сваёй закрытасцю. Яго паслядоўнікам забараняецца раскрываць яго асновы, што не спрыяла прыязнаму стаўленню да іх з боку «прававерных» мусульман. Зрэшты, гэта прывяло і да таго, што для многіх алавітаў іх рэлігія зводзіцца да рытуалаў, зусім як у Беларусі для большасці хрысціян. Вера пачынаецца і канчаецца выкананнем нешматлікіх абрадаў з мінімальным разуменнем веравучэння.
Алавізм паўстаў на глебе крайніх шыіцкіх сектаў, што ўшаноўвалі Алі, зяця прарока Мухамада, адсоўваючы на задні план самога прарока Мухамада. Некаторыя лічаць: маўляў, менавіта дзякуючы гэтай спадчыне Асады і схаўрусаваліся з шыіцкімі Іранам і «Хезбалой». Але гэта не так — сірыйскі рэжым свецкі. Хаўрус Дамаска і Тэгерана тлумачыўся неабходнасцю супрацьстаяць экспансіі Ірака пры Садаме.





▶ доўга гаварылі нацыяналісты, у дзвюх арабскіх краін няшмат. Ва ўсялякім разе, гэтага недастаткова, каб збудаваць адзіную дзяржаву. Вялізны Егіпет пачаў трактаваць Сірыю як яшчэ адну вобласць.

У выніку сірыйскія афіцэры-баасісты перадумалі і ў 1963-м зрабілі яшчэ адзін пераварот, гэтым разам каб аддзяліцца ад «Саюзнай дзяржавы». Сярод гэтых афіцэраў рэй вялі прадстаўнікі канфесійных меншасцяў, асабліва алавіты. Гэта не было наўмыснай змовай «іншародцаў», проста меншасці гістарычна былі больш прадстаўленыя сярод вайскоўцаў. Іх прадстаўнікі далучаліся да арабскага руху, абы неяк пераадолець свой статус «іншых». Натуральна, пасля перавароту, умацоўваючы ўладу, путчысты таксама абапіраліся на «сваіх», гэта значыць землякоў і сваякоў такой самай канфесійнай прыналежнасці. Гэтак і паўстала добра кансалідаваная дыктатура, якую яе нядобразычліўцы лёгка маглі абазваць «алавіцкай». Але насамрэч рэжыму важная была не «алавіцкасць», а захаванне ўлады.

## Галоўным ідэолагам кіруючай у Сірыі партыі БААС быў праваслаўны Мішэль Афляк


BY THOMAS KOCH

**Удзельнік дэманстрацыі супраць Башара Асада** ў 2011 годзе на турэцка-сірыйскай мяжы.



**Партыя арабаў-барацьбітоў** за аддзяленне ад Асманскай імперыі на Версальскай канферэнцыі.

### Якім чынам Асады распраўляліся з праціўнікамі

Сірыйскі рэжым саступаў некаторым суседзям па рэгіёне, як то Іраку ці Лівіі, у маляўнічасці публічных павешанняў. Але гэта не ад гуманізму, а ад большае закрытасці. Нязгодныя сядзелі ў ямах-турмах дзесяцігоддзямі. Адзін з ідэолагаў цяперашняга сірыйскага паўстання, тады студэнт-медык Ясін аль-Хадж Салех, правёў за кратамі 16 гадоў усяго толькі за факт сяброўства ў незалежнай кампартыі.

У 1970-м ужо ўнутры сірыйскага алавіцкага рэжыму да ўлады прыйшоў Хафез Асад, бацька сённяшняга кіраўніка Сірыі. Ён замацаваў «сваіх» (алавітаў) на ключавых пасадах.

Па сённяшніх стандартах Хафез Асад кіраваў люта і бязлітасна. Але для таго часу і рэгіёна такі стыль кіравання быў тыповым. Цягам усяго панавання Асадаў у краіне захоўвалася надзвычайнае становішча, адсутнічалі выбары і нават мінімальна свабодныя СМІ. Ён проста жалезнай хваткай трымаў уладу, прыкрываючыся леванацыяналістычнымі лозунгамі БААС, якія рабілі акцэнт на адзінстве ўсіх арабаў, змаганні з сіянізмам, разбудове дзяржапарату, асабліва войска і органаў дзяржбяспекі, масавай мабілізацыі ў баасісцкія структуры. Палітычныя апаненты ўладароў сядзелі за кратамі.

Па гаспадарчым развіцці, разбудове інфраструктуры і дзейных




# Сірыйская гісторыя: то хаос, то дыктатура

У XX стагоддзі Сірыя вагалася паміж дзвюма крайнасцямі: дыктатуры і нестабільнасці. Уладары незалежнай Сірыі спалучалі нацыяналізм з карупцыяй. Нават самыя слабыя з іх ніяк не могуць лічыцца марыянеткамі замежнікаў, але гэтага для пабудовы краіны аказалася недастаткова.

**1516–1918** Гістарычная Сірыя знаходзіцца ў складзе Асманскай імперыі. Асманы падзялілі край на чатыры правінцыі, і да пачатку XX стагоддзя імперыя абапіралася на суніцкі іслам як на дзяржаўную ідэалогію. Але пры канцы Першай сусветнай вайны падбухтораныя брытанцамі арабскія паўстанцы на чале з сынам правіцеля святога горада Мекка, эмірам Фейсалам, узбунтаваліся супраць асманскай улады ды занялі Дамаск, каб стварыць незалежную вялікую арабскую дзяржаву.

**1920–1946** Атрымаўшы мандат Лігі нацый на кіраванне Сірыяй, французы выгналі арабскіх паўстанцаў з Дамаска і ўзялі краіну пад свой кантроль. Парыж бесцырымонна эксперыментаваў з падзелам гістарычнай Сірыі на шэраг правінцыяў. Менавіта тады Ліван стаў асобнай краінай. Французы сышлі з Сірыі толькі пасля Другой сусветнай вайны.

**1949–1970** Незалежная Сірыя жыла ад путчу да путчу: адбылося два дзясяткі спробаў вайсковых пераваротаў рознай ступені паспяховасці.

**Сярэдзіна 1950-х** Сірыя збліжаецца з СССР, і гэтыя асаблівыя адносіны з Масквой працягваюцца дагэтуль.

**1958–1961** Сірыя і Егіпет аб'ядналіся ў адну дзяржаву — Аб'яднаную Арабскую Рэспубліку з цэнтрам у Каіры. Прэзідэнтам новай дзяржавы стаў егіпецкі лідар, Герой Савецкага Саюза Гамаль Абдэль Насэр. Сірыя выйшла з гэтай канфедэрацыі пасля дзяржаўнага перавароту, здзейсненага групай афіцэраў, якім надакучыла трываць егіпецкі шавінізм.

**1963** Да ўлады прыйшла Партыя арабскага сацыялістычнага адраджэння «Баас». Яе прыхільнікі распусцілі парламент і ўвялі аднапартыйны рэжым.

**1971** Хафез Асад становіцца прэзідэнтам Сірыі. Ён на дзесяцігоддзі акупуе суседні Ліван, паспяхова перажыве халодную вайну, знойдзе сабе нішу ў новым свеце ды памрэ на прэзідэнцкай пасадзе ў 2000 годзе.

**2000** Прэзідэнтам Сірыі становіцца Асад-меншы, Башар. Ён не збіраўся кіраваць краінай, а хацеў стаць афтальмолагам. Яго бацька сваім пераемнікам бачыў старэйшага сына Басыля, але той разбіўся ў 1994-м у аўтакатастрофе. У выніку Башару давялося вярнуцца з Лондана ды заняцца дзяржаўнымі справамі. Башар выводзіць войскі з Лівана і пускае ў краіну ўсе больш іранцаў.

**2011** Грамадзянская вайна ў Сірыі. Спачатку Башар Асад пайшоў на шматлікія саступкі, адмяніў надзвычайнае становішча, якое дзейнічала з 1963 года. Урэшце, каб утрымацца, ён запрасіў войскі Ірана і Расіі. Ягоны кантроль над краінай аслаблены і пытанне аднаўлення адзінства Сірыі не вырашанае.

дзяржорганаў Сірыя сур'ёзна адставала ад суседняй Турцыі і нават Лівана. Зруйнаваны Ліван адбудаваўся нават пасля 14-гадовай грамадзянскай вайны, а Сірыя гібела ў застоі.

Асад-старэйшы ўстрымаўся не толькі ад ліберальнага рэфармавання, але і ад

## Радыкальныя апаненты Асада пастараліся, каб меншасці баяліся перамен

сур'ёзнай сацыялістычнай мадэрнізацыі, разграміўшы сілы, якія за яе выступалі, напрыклад камуністаў, якія хацелі перарабіць Сірыю ў стандартным стылі іншых краін прасавецкай арыентацыі — з радыкальным перадзелам зямлі, інтэнсіўнай індустрыялізацыяй, антырэлігійнай кампаніяй.

У выніку Сірыя заставалася залежнай ад параўнальна невялікай нафтаздабычы, слыннай у рэгіёне тэкстыльнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Пры канцы 2000-х Сірыя перажыла найгоршую за апошнія пяць стагоддзяў засуху, якая змусіла больш як мільён чалавек пераехаць ▶



Злева направа: **Садам Хусэйн, Хафез Асад, міністр замежных спраў Алжыра і сірыйскі віцэ-прэзідэнт** на пасяджэнні Лігі арабскіх дзяржаў у Багдадзе, 1978 год.

ФОТА SERKAN SENTURK

**Плакат з выявай прэзідэнта Башара Асада** перад крамай у Дамаску. 2010 год.

з вёсак у гарады. Але пры той заганнай эканамічнай структуры, якая склалася за папярэднія гады, уладкаваць гэтых людзей дзяржава не змагла.

Прыйшоўшы да ўлады ў 2000 годзе, цяперашні прэзідэнт Башар Асад сам прызнаў, што трацiна насельніцтва жыве за рысай беднасці. Пры гэтым працягваўся імклівы дэмаграфічны рост, і калі ў 1990-м сірыйцаў было 12,1 млн чалавек, то ў 2003-м — ужо 17,4 млн, а перад вайной — ажно каля 23 млн чалавек. Пры гэтым валавы ўнутраны прадукт дзесяцігоддзе перад вайной амаль не рос.

Таму незадаволенасць у краіне нарастала.

## Калі не Асад, то хто?

Сярод унутраных праціўнікаў Асадаў заўжды хапала экстрэмісцкіх групаў. У Сірыі і яе наваколлі розныя кірункі ісламу і хрысціянства зацята дзялілі між сабой душы, землі і рэсурсы. Гаворка тут не пра сярэднявечныя крыжовыя паходы, а пра тое, як французскія і брытанскія ўлады дзялілі землі гістарычнай Сірыі і Палесціны пасля Першай сусветнай вайны, жанглюючы канфесійнымі і этнічнымі раскладамі. Гэтае перакройванне межаў і перадзел улады падштурхоўвалі этнічныя і канфесійныя супольнасці да самага прымітыўнага разумення сваіх інтарэсаў.

Адна з аўтараў гэтага нарыса дагэтуль памятае, як падчас паездкі па Сірыі яе і ейных спадарожнікаў спачатку гасцінна прынялі, а пасля выгналі з хрысціянскага кляштара, даведаўшыся, што сярод хрысціянскіх гасцей ёсць мусульмане. За доўгія гады

### Чаму Сірыя заняла Ліван і чаму не змагла там утрымацца

Сірыя заняла Ліван падчас тамтэйшай грамадзянскай вайны ў 1976 года і заставалася да 2005 года — гэта быў выгадны кірунак для сілавікоў. Башар Асад не здолеў весці там гульню свайго бацькі. Хафэз больш рафінавана гуляў, а не толькі вынішчаў апанентаў. У выніку гэта выклікала масавыя пратэсты ліванцаў.



ФОТА АНЖАЛІКІ ПАБЕДАНОСЦАВАЙ КАР

**Дамаск. Традыцыйны сняданак**: аліўкі, молаты смажаны кунжут, амлет, свежая гародніна, хумус, ёгурт, чай.

працы на Блізкім Усходзе аўтарам рэдка даводзілася такое бачыць.

Варта зазначыць, што канфесійная і этнічная прыналежнасць жыхароў не звязаная і ніяк не ўплывае на ступень развіцця і заможнасці рэгіёна. Рэжым у Сірыі хоць і абапіраецца на алавітаў ды іншыя меншасці, але сур'ёзнымі прывілеямі ў параўнанні з суніцкай мусульманскай большасцю яны не карысталіся. Таму пры дэмакратычным падыходзе можна было б сабе ўявіць апазіцыйную надканфесійную альтэрнатыву Асаду. Але сталася

**Арабскі нацыяналізм даваў рэлігійным меншасцям шанец пераадолець свае адрозненні ад мусульманскай большасці**

інакш. Радыкальныя апаненты Асада пастараліся, каб меншасці ды і ўвогуле незацікаўленыя ў экстрэмісцкіх ідэях сірыйцы цярпелі і нават падтрымлівалі ўладу, якая магла іх крыўдзіць, але забяспечвала выжыванне і магчымасць застацца тымі, кім яны ёсць.

Гэтая тэндэнцыя склалася вельмі рана, на пачатку ўладарання Асада-старэйшага. Ужо падчас задушэння ісламісцкага паўстання ў 1976—1982 гадах стала зразумела, што экстрэмісты гатовыя рэзаць іншаверцаў. Асаблівы розгалас мела забойства 35 курсантаў-алавітаў у артылерыйскай вучэльні Алепа ў чэрвені 1979-га. Курсантаў забіў іх выкладчык Ібрагім аль-Юсуф. Ужо тады, у 1980-я, гэткія метады сірыйскага крыла «Братоў-мусульманаў» і групаў, што ад яго адкалоліся, выклікалі шок і пратэсты нават ва ўласных шэрагах.

Улады пры задушэнні паўстання паставілі на тыя адзіныя інструменты, якімі ўмелі карыстацца: сілу і тэрор. Загінулі многія тысячы вінаватых і невінаватых, у тым ліку падчас жорсткай зачысткі горада Хама. Але, па сутнасці, сірыйцы ўжо тады аказаліся перад незайздросным выбарам паміж кепскім і яшчэ горшым.

І ў часе грамадзянскай вайны, што пачалася ў 2012 годзе, сярод праціўнікаў Асада хапала экстрэмістаў. Увосень 2013 года ўвесь свет абляцела відэа, у якім Абу Сакар, адзін з камандзіраў «Сірыйскага свабоднага войска», арганізацыі, што ніколі не лічылася радыкальнай, есць сэрца забітага ворага. Камандаванне «Войска» асудзіла ўчынак, але не больш за тое. Самога Абу Сакара нават апісвалі як «памяркоўнага».



ФОТА АНЖАЛІКІ ПАБЕДНАНОСЦАВАЙ КАЯ

**Дамаск. Пекар за працай.**
Сірыйскі хлеб — тонкі лаваш.



ФОТА АНЖАЛІКІ ПАБЕДНАНОСЦАВАЙ КАЯ

**Дзеці ў Эбле (цяпер Тэль-Мардзіх пад Алепа).**
Эбла — старажытны семіцкі гандлёвы горад-дзяржава, заснаваны ў III тысячагоддзі да н. э., закінуты ў VII стагоддзі н. э.

## Шматвектарнасць па-дамаску

Няма нічога надзвычайнага ў доўгажыхарстве рэжыму Асадаў.

Асады ўмела лавіравалі між рознымі спонсарамі. Грошы бралі не з адной крыніцы, а адусюль. Сірыйская запазычанасць перад СССР перавысіла 13 мільярдаў даляраў. Але і багатыя нафтай арабскія краіны плацілі за «ўтрыманне фронту з Ізраілем». А пад канец 1970-х Сірыя пачала атрымліваць грошы і ад так званых радыкальных рэжымаў рэгіёна, кшталту Лівіі, але найперш Ірана. Гэтыя сродкі дазвалялі сірыйскаму ўраду выжываць.

У той жа час прысутнасць экстрэмістаў у шэрагах апазіцыі палохала значную частку шматканфесійнага сірыйскага грамадства. І тыя мінімальныя гарантыі выжывання і стабільнасці, якія рэжым Асадаў даваў меншасцям і нерэлігійным грамадзянам, гарантавалі яму падтрымку з іх боку. ◆

BY RUSLAN LYTVYN, SHUTTERSTOCK.COM

# АДЭСА, ЗАТОКА, БЕЛГАРАД-ДНЯСТРОЎСКІ — УСЁ ТАКОЕ РОЗНАЕ

**Помнік дзюку (герцагу) дэ Рышэльё,** які ператварыў Адэсу ў буйны гандлёвы порт.

**Пра татарскую Затоку, першых беларускіх турыстаў у Адэсе і 4-метровыя сківіцы заснавальніка Белгарада-Днястроўскага расказвае гісторык і карэнны адэсіт Алег Лугавы.**

## АДЭСА

### Першыя жыхары Прыморскага бульвара

Адэса — горад новы і адначасова стары. У ім няма замкаў і палацаў, затое ёсць антычныя руіны: проста на Прыморскім бульвары ўсталяваная шкляная вітрына — акно ў гавань Істрыян. Так называўся гарадок антычных грэчаскіх каланістаў, які размяшчаўся проста над морам

**Чым далей ад горада, тым вада чысцейшая. У самой Адэсе найлепшымі па чысціні лічаць пляжы Малога і Вялікага Фантана**

у самым цэнтры Адэсы дзве з паловай тысячы гадоў таму. Захаваліся рэшткі жылых дамоў, гаспадарчых будынкаў, нават зямлянак грэчаскіх рыбакоў. Але ўсё гэта ў самым цэнтры буйнога горада, і, каб правесці археалагічныя даследаванні, трэба перакрываць Прыморскі бульвар і здымаць плітку па ўсім пляцы, а гэтага не дазволіць ніводны мэр.

Калі адкінуць антычныя руіны, то ўсяму, з чаго складаецца Адэса, не больш за 200 гадоў. Адэса ўтварылася і разраслася ў вялікі горад пад уладай Расійскай імперыі. Паспрыяла тое, што доўгі час яна была цэнтрам генерал-губернатарства: хоць і ўваходзіла ў склад Херсонскай губерні, але генерал-губернатар хацеў жыць тут. Эканамічнаму развіццю садзейнічаў гандаль збожжам. Цэнтр горада ў першыя дзесяцігоддзі XIX стагоддзя быў забудаваны «магазейнамі» — велізарнымі збожжавымі складамі аптовых купцоў. Многія з іх захаваліся, цяпер гэта жылыя дамы. Вельмі важную ролю адыграў статус **порта-франка**, які рабіў Адэсу ў пэўнай ступені замежжам. Сапраўдная мытная мяжа атачала горад па перыметры і аддзяляла яго ад астатняй Расійскай імперыі. Гэта было вельмі зручна для гандлю, але не вельмі зручна для жыхароў і прамысловасці. Таму ўрэшце ад порта-франка адмовіліся, але першапачатковы імпульс сваю справу зрабіў.

### Князь Альгерд у Адэсе

У гісторыі Адэсы ёсць і сярэднявечныя старонкі. Літоўскія князі трымалі тут замак і «каралеўскі порт» Качубееў, які пазней ператварыўся ў татарска-турэцкі Хаджыбей. Назву звязваюць з іменем напаўлегендарнага татарскага хана, які качаваў на гэтых землях. Хан з такім іменем быў сярод тых, каго разграміў вялікі князь Альгерд у бітве на Сініх Водах у 1362-м, пасля чаго перад літоўскімі князямі адкрыўся шлях у стэп. У 1420-я гады Вітаўт ▶

### Хто такія арнауты

Гістарычна арнауты — гэта праваслаўнае албанскае насельніцтва Грэцыі. Гэтыя албанцы доўга захоўвалі арваніцкі дыялект албанскай мовы ў якасці размоўнага, нават жывучы на Пелапанэсе ці выспах. Іх нашчадкамі ў бесарабскай частцы Адэскай вобласці з'яўляецца насельніцтва вёскі Каракурт. Аднак у пачатку XIX стагоддзя арнаутамі ў Адэсе называлі наогул грэкаў, грэчаскіх маракоў і салдат, якія ўдзельнічалі на баку расійскіх войскаў у войнах з Асманскай імперыяй. Расія сяліла іх на новадалучаных землях. Так у Адэсе ў 1803 годзе з'явілася Арнауцкая слабодка, а потым — Вялікая і Малая Арнауцкія вуліцы, якія перагукаюцца з Грэчаскай вуліцай і плошчай у цэнтры горада. Зрэшты, ужо да канца XIX стагоддзя большасць насельніцтва Арнауцкіх вуліц складалі яўрэі.

## Сляды культур, сляды народаў

**У антычны час** па беразе ўкраінскага ўзбярэжжа былі раскіданыя калоніі грэкаў-перасяленцаў, у асноўным з Мілета. У эпоху Рымскай імперыі ўсе тутэйшыя паселішчы прызнавалі яе сюзерэнітэт. Далей ад берага жылі качэўнікі: скіфы, сарматы.

**З IV стагоддзя н. э.**, з эпохі Вялікага перасялення народаў і аж да Залатой Арды, да канца XIII стагоддзя, тутэйшыя землі былі занятыя выключна качэўнікамі, якія хвалямі змянялі адно аднаго: гуны, авары, балгары, венгры, печанегі, полаўцы...

**У XIV стагоддзі** пасля бітвы на Сініх Водах, у якой Вялікае Княства Літоўскае перамагло войска мангола-татараў, Адэскі рэгіён стаў часткай ВКЛ «ад мора да мора».

**У XVI–XVII стагоддзях** тут пануюць толькі татары, пастаянныя саюзнікі турэцкай Асманскай імперыі, але ханы дапускаюць казакоў браць соль на ліманах.

**У 1760-я гады** асманскія ўлады зацікавіліся Хаджыбеем (Адэсай) як важным стратэгічным пунктам ва ўмовах наспявання руска-турэцкай вайны. Аднак і ў першую, і ў другую войны Хаджыбей не вытрымліваў націску імперскіх войскаў у саюзе з запарожскім. Канчаткова ён здаўся ў 1789-м, а праз два гады ўвайшоў у склад Расіі. Суседні Акерман (Белгарад-Днястроўскі) заставаўся ў Асманскай імперыі аж да 1812 года. Назва Адэса ўпершыню з'яўляецца ў 1795 годзе, хоць дакумента аб перайменаванні Хаджыбея ў Адэсу як такога пакуль не знайшлі.

давёў да ладу памежныя ўмацаванні на чарнаморскім узбярэжжы.

Першую адназначную звестку пра існаванне стабільнага населенага пункта пад назвай Качубееў можна знайсці ў «Хроніцы» Яна Длугаша пад 1415-м годам. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ягайла загадвае выдаць у «каралеўскім порце» Качубееў зерне для візантыйскіх пасланнікаў, з якімі вядзе перамовы ў Снятыне (горад вядомы з XII стагоддзя, важны гандлёвы цэнтр, цяпер у Івана-Франкоўскай вобласці). У XV стагоддзі Качубееў яшчэ нейкі час згадваецца ў ліку гарадоў Вялікага Княства Літоўскага. Шкада, што сляды той эпохі можна знайсці толькі ў музеях, якіх, праўда, у Адэсе шмат.

## Украінская Адэса

**У 1917–1918 гадах** за Адэсу з пераменным поспехам змагаліся бальшавікі і Украінская Народная Рэспубліка. У Адэсе друкавалі грошы для фінансавай сістэмы УНР. Пры гетмане Паўле Скарападскім у Адэсе былі адкрытыя Політэхнічны і Сельскагаспадарчы інстытуты, што дзейнічаюць дасёння.

Нейкі час у Адэсе стаялі французскія і грэчаскія вайсковыя часткі, сілы Антанты.

**У красавіку 1919 года** прыйшлі бальшавікі. Пасля іх змяніла белагвардзейская Добраахвотніцкая армія Дзянікіна. Кожны новы рэжым пераўзыходзіў папярэдні па колькасці закладнікаў, зняволеных і пакараных. Толькі ў 1920 Адэса канчаткова стала часткай Украінскай савецкай рэспублікі.

Найлепш гісторыю тых «акаянных дзён» расказвае Гісторыка-краязнаўчы музей на вул. Гаваннай.

**Украінская «Грамада»** ў Адэсе дзейнічала ад 1870-х, існавала тут і друкарня ўкраінскай літаратуры. Адэская «Просвіта» (г.зн. «Асвета») ў 1905–1909-я налічвала 600 сяброў, мела бібліятэку, тэатральную трупу, хор. Цяперашні Украінскі драматычны тэатр і Адэскае тэатральна-мастацкае вучылішча з'яўляюцца прамымі нашчадкамі тых тэатральных сіл, што аб'ядноўваліся вакол «Просвіты».

**Першы помнік Тарасу Шаўчэнку**

ў Адэсе з'явіўся ў 1920 годзе. А цяпер перспектыву Сабаньскага завулка на ўваходзе ў парк імя Шаўчэнкі замыкае манумент ужо 1966 года.



MAXPIXEL.NET


WIKIMEDIA COMMONS

**Лейзера Вайсбейна, які стаў знакамітым савецкім спеваком Леанідам Уцёсавым,**

у Адэсе памятаюць і любяць. Яго родны Трохкутны завулак цяпер называецца вуліцай Уцёсава. У доме №11 па гэтай вуліцы дзейнічае музей-кватэра. Але, на жаль турысты рэдка дабіраюцца туды. Большай папулярнасцю карыстаецца помнік на Дзерыбасаўскай.

### Шыі і міны

Аматары вострых адчуванняў могуць спазнаць Адэсу з-пад зямлі: па працягласці катакомбаў горад пераўзыходзіць нават Парыж. Агульная даўжыня хадоў — 2500 км, большая частка яшчэ не даследавана. Частка адэскіх катакомбаў — прыродныя аб'екты, пячоры, якія вымыла вада ў мяккім прычарнаморскім пясчаніку. Яны старажытныя, у іх знаходзяць сляды першабытнага чалавека і костак вымерлых жывёл. Пад Малдаванкай ёсць нават палеалітычны запаведнік, знойдзеныя там косткі так і пакінулі, не сталі пераносіць у музей.

Другая частка катакомбаў — вырубкі будаўнічага каменю, з якога будаваўся горад у XIX стагоддзі. З часам «ламаць» камень у цэнтры забаранілі, але ўсё адно амаль кожны стары дом меў «міны» — глыбокія склепы, што пераходзяць у «шыі», якія могуць цягнуцца на дзясяткі метраў. У іх захоўвалі віно, тавары ды што заўгодна. Гэтыя «шыі» афіцыйна ўказваліся ў вопісе маёмасці, а іх наяўнасць павялічвала цану дома.

## Лётчык Сяргей Утачкін упершыню праславіўся, баронячы яўрэяў Адэсы ад пагрому

Сярод катакомбаў ёсць яшчэ ліўневая каналізацыя, арганізаваная да рэвалюцыі. Усё гэта стыхійна аб'яднана ў падземны лабірынт,

## Страшныя адэскія пагромы

Слаўная сваёй многаэтнічнасцю Адэса не магла пазбегнуць канфліктаў паміж асобнымі групамі жыхароў. Першыя яўрэйскія пагромы адбыліся яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя, з яўрэямі тады канфліктавалі грэкі. Кожны новы віток станавіўся больш жорсткім і ўцягваў больш бакоў. Самы страшны пагром адбыўся ў кастрычніку 1905 года. Вядучыя газеты ў далейшым інакш як «страшныя кастрычніцкія дні» гэтыя падзеі не называлі. Пагром ахапіў увесь горад і забраў больш за 400 жыццяў. Яго арганізавалі рускія чарнасоценцы. У сваю чаргу, ахвяры пагрому ў тым годзе ўпершыню стварылі атрады самаабароны, у якія ўступалі студэнты-інтэрнацыяналісты розных нацыянальнасцяў. Сярод абаронцаў яўрэяў, у прыватнасці, вызначыўся вядомы адэскі спартсмен Сяргей Уцачкін — фехтавальшчык, баксёр, футбаліст і гоншчык, адзін з першых лётчыкаў-выпрабавальнікаў.



ФОТА АЛЕГА ЛУГАВОГА

**Гасцініца Лонданская на Прыморскім бульвары.** Проста перад ёй на раскопках 1960-х і 2000-х былі раскрыты антычныя пласты.

## Міцкевіч

Наш зямляк Адам Міцкевіч у Адэсе выкладаў. Гэта было ў Рышэльёўскім ліцэі, папярэдніку Адэскага ўніверсітэта, у 1825 годзе.
Зрэшты для самога знакамітага паэта гэта была высылка. У горад ён трапіў не па сваёй волі. Мемарыяльная дошка памяці Міцкевіча вісіць на будынку ліцэя, на флігелі, што выходзіць на вуліцу Дэрыбасаўскую. Стаіць і помнік паэту у пачатку Аляксандраўскага праспекта.



з якім звязана маса гісторый. І ліхія кантрабандысты там хаваліся, і гераічныя партызаны-падпольшчыкі. Вось толькі сапраўдных «катакомбаў», то-бок падземных пахаванняў, у Адэсе якраз няма.

### Паспець пабачыць

На першы погляд агульны фон Адэсы — суцэльныя ўзорыстыя фасады і высокія дрэвы. Але паспрабуйце зазірнуць за фасады, у адэскія двары — і даведаецеся, чым жыве горад. Хоць час і змяняе іх, аднак яны ўсё яшчэ з'яўляюцца галоўным змесцівам «адэскасці»: драўляныя галерэі, па-мастацку раскіданыя каты, вяроўкі з бялізнай, смажаныя баклажаны...

На жаль, традыцыйныя вароты, дзверы, балконы сёння імкліва знікаюць — іх мяняюць самі жыхары. Знікае і традыцыйны спосаб выкарыстання двара: сённяшні двор – гэта ў першую чаргу стаянка для прыватных аўтамабіляў. Раней жа двор быў месцам штодзённага жыцця, месцам, дзе святкавалі дні нараджэння. Гэтая традыцыя сыходзіць. Зусім хутка знікнуць і савецкія санаторыі, акружаныя паркамі, размешчаныя на былых хутарах, дачах дарэвалюцыйных адэскіх алігархаў. Адэса імі вельмі ганарылася яшчэ гадоў трыццаць таму, але цяпер захаваліся адзінкі. Вялізныя паркавыя зоны гэтых санаторыяў ідуць пад новую забудову. Паспяшайцеся пабываць у Адэсе, каб пабачыць усё гэта.

## ЗАТОКА

На паўднёвы захад ад Адэсы знаходзіцца 10-кіламетровая пясчаная каса, якая аддзяляе Днястроўскі ліман ад Чорнага мора. Калісьці Камры ал-кум — Каштанавыя пяскі ў вусці Днястра — страшылі падарожнікаў, іх лічылі зыбучымі. Да пачатку XX стагоддзя там ніхто, акрамя рыбакоў, не жыў. А цяпер тут курорт. ▶



ФОТА АЛЕГА ЛУГАВОГА

**Леў у Гарадскім садзе на Дзерыбасаўскай вуліцы**, самым старым месцы гулянняў у Адэсе.

## Шабо

Вінароб Луі-Венсэн Тардан са Швейцарыі стварыў у Шабо ўзорную вінаградарскую гаспадарку. Каланістам бясплатна адвялі значную колькасць зямлі з разліку 60 дзесяцін на сям'ю, вызвалілі ад рэкруцкай і іншых павіннасцяў… Менавіта швейцарцы ператварылі татарскую назву Ашаабаг у Шабо. Шабо — адно з нямногіх месцаў у Еўропе, дзе лаза не пацярпела ад «вінаграднай чумы» — філаксеры — у канцы XIX стагоддзя. І падчас антыалкагольнай кампаніі 1985 года ў Шабо практычна не высякалі вінаграднікаў. Цяпер у вёсцы працуе не толькі вінаробчае прадпрыемства, але і Цэнтр культуры віна.

▶ Галоўныя населеныя пункты знаходзяцца ў аснове касы: бліжэй да Адэсы — Караліна-Бугаз, бліжэй да Белгарада-Днястроўскага — Затока. «Затокай» па-ўкраінску і па-беларуску называлі заліў. А «Бугаз» — татарскае слова, якое значыць гірла або праліў. Татарскае сяло Бугаз вядомае

**У вайну Адэса была акупаваная румынамі, а не немцамі. І гэта румыны рэстаўравалі крэпасць у Белгарадзе-Днястроўскім**

з XVIII стагоддзя, яшчэ да далучэння ўзбярэжжа да Расійскай імперыі. Сваім рамантычным прыдомкам Караліна-Бугаз абавязаны землеўладальнікам пачатку XIX стагоддзя: графіні Караліне Сабанскай (у дзявоцтве Ржавускай), швагерцы Анарэ дэ Бальзака і блізкай знаёмай Аляксандра Пушкіна, або шляхціцу Каралю Сцібар-Мархоцкаму. Ужо на планах XIX стагоддзя хутар каля сяла Бугаз называецца «Караліны».

Касу праразаюць два гірлы Днястра (гірламі тут называюць вусці ракі): Царгародскае і Ачакаўскае. У 1970-я Ачакаўскае заклалі бетоннымі плітамі, сярод адэсітаў гэты пляж называецца «Вузкае месца», яго любяць найбольш: тут можна адначасова бачыць і мора, і ліман. А па Царгародскім гірле з 1918 да лета 1940-га праходзіла дзяржаўная мяжа Савецкага Саюза і Румыніі. Каса тады была памежнай зонай. За Царгародскім гірлам знаходзіцца пасёлак Затока. Менавіта пры Румыніі тут пачалі з'яўляцца першыя санаторыі. Тады ж румыны правялі рэстаўрацыю старадаўняй крэпасці ў Белгарадзе-Днястроўскім.

Знакаміты падарожнік Павел Свіньін так апісваў тутэйшыя мясціны — Буджак, Паўднёвую Бесарабію: «Буджакскі стэп — вялікі і пладавіты, яго хутчэй можна назваць урадлівай духмянай далінай, а не пустыняй. Да ўступлення расійскіх войскаў Буджакскі стэп быў заселены 30 тысячамі татарскіх сем'яў, якія трымалі вялікія statkі; прыганялі сюды

## Шаланды, поўныя кефалі

Ужо не так шмат рыбы ў Чорным моры, аднак і па сёння адэская кухня надае традыцыйныя прэферэнцыі марскім стравам. Шырокім попытам карыстаюцца чарнаморскія камбалы, цюлькі, з якіх кожная гаспадыня ўмее рабіць біточкі, і абавязкова бычкі (у Адэсе кажуць «бічкі» і не скланяюць гэтае слова). Ужо традыцыйнай стала лоўля і ўжыванне як чарнаморскіх мідый, так і новапрыбылай разнавіднасці малюскаў — рапанаў, страшных ворагаў мідый.

### Біточкі з цюлькі

*Патрэбна:* 1 кг цюлькі, 3 яйкі, сталовая лыжка мукі, алей для смажання, перац, соль.

Павымайце хрыбты і прамыйце цюльку. Узбіце яйкі з перцам, соллю і мукой, дадайце цюльку і перамяшайце. Падагрэйце патэльню з алеем, лыжкай кладзіце біточкі на патэльню і абсмажвайце з абодвух бакоў.




**Рыба на Прывозе.** Вясна 2018-га.

## Румынская акупацыя Адэсы

У 1941 паўднёвы захад Украіны акупавалі не немцы, а румыны. Гітлер аддаў Трансільванію Венгрыі, а ўзамен румынам паабяцалі Бесарабію і Адэсу. На румынскай тэрыторыі больш было беспарадку і больш развіты чорны рынак. Аднак хапала і зверстваў. Рэжым маршала Іона Антанеску гэтаксама знішчаў яўрэяў і цыганоў. Некалькі дзясяткаў тысяч яўрэяў, якія своечасова не эвакуіраваліся, былі забітыя.
Памяць аб гібелі адэскіх яўрэяў адлюстравана ў Мемарыяле ахвярам Халакоста і алеі «праведнікаў свету» ў Прохараўскім скверы на Малдаванцы. Акрамя таго, з 2009 года ў Адэсе існуе музей Халакоста на Малой Арнауцкай вуліцы.



Кароль Румыніі Міхай і **генерал Іон Антанеску (на пярэднім плане).** 1941 год.

яшчэ кароў, авечак і коней з Венгрыі, Трансільваніі, Малдавіі і нават Валахіі».

Пасля далучэння да Расійскай імперыі мясцовыя жыхары, прычарнаморскія нагайскія татары, сышлі ў Турцыю. Тыя ж нагайскія татары, што засталіся ў Расіі, зліліся з крымскімі. Так у канцы XVIII – пачатку XIX стагоддзя знік цэлы этнас. На змену татарам прыйшлі сяляне з украінскіх і расійскіх губерняў, якіх сюды перасялялі памешчыкі. Акрамя таго, сюды прыехала і мноства замежных каланістаў: немцы, балгары, сербы.

Нямецкія калоніі пад Адэсай існавалі аж да Другой сусветнай вайны, іх жыхары сышлі з немцамі. Цяпер там немцаў няма наогул, толькі руіны касцёлаў і кірхаў. А балгары ў Буджаку засталіся. Цікава, што і ў сучаснай Адэсе балгары — трэцяя па колькасці нацыянальнасць, пасля ўкраінцаў і рускіх. А на чацвёртым месцы — яўрэі.

## БЕЛГАРАД-ДНЯСТРОЎСКІ (АКЕРМАН)

У пачатку XX стагоддзя Затока была ўсяго толькі дачным пасёлкам заможных жыхароў старажытнага Акермана, а цяпер Белгарада-Днястроўскага. Гараджане афіцыйна адлічваюць гісторыю свайго горада ад антычнай Ціры, раскопкі якой ушчыльную прымыкаюць да рова акерманскай крэпасці. Ціра была паўнавартасным полісам, дзяржавай са сваёй тэрыторыяй, манетай і знешняй палітыкай. Рымскія імператары трымалі тут гарнізон.

Горад прывялі да заняпаду перамяшчэнні варварскіх народаў III–IV стагоддзяў. Канстанцін Багранародны ў X стагоддзі згадвае толькі апусцелую крэпасць Аспрон на землях печанегаў, на камянях якой можна было бачыць крыжы, якія сведчылі, што тут былі хрысціяне. З X стагоддзя і па сённяшні дзень горад заўсёды будзе называцца Белым Горадам, Белгарадам: Аспракастрон па-грэцку, ▶




BY JARAS72, SHUTTERSTOCK.COM

## Стэп і скіфскія курганы

У стэпавай Украіне стэп ужо даўно стаў рэдкім краявідам. Бо прыдатны для пераўтварэння ў раллю. Адэская вобласць з'яўляецца адным з лідэраў Украіны па вырошчванні сельгаспрадукцыі. Кавалак некранутага стэпу ўяўляе сабой запаведнік «Асканія-Нова» ў Херсонскай вобласці. А яшчэ гадоў дзесяць таму з'явіўся новы этнаграфічны музей у бесарабскім сяле Фрумушыка-Нова ў Таруцінскім раёне Адэскай вобласці з элементамі скансэна. Стэпавыя курганы раней былі ўпрыгожаныя каменнымі стэламі ад бронзавага веку, скіфскага часу да сярэднявечных полаўцаў. Гэтыя стэлы цяпер знойдзеце толькі ў Археалагічным музеі.




BY MASSON, SHUTTERSTOCK.COM

## Лайфакі пра пляжы і ваду ад адэсіта

Чым далей ад горада, тым вада чысцейшая. У самой Адэсе найлепшымі па якасці вады лічаць пляжы Малога і Вялікага Фантана. А найгоршым — пляж у Аркадзіі. Цяпер яна забудавана рэстаранамі, што не найлепшым чынам адбіваецца на лакальнай экалогіі.

Ёсць і свае хітрыкі. Напрыклад, добра вядома, што самая чыстая вада ў моры раніцай. Не варта бегчы ў горадзе на мора адразу пасля дажджу — у ваду трапляе шмат бруду з вуліц. Чым вада халаднейшая, тым яна чысцейшая.

З рэк, якія ўпадаюць у Чорнае мора ў Адэскай вобласці, найбольшую шкоду прыносіць Дунай, які, зрэшты, год ад года ўсё чысцейшы. Днястроўская вада, вядома, мае свае праблемы, але яны не ідуць у параўнанне нават з дняпроўскай вадой. Таму і раяць пляжнікі ехаць на берагі касы Днястроўскага лімана, у Затоку, і далей — на касу Будакскага лімана.

▶ Чэтаця-Албе па-румынску, Ак-Керман па-турэцку.

У той час як татара-мангольскае нашэсце нішчыла цэлы культурны пласт суседніх зямель, у Паднястроўі ўздымалася гарадское жыццё. Белы Горад засялялі татары і балгары. Сталі заплываць і генуэзскія купцы, яны называлі горад Манкастра. Каля стагоддзя Белы Горад быў адным з найбуйнейшых гарадоў Малдаўскага княства, галоўнымі марскімі варотамі дзяржавы, адкрытымі для грэчаскіх, армянскіх, італьянскіх і турэцкіх мараходаў. Тавары траплялі на рынкі Львова, а адтуль — у Польшчу і Германію.

Менавіта ў час малдаўскага панавання ў XIII–XV стагоддзях горад Чэтацяь-Албе ўзбагаціўся знакамітай крэпасцю. «Я, мізэрны, праехаў і агледзеў сем тысяч шэсцьдзясят крэпасцяў, але такога дзівоснага рова, глыбокага і трывалага, я не бачыў», — пісаў турэцкі вандроўнік Эўлію Чэлебі. Роў сапраўды дзівіць нават больш, чым сама крэпасць. Яго капалі ўручную і высякалі ў скале.

Крэпасць вытрымала некалькі нападаў асманскіх войскаў, але 5 жніўня 1484 года ўсё ж здалася. Усяго праз некалькі месяцаў пасля ўзвядзення Кілійскай брамы, праз якую турысты цяпер трапляюць усярэдзіну, Ак-Керман стаў портам на ўнутраным моры Асманскай імперыі. Асманскія архітэктары абнавілі на свой густ некалькі вежаў, пабудавалі некалькі мячэцяў. Мінарэт адной з іх узвышаецца да гэтага часу.

Крэпасць, рэзідэнцыя каменданта і іншых гарадскіх уладаў уражвалі раскошай. Вежы і сцены былі ўпрыгожаныя роспісам, разьбой і абліцоўкай. Ужо згаданы Эўлія Чэлебі апісваў наіўную містыфікацыю асманскага часу: на скляпеннях варот на ланцугах віселі сківіцы міфічнага

## Грыгоры Цамблак

У Белгарадзе ў пачатку XV стагоддзя спыняўся Грыгорый Цамблак, той самы мітрапаліт, якога Вітаўт хацеў бачыць на чале праваслаўных Вялікага Княства Літоўскага (бо кіеўскі мітрапаліт тады ўжо жыў у Маскве і падначальваўся яе князям). Праваслаўныя епіскапы ВКЛ і Польшчы нават выбралі Цамблака мітрапалітам (цэнтрам мітраполіі абвясцілі Вільню, рэзідэнцыяй — Наваградак). Праўда, каб давесці справу да канца, палітычных высілкаў Вітаўта не хапіла. Вось гэты самы Грыгорый Цамблак, праязджаючы праз Чэтацяь-Албе, напісаў жыціе грэчаскага купца з Трапезунда па імені Іаан, які некалі не саступіў патрабаванням язычніцкіх гарадскіх уладаў зрачыся праваслаўя і быў за гэта пакараны. Так у Белгарада з'явіўся святы заступнік, Іаан Сучаўскі.

## Рэцэпт торта «Фантан»

У ліпені 2015-га ў Адэсе правялі конкурс на найлепшы торт-сімвал горада. Два месяцы, 60 прэтэндэнтаў — і перамог торт «Фантан»: спалучэнне шакаладнага пясочнага цеста і арэхавага безэ, праслоены гана́шам (крэмам з шакаладу і вяршкоў) з кісла-салодкім абрыкосава-слівавым мармеладам усярэдзіне. З лета 2015-га торт гатуюць некалькі кандытарскіх і рэстаранаў. Смак Адэсы вы можаце аднавіць і дома.

**Інгрэдыенты**

*Для пясочных каржоў:*
70 г мяккага масла, 1 шклянка прасеянай мукі, 2 сталовыя лыжкі цукровай пудры, 1 сталовая лыжка цукру, 1 чайная лыжка какавы, 1 жаўток, 1 сталовая лыжка каньяку.

*Для паветрана-арэхавых каржоў:*
бялкі 10 яек, 1 шклянка цукру, 2/3 шклянкі вычышчанага молатага міндаля.

*Для шакаладнага ганашу:*
1,25 шклянкі вяршкоў 35% тлустасці, 0,5 шклянкі какавы, 3 жаўткі, 1 шклянка цукру.

*Для жэле з сухафруктаў:*
1 шклянка абрыкосавага канфіцюру, 0,5 шклянкі курагі, 1/4 шклянкі чарнасліву, 2 сталовыя лыжкі каньяку, сок і цэдра 0,5 лімона, 1 чайная лыжка жэлаціну і 2 сталовыя лыжкі вады.

**Пясочныя каржы**

Узбіць масла з цукрам і цукровай пудрай дабяла. Дадаць яечны жаўток, каньяк. Узбіваць яшчэ 2 хвіліны. Затым паменшыць хуткасць і дадаць муку, змешаную з какавай. Спыніць міксер і дамясіць цеста ўручную, інакш яно не збярэцца з крошкі ў адзінае цэлае. Цеста будзе мяккім, але да рук прыставаць не павінна. Загарнуць цеста ў харчовую плёнку і пакласці ў халадзільнік мінімум на 1 гадзіну, максімум на 2 дні.
Перад выпечкай дастаць цеста з халадзільніка, падзяліць яго на дзве часткі. Кожную раскачаць у круг дыяметрам 20 см. Акуратна перакласці на бляху, засланую пергаментнай паперай. Абрэзкі цеста спячы разам з каржом — яны пойдуць на крошку для абсыпання бакоў гатовага торта. Выпякаць пры 160 градусах 12–15 хвілін.



**Паветрана-арэхавыя каржы**

Бялкі з цукрам узбіць у моцную, устойлівую пену, пакуль не растворыцца цукар. Дадаць молатыя арэхі і акуратна змяшаць. На пергаменце накрэсліць колы, на 1 см меншыя за дыяметр гатовага торта. У гэтых межах раўнамерна размеркаваць бялковую масу.
Выпякаць пры 140 градусах 1 гадзіну, затым яшчэ гадзіну — пры 100 градусах.

**Ганаш**

Змяшаць цукар з какавай, затым дадаць вяршкі і жаўткі. Добра змяшаць венчыкам. Прагрэць на невялікім агні да загусцення, увесь час памешваючы. Астудзіць.

**Жэле з сухафруктаў**

Жэлацін замачыць у вадзе. Калі жэлацін хуткараствaральны, то замачыць паводле інструкцыі на 30 хвілін. Сухафрукты апарыць кіпенем, абсушыць. Дадаць каньяк і пакінуць на 1 гадзіну, затым здрабніць у блэндары. Змяшаць канфіцюры, здробненыя сухафрукты, лімонны сок і цэдру. Прагрэць да 70–80 градусаў. Дадаць замочаны жэлацін і размяшаць да поўнага растварэння. Зняць з агню. Астудзіць.

**Афармленне**

У кружок пакласці пясочны корж. На яго выкласці 1/3 ганашу. Затым паслядоўнасць такая: корж-безэ, усё жэле, корж-безэ, 1/3 ганашу, пясочны корж. Торт змясціць на некалькі гадзін у халадзільнік. Паловай пакінутага ганашу пакрыць бакі торта і абсыпаць пясочнай крошкай. Ганаш, які застаўся, прагрэць і выліць на цэнтр торта.

заснавальніка крэпасці Салсала амаль чатырохметровай даўжыні.

Расійска-турэцкія войны завяршыліся для Акермана ў 1812 годзе далучэннем да Расійскай імперыі. Горад стаў усяго толькі цэнтрам павета і сышоў у цень бурлівай Адэсы. Туркі, як і татары, з Бесарабіі сышлі. Па законе ім забаранілі набываць тут нерухомасць і будаваць мячэці. Акрамя туркаў і татараў, у Акермане жылі грэкі, армяне, габрэі, караімы, малдаване. Былі і ўкраінцы, і рускія старавеоы-ліпаване. Усе яны пасля далучэння да Расіі засталіся.

Час расстаўляе прыярытэты. Калі ў XIX стагоддзі Акерманскую крэпасць неаднаразова спрабавалі прадаць на будаўнічы камень (на шчасце, не знайшлося купцоў), то ў XX стагоддзі Белгарад-Днястроўскі з яго крэпасцю стаў медыумам, праз які аматары даўніны з сучаснасці могуць далучыцца да духу мінулага. Крэпасць служыла дэкарацыямі для здымак гістарычных фільмаў («Караблі штурмуюць бастыёны», «Арліны востраў», «Чорная страла», «Атэла», «Капітан Нэма» і многіх іншых), а з 2001 года яшчэ і арэнай для штогадовага ўсеўкраінскага чэмпіянату па гістарычным фехтаванні. ◆


Старажытныя муры Акермана.
WIKIMEDIA COMMONS




# БАГУСЛАЎ РАДЗІВІЛ
## Нямецкі прынц

### Гэта як «Тры мушкецёры», толькі на беларускім матэрыяле

1 кастрычніка ў выдавецтве «Янушкевіч» выйдзе гістарычны раман **Ірыны Данеўскай** «Багуслаў Радзівіл. Нямецкі прынц з Вялікага Княства Літоўскага».
У ім апісваюцца маладыя гады Багуслава Радзівіла — адной з самых загадкавых і супярэчлівых постацей у гісторыі Рэчы Паспалітай XVII стагоддзя. Аўтарка пры напісанні кнігі абапіралася на гістарычныя дакументы эпохі, таму чытач рамана становіцца сведкам сапраўдных падзей і перыпетый жыцця славутага арыстакрата родам з Вялікага Княства Літоўскага. Ва Украіне раман стаў бестселерам.
Прапануем вашай увазе фрагмент 700-старонкавага рамана, у якім апісваецца побыт Радзівіла ў Слуцку.

Слуцк, старажытная сталіца Алелькавічаў, дастаўся Багуславу дзякуючы шлюбу яго амбітнага бацькі з апошняй прадстаўніцай некалі магутнага княжацкага роду Сафіяй. Пабудаваны ў вусці дзвюх рэк — звілістага Бычка і паўнаводнай Случы — горад быў адным з найбуйнейшых у Вялікім Княстве Літоўскім. Свайго гаспадара ён сустракаў урачыстай працэсіяй гарадскіх чыноўнікаў, прадстаўнікоў купецтва, цэхавых майстроў, княжых аканомаў і слуг на чале з войтам, а таксама дзіўнай для зімы адлігай. Пад грукат гармат на гарадскім вале і радаснае бомканне царкоўных званоў Багуслаў з міласцівай усмешкай прыняў ключы ад горада на аксамітнай падушцы, і, перасеўшы з саней на каня, адправіўся агледзець сваю сталіцу.

Праязджаючы па адкідным драўляным мосце праз заледзянелы гарадскі роў, Радзівіл задраў галаву, каб палюбавацца пазалочаным шпілем галоўных гарадскіх варот — Віленскай брамы, — які ярка зззяў на сонцы. Рэзка спыніў каня, убачыўшы барвова-чырвоны герб з выявай вершніка, што ваяўніча размахваў мячом, скачучы на белым кані ўслед за ворагамі, і абурана павярнуўся да войта.

— Гэта што такое?

Войт, мажны высокі чалавек небаязлівага выгляду, збянтэжана залыпаў вачыма.

— Гэта, міласцівы князь, «Пагоня» — герб былых уладальнікаў горада.

— Сам бачу. Чаму ён вісіць на варотах, калі горад ужо паўстагоддзя належыць Радзівілам?

Войт пачаў нешта лапатаць пра магдэбургскае права і пра памерлых князёў Януша з Крыштафам, якія нічога супраць герба не мелі, але яго абарваў княжацкі аканом.

— Зменім, ваша княжацкая міласць, — паабяцаў ён.

Багуслаў кіўнуў і горда заехаў у гарадскія вароты міма ўзброенай алебардамі варты. Кінуўшы хуткі погляд на Стары горад, князь, перад вачыма якога мільганула чыста прыбраная Галандыя, з прыкрасцю прыкусіў губу.

— Якая жахлівая дзіра, — прамармытаў ён.

Вядома, Багуслаў перабольшваў. Дамы гараджан у гэтым лясным краі былі хоць драўлянымі, затое ахайнымі, і не стаялі, скупіўшыся ў беспарадку, а выстройваліся ўздоўж роўных гарадскіх вуліц. Самая шырокая з іх, Віленская, цягнулася ад брамы міма ратушы, Ільінскага і Праабражэнскага манастыроў да старажытнай крэпасці, створанай умацаваннямі Верхняга і Ніжняга замкаў, дзе кватараваў гарадскі

гарнізон. Свежы вецер са Случы, якая дзяліла горад напалам, прыемна казытаў твар. Але князь чэпкім гаспадарскім вокам хацеў вылоўліваць недахопы, а не захапляцца дабрабытам...

Змяшаўшыся з гарадскімі ўраднікамі, княжацкі поезд павольна рушыў да ратушы. Уздоўж Віленскай вуліцы вышыхтаваліся мяшчане, каб хоць краем вока зірнуць на валадара; да акон і агароджаў прыкіпелі жанчыны, і да княжацкіх вушэй час ад часу даносіўся іх захоплены шэпт:

— А хто з іх князь?

— Той чарнявы...

— На белым кані?

— Не, на вараным...

— Які прыгажун!

Багуслаў ледзь стрымаў усмешку. Павярнуўся да Саковіча, які паважна трымаўся трохі ззаду, і ўбачыў, што той адкрыта разглядае жанчын, прымячаючы прыгожанькіх.

— Адаме, толькі без глупстваў, папярэджваю цябе, — сказаў ён як мага стражэй. — Тут нас чакаюць іншыя забавы!

— Ды што ты, Богусь? — пазяхнуў той. — Дзе ж яшчэ забаўляцца, як не дома?..

Каля старой гарадской ратушы, якая патрабавала неадкладнага рамонту, князь саскочыў з каня на драўляны памост, што быў тут замест бруку, і нахмурыўся, пачуўшы, як той пагрозліва рыпіць пад нагамі. Яго чакала іншая частка ўрачыстасцей. Выслухаўшы прывітальныя прамовы ад цэхавых майстроў (на шчасце, не занадта доўгія) і прыняўшы ў падарунак ад гараджан цяжкі срэбны падсвечнік, Радзівіл рушыў далей.

Наступны прыпынак быў на Рынкавай плошчы. Запруджанае людзьмі велізарнае торжышча таксама было вымашчанае сапрэлым дрэвам, якога, зрэшты, і відаць не было пад сырым месівам з адталага бруду і смярдзючых нечыстот. Купецкі старэйшына звярнуўся да Багуслава з традыцыйнай прывітальнай прамовай і гаварыў бы доўга, каб не раптоўны прыступ кашлю. Пакуль выступоўца задыхаўся і гучна кашляў, князь хутка звярнуў размову на будзённыя рэчы, якія цікавілі яго значна больш за ўрачыстую ліслівасць.

— Ну, і як вам тут гандлюецца? — спытаў Радзівіл у слуцкіх купцоў, якія насцярожана разглядалі ладную фігуру свайго валадара і яго прыгожы твар, якія, на іх думку, не прадказвалі для іх нічога добрага. — Бачу, цяпер горад падрыхтаваўся да майго прыезду, але што тут адбываецца ў будні? Думаю, бруд на торжышчы такі, што воз з таварамі папросту патоне?

Купцы пераглянуліся, шукаючы ў гэтых словах нейкага падвоху, але князь, сам таго не ведаючы, зачапіў занадта балючае пытанне, каб на яго можна было не звяртаць увагі.

— Патоне, міласцівы князь, — горача пацвердзіў адзін з іх. — Яшчэ некалькі тыдняў таму выдатны жарабец, якога я на продаж прывёз, пашкодзіў сабе нагу вось на гэтым самым месцы, дзе цяпер стаіць ваша міласць. А магістрат усё роўна прыбіраць не спяшаецца!

Ён кінуў злосны погляд у бок гарадскіх ураднікаў. Жаўтаваты твар войта ўкрыўся чырвонымі плямамі, і ён падскочыў да прамоўцы так хутка, як толькі гэта дазваляла яго круглае пуза.

— За сваёй скацінай сам глядзі! — адрэзаў ён. — А гарадскі гарнізон мае іншыя абавязкі.

— Ты думай, чалавеча, што кажаш, — абурыўся купец. — Хіба растлумачыш неразумным жывёлам, дзе і калі ім трэба гадзіць? Ды і не наша справа за ўборкай сачыць, дастаткова і таго, што спраўна падаткі плацім у гарадскі скарб.

Не паспеў Багуслаў апамятацца, як вечная спрэчка паміж гандлёвым людам і гарадскімі радцамі пра ўтрыманне гандлёвых радоў успыхнула з новай сілай. Паважаныя сівавалосыя мужы ледзь за чубы не хапаліся. Калі гаворка зайшла пра гнілыя масткі на плошчы, якія ўжо даўно пара было замяніць, Радзівіл не вытрымаў.

— А каменем брукаваць не спрабавалі? Так, каб не на дзесяць гадоў хапала, а на стагоддзі? — спытаў ён.

Наступіла цішыня.

— На гэта ж купа грошай пойдзе, ваша княжацкая міласць, — нарэшце сказаў войт. — Камень жа здалёку прыйдзецца вазіць, коней і людзей наймаць... Гарадскому скарбу такое не пад сілу.

Мяшчане падтрымалі галаву ўхвальным ровам.

— Хай плацяць тыя, што гандлююць! — крыкнуў нехта. — Гэта іх клопат.

— І камень возяць! У іх і коні, і людзі! — падтрымаў яго іншы.

Спрэчка ўспыхнула з новай сілай. Шум стаяў такі, што вушы вялі.

— Які жах! — абурана прамармытаў пан Пуцята. — Горш, чым на сойміку.

— Можа, навучыць гэтых крыкуноў пачціваcці, *мон прэнс**? — падаў голас Саковіч. — Зусім страх і сорам страцілі.

Багуслаў загадаў не ўмешвацца, таму што ўважліва прыслухоўваўся да ўзаемных абвінавачванняў, якімі засыпалі адзін аднаго ўсе ўдзельнікі спрэчкі.

— Ціха! — загадаў ён, калі вырашыў, што пачуў дастаткова. — Клопат маем супольны, таму вырашаць яго будзем разам... Плошчу і галоўныя вуліцы так ці інакш прыйдзецца брукаваць.

А коні і вазы, як тут справядліва кажуць, у купцоў ёсць...

— Быццам мы іх пустымі ганяем, — абурыўся хтосьці з купцоў, няветліва перабіваючы князя. — І парабкі ў нас таксама не лайдачаць!

Радзівіл моўчкі ўтаропіўся ў нахабніка ледзяным позіркам і чакаў, склаўшы рукі на грудзях.

— Калі я кажу, варта маўчаць і слухаць, — зазначыў ён, калі чалавек, спахапіўшыся, супакоіўся. — Колькі ў цябе вазоў?

— Дзесяць, міласцівы князь, — прамармытаў той.

— І колькі разоў у год ты на кірмашы ў Слуцку? Прынамсі дваццаць?

Нічога не разумеючы, той кіўнуў.

— Такім чынам, — услых падумаў Багуслаў, — калі ты падчас кожнага падарожжа пакладзеш на кожны свой воз з таварам адзін камень і прывязеш яго ў горад, за год горад без аніякіх затрат атрымае дзвесце камянёў на брукаванне плошчы, дзе ты прадаеш свой тавар. І ты сам не адчуеш ніякіх страт. Я праўду кажу? — пацікавіўся ён у прысутных.

— Шчырую праўду, ваша княжацкая міласць, — здзіўлена пацвердзіў купец. — Але нейкіх дзвесце камянёў не хопіць, каб забрукаваць усю плошчу...

— А калі тое самае зробіць кожны купец, што прывозіць тавар у Слуцк? — сказаў князь, падвысіўшы голас, каб перакрычаць задаволенае гудзенне мяшчан, якім тыя сустрэлі прапанову. — За год назбіраецца матэрыялу, каб пачаць работы?

— Так, ваша міласць, — горача пацвердзіў войт, які ўжо з павагай глядзеў на князя, бо не чакаў ад маладога і, здавалася, распешчанага магната такой гаспадарлівасці.

— А мастаўшчыкам хто заплаціць? — крыкнуў нехта з натоўпу.

Багуслаў халодна ўсміхнуўся.

— Вось калі будзеце мець дастаткова матэрыялу, тады пра гэта пагаворым... А пакуль, — князь строга паглядзеў на войта, які нізка яму пакланіўся, мармычучы прабачэнні за людскую нястрыманасць, — гэта мой загад, і ён патрабуе не абмеркаванняў, а добрасумленнага выканання!

Сказаўшы так, Радзівіл ускочыў на каня і панёсся да замка, пакінуўшы падданых пляткарыць пра дзіўнага валадара і яго загады.

* З французскай — мой князь.

Поўную версію рамана з 1 кастрычніка можна будзе набыць у інтэрнэт-кнігарні **JANUSKEVIC.BY**, а таксама ў галоўных кнігарнях Мінска і ўсёй краіны.

# Рэцэпты ад мудрай пані

## Ваўкавыскі сняданак не горшы за англійскі



**Вялікдзень, 1926–1928 гады, Ваўкавыск.
Клаўдзія (з роду Уласікаў) і Павел Леановічы (справа ад жонкі).**

**— Гэтыя рэцэпты ад маёй бабулі Клавы з Ваўкавыска, думаю, засвоеныя яшчэ за польскім часам,** — кажа гісторык Вольга Бабкова. — Мая бабуля родам з Лунінца. А мой дзед Павел, яе муж, быў родам з-пад Клецка, з вёскі Бабаевічы. Яны пазнаёміліся ў Ваўкавыску: разам спявалі ў царкоўным хоры. У дзеда было чацвёра братоў і дзве сястры, усе хлопцы атрымалі ад бацькі зямлю. Дзед быў вельмі разумны, адвучыўся ў нясвіжскай гімназіі, а пасля паехаў у Пецярбург і паступіў, напэўна, у Тэхналагічны інстытут. Потым па размеркаванні трапіў у Ваўкавыск на пошту і стаў там тэлеграфістам.

**Калі прыйшоў 1939 год, у Ваўкавыску з'явілася шмат людзей з Расіі: вайскоўцы, чыноўнікі. З'явіліся ў дзеда і новыя калегі на пошце.** Зразумела, яны добра кантактавалі, і вось быў такі смешны выпадак, які застаўся ў аналах нашай сям'і. Ідзе дзед па вуліцы, а насустрач — яго новы калега, з Казані ці адкуль. Дзед здымае капялюш, каб паздаровацца, той у адказ кажа: «Прівет!» А дзед пытаецца «Ад каго?» Для яго такое вітанне было нязвыклым.

**Падчас акупацыі дзед быў настаўнікам беларускай мовы.** Дзед з бабуляй віталі разам з іншымі ў Ваўкавыску спевака Забэйду-Суміцкага, а пасля былі на ягоным канцэрце. Малой маці прапанавалі ў нацыянальным строі падараваць спеваку букет палявых кветак, але яна, малая, засаромелася і схавалася ў жыце.

**У 1944-м дзеда адправілі ў Магадан: абвінавачвалі ў жаданні адарваць Беларусь ад Савецкага Саюза.** У 90-х маме ўдалося прачытаць дзедаву справу ў архіве КДБ. Дзед прапаў, а праз паўтара года прыйшла даведка, што ён памёр ад дызентэрыі. А ў 1956-м прыйшла рэабілітацыя.

### Прымала людзей і давала парады замест мужа-адваката

**Бабуля потым выйшла замуж другі раз, за прыезджага адваката.** Сама яна была настолькі разумненькай, што часам, калі муж адпачываў ці ў грыбы хадзіў (ён грыбнік страшэнны быў),

то яна сама прымала людзей і давала ім нейкія юрыдычныя парады! Мела гумарыстычную мянушку *Mądra Pani*.

## Ідзе дзед па вуліцы, а насустрач — яго новы калега з Расіі. Дзед здымае капялюш, здароваецца, той у адказ: «Привет!» А дзед пытаецца «Ад каго?»

**Бабуля вельмі любіла гуляць у карты, раскладаць пасьянс.** У іх у пакоі заўсёды пахла махоркай, бо дзед паліў — ужо мой другі дзед. На сценах віселі каляровыя часопісныя ілюстрацыі карцін вядомых мастакоў, напрыклад «Вершніцы» Брулова. У пакойчыку ўсе збіраліся пры такім вялікім стале для гульні ў карты, а на стале ляжаў барвовы абрус з кутасамі. Часам пад ім я знаходзіла карту — гэта нехта змухляваў. Заўсёды смяяліся з бабуліных хітрыкаў з картамі... ◆


BY AOSTOJSKA, SHUTTERSTOCK.COM

### Яйкі па-заходнебеларуску

*Патрэбна:*

- 10–15 яек,
- 1 цыбуліна,
- вяндлінка (калі ёсць),
- дробка солі,
- трохі масла,
- трохі сухарыкаў для абсыпкі,
- зяляніна.

Адварыць яйкі ўкрутую. Астудзіць. Узяць востры нож і з размаху разрэзаць кожнае яйка на дзве палавіны (уздоўж). Нож павінен быць вельмі востры, каб не скрышыў шкарлупіну. Акуратна выняць жаўток і бялок у місачку, здрабніць. А шкарлупінкі скласці асобна. Трохі падсмажыць цыбулі, скрышыць і дадаць у яйкавую масу — яна надасць смак грыбоў. Можна дадаць, калі ёсць, нейкую вяндлінку, парэзаўшы яе вельмі дробненька. Важна дадаць у яечную масу зяляніну: зялёную цыбульку, пятрушку ці кроп. Пасаліць. Затым растапіць на патэльні масла і выкласці туды яечную масу, каб яна трошкі з гэтым маслам падыхала. Потым кожную шкарлупінку напоўніць гэтай масай, абмачыць зверху ў сухарыках і крышачку падсмажыць на масле, каб сухарыкі схапіліся, каб скарынка стала залацістая. Есці страву трэба лыжачкай.


BY NORTHPIX, SHUTTERSTOCK.COM

### Ваўкавыскі сняданак

*Патрэбна:*

- 1 лустачка батона,
- 1 яйка,
- трохі алею для падсмажвання,
- трохі зялёнай цыбулі.

Адрэзаць лустачку батона (найлепш таго, які ў разрэзе квадрацікам). Пасярэдзіне лусты выразаць кружочак (ромбік), падсмажыць з аднаго боку. Калі трошкі прасмажыўся, перавярнуць. У прарэзаную дзюрачку ўліць яйка, каб яно не вылазіла за межы дзюрачкі. Далей падсмажваць ужо на маленькім агні. Зверху густа пасыпаць яйка зялёнай цыбуляй. Можна, урэшце, перавярнуць, каб яйка было «на два бакі», але гэта ўжо не па рэцэпце.



**Пашпарт**
Датаванне — другая палова XIII стагоддзя
Месца адліву — ВКЛ.
Вага 95.52 г.
Памер — каля 130х15 мм.
Метал — срэбра.
Антыкварны кошт ~ 2000 BYN.

# Літоўскі ізрой

З'яўленне Вялікага Княства Літоўскага датуецца сярэдзінай XIII стагоддзя. З гэтага ж часу вядомыя і першыя грошы, якія, хаця й не мелі на сабе дзяржаўнай пячаткі, магчыма супаставіць з гаспадарствам Міндоўга. Грашыма служылі срэбныя грашовыя пруткі з паўкруглым сячэннем і вагой у 95–110 грам — ізроі. Вялікая доля ізрояў мае зарубкі ці запілы, якія служылі для пацвярджэння якасці кову (паказвалі, што ў сярэдзіне пруток таксама срэбны).

Назва «ізрой», верагодна, паходзіць ад старaславянскага «ізрыць» і адлюстроўвае тэхналогію вытворчасьці срэбных пруткоў (адліццё ў формах, выкапаных у зямлі). Срэбныя пруткі таксама завуць «грыўнай». Гэтым слова спярша называлі мужчынскае ўпрыгожванне пэўнай вагі. А пазней і срэбны злітак з такой самай вагой.

Форма ізроя, верагодна, запазычаная з прускай Самбіі (раён цяперашняга Калінінграда, там даўней жыло племя прусаў). Самбійскія пруткі выглядаюць вельмі падобна з літоўскімі, але маюць больш высокую вагу. Тыпова, калі сярэднявечная дзяржава пачынае сваю грашовую эмісію з выпуску перайманняў.

Першыя летапісныя ўпамінанні ізроя звязаныя з Віцебскам. У грамаце рыжскіх ратманаў (членаў гарадской адміністрацыі) да віцебскага князя Міхала Канстанцінавіча (каля 1300 года) згадваецца крыўда, якую ўчыніў купцам-«нямчынам» віцебскі князь. Міхал прапанаваў гандлярам 10 ізрояў за ўпадабанага каня, але ашукаў іх. У іншай грамаце таго часу рыжане крыўдуюць на князевага брата, які «гандляваў... на 30 ізрояў. 17 ізрояў заплаціў, а трынаццаць ізрояў не заплаціў». Вядомыя графіці з словам «ізрой» на падобных прутках. Канец абарачэння ізрояў адносіцца да трэцяй чвэрці XIV стагоддзя: апошні скарб са срэбнымі зліткамі закапалі ў зямлю ў 1365 годзе.





Даследаванне якасці срэбра ізрояў пакуль не праводзілася. На выгляд нашы ізроі пробай срэбра саступаюць прускім.
**Даволі часта сустракаюцца сечаныя кавалкі ізрояў.**

# Ці былі ў ВКЛ футраныя грошы?



**Драўлянае пано на лаве лютэранскага храму святога Мікалая ў ганзейскім горадзе Штральзунд (Германія).** Лаўку ў 1360-х гадах падарылі царкве мясцовыя купцы, якія гандлявалі з Рыгай. Тут паказаны гандаль рускіх купцоў з прыказчыкам падвор'я святога Пятра ў Рызе. Купцы трымаюць звязак шкурак.

Футраныя грошы — шкуркі куніц (*кун*) і вавёрак (*векш*) — увёў Усяслаў Чарадзей. Раней людзі расплачваліся манетамі і зліткамі: дырхемамі, пенязямі, ізроямі. Але срэбра было мала, і яго замянілі грошы-шкуркі. Шкуркамі таксама плацілі падаткі. У сярэдзіне XII стагоддзя ў адзін звязак аб'ядноўваліся 18 вавёрчыных футраў, якія счапляліся свінцовымі пломбамі накшталт маленькай пячаткі. Існаванне футраных грошай прасочваецца ў Полацкім княстве да канца XII стагоддзя. Апошнія вядомыя пломбы з іх адносяцца да часоў князя Валадара Васількавіча (паміж 1143–1147 – 1216).

Аказваецца, футраныя грошы выкарыстоўвалі і ў Вялікім Княстве. Польскі храніст другой паловы XV стагоддзя Мацей Стрыйкоўскі сцвярджаў: «Скуркамі куніцы, вавёрчынымі, лісінымі і іншых звяроў як палякі, так і русы, літоўцы, мазуры звыклыя былі пры закупах сваіх разлічвацца». «Мордкі вавёрак і куніц» маглі служыць разменнай манетай (у такой якасці іх убачыў у Ноўгарадзе ў 1413 годзе французскі дыпламат Жылібер дэ Лянаа). Так што нават у XIII–XV стагоддзях, калі людзі ўжо разлічваліся грашыма з каштоўных металаў, футраныя грошы існавалі як перажытак.

**Дзмітрый Гулецкі**

Юбілейны нумар да 20-годдзя часопіса

ARCHE

ПАЧАТАК

arche.by

2—2018

АРЫГІНАЛ АКТУ 25 САКАВІКА

УСТАЎНЫЯ ГРАМАТЫ

Вайскова-Дыпламатычная Місія Беларускай Народнай Рэспублікі

МІСІІ

ВОЙСКА

ДЗЕЯЧЫ

ПЯЧАТКІ

ГІСТОРЫЯ БНР У КАРЦІНКАХ

МІЖНАРОДНЫЯ МЕМАРАНДУМЫ
ПАШПАРТЫ В. ЛАСТОЎСКАГА, К. ЕЗАВІТАВА, А. ЛУЦКЕВІЧА
КАРТЫ БНР. АДОЗВЫ, УХВАЛЫ, АБВЕСТКІ
ЗАМОЎЧАНЫЯ ДАСЯГНЕННІ

12+

ISSN 1392-9682




**Гісторыя БНР у карцінках**
(ARCHE. № 2 за 2018 год).

Чарговы выпуск часопіса «ARCHE» прымеркаваны да 100-гадовага юбілею абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, які шырока адзначаецца ў гэтым годзе.

Прэзентаваны нумар часопіса — адметны ад усяго іншага, што прапаноўвалася раней. Ён дазваляе чытачу паглыбіцца ў аўтэнтычны свет БНР і Акта 25 сакавіка 1918 года. Яго выдаўцы і рэдактары наважыліся звярнуцца да чытача не мовай тэкстаў, а мовай візуальных вобразаў, зафіксаваных у друкаваных публікацыях, рукапісных дакументах, чорна-белых фатаграфіях або каляровых плакатах ці паштоўках.

Рыхтуючы гэты выпуск, яго складальнікі стараліся пазбягаць паўтору шаблонных сюжэтаў, звязаных з БНР. Для іх таксама былі важнымі тэмы, якія застаюцца надзвычай актуальнымі ў Беларусі і праз сто гадоў: беларуская мова як мова урадовых актаў, уніформа і знакі адрознення беларускіх вайскоўцаў, беларуская нацыянальная сімволіка і г. д.

Аснову гэтага нумара склалі матэрыялы, якія назапасіліся ў архіве «ARCHE» за 20 гадоў яго існавання, але ёсць у ім таксама і ілюстрацыі, якія друкуюцца ўпершыню. Вытрыманы высокі паліграфічны ўзровень — крэйдаваная папера, якасны друк.

**Найпрасцейшы спосаб набыцця нумара — праз сайт arche.by. Можна таксама яго набыць у мінскай кнігарні «Акадэмкніга», у інтэрнэт-кнігарнях knihi.by і halijafy.by, а таксама ў прыватных распаўсюднікаў. Акрамя таго пытайцеся ў кіёсках «Саюздруку» ў Мінску, а таксама Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцях.**

# Праверце, ЯК БЫ ВЫ ЗДАЛІ ЦТ проста зараз

## *Набераце 100 балаў?*


Царква Каложа ў Гродне.

WIKIMEDIA COMMONS

**Прапануем 50 пытанняў, складзеных выключна па школьных падручніках.**

**1. Самая старажытная мураваная пабудова на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца ў горадзе:**
А) Гродна
Б) Барысаў
В) Тураў
Г) Полацк

**2. Каля якога населенага пункта знойдзеныя самыя вядомыя старажытныя крэмнездабыўчыя шахты на Беларусі?**
А) Свяцілавічы
Б) Юравічы
В) Краснаселле
Г) Друя

**3. Якія два рэгіёны звязваў «бурштынавы шлях», які праходзіў па нашых землях у бронзавым веку?**
А) Прыбалтыку і Міжземнамор'е
Б) Еўропу і Далёкі Усход
В) Прыбалтыку і Афрыку
Г) Егіпет і Паволжа

**4. Укажыце адзін з доказаў змешанага пражывання на беларускіх землях славян з балтамі ў VI–VIII стагоддзях.**
А) Знаходкі на гарадзішчах «балцкай» і «славянскай» керамікі
Б) Аднолькавы тып жылля
В) Супольная мова
Г) Сведчанні «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»

**5. У якім горадзе каранаваўся Міндоўг?**
А) Каўнас
Б) Драгічын
В) Навагрудак
Г) Вільня

**6. Хто такі Яўнут?**
А) Слуга Гедыміна
Б) Сын Гедыміна
В) Брат Міндоўга
Г) Сын Міндоўга


**Скульптура эпохі неаліту.** Асавец Бешанковіцкага раёна.

**7. Вызначце правільную паслядоўнасць князёў Вялікага Княства Літоўскага.**
А) Міндоўг – Транята – Войшалк – Віцень
Б) Транята – Віцень – Таўцівіл – Міндоўг
В) Войшалк – Міндоўг – Будзівід – Альгерд
Г) Міндоўг – Трайдзень – Альгерд – Гедымін

**8. Калюмны — гэта:**
А) Герб роду Гедымінавічаў
Б) Дзяржаўны герб Вялікага Княства Літоўскага
В) Герб Троцкай зямлі ў складзе ВКЛ
Г) Герб Жамойці

**9. Як была падзелена тэрыторыя ВКЛ падчас кіравання Альгерда і Кейстута?**
А) Поўдзень – Альгердаў, поўнач – Кейстутава
Б) Поўнач – Альгердава, поўдзень – Кейстутаў
В) Усход – Альгердаў, захад – Кейстутаў
Г) Захад – Альгердаў, усход – Кейстутаў

**10. Чаму Кейстут у 1381 годзе пазбавіў Ягайлу ўлады і сам стаў на чале дзяржавы?**
А) Ягайла заключыў сакрэтныя дамовы з крыжакамі
Б) Ягайла стаў польскім каралём і перастаў дбаць пра інтарэсы ВКЛ
3) Кейстут імкнуўся перадаць уладу свайму сыну Вітаўту
4) Ягайла заключыў саюз з татарамі і з'ехаў у Арду

**11. Як звалі польскую каралеўну, з якой мусіў ажаніцца вялікі князь Ягайла паводле ўмоў Крэўскай уніі?**
А) Барбара
Б) Ядвіга
В) Біруta
Г) Юстына

**12. Які дакумент лічыцца пачаткам прававой сістэмы ВКЛ?**
А) Прывілей Вітаўта 1388 года
Б) Прывілей Ягайлы 1413 года
В) Прывілей Жыгімонта Кейстутавіча 1434 года
Г) Прывілей Казіміра 1447 года

**13. Хто ўзначальваў войскі ВКЛ у Клецкай бітве 1506 года?**
А) Міхал Глінскі
Б) Ян Замойскі
В) Геранім Хадкевіч
Г) Канстанцін Астрожскі

**14. Вызначце імя міланскай прынцэсы, якая стала жонкай Жыгімонта І і вялікай княгіняй літоўскай.**
А) Батыста Сфорца
Б) Б'янка Сфорца
В) Бона Сфорца
Г) Кацярына Сфорца

**15. Адна з першых буйных перамог ВКЛ над мангола-татарамі — гэта:**
А) Бітва пад Шаўляем 1236 года
Б) Бітва на Сініх Водах 1362 года
В) Бітва пад Вількамірам 1435 года
Г) Бітва пад Клецкам 1506 года

**16. Паводле якога пагаднення Вітаўт быў абвешчаны вялікім князем літоўскім?**
А) Крэўская унія 1385 года
Б) Востраўскае пагадненне 1392 года
В) Віленска-Радамская унія 1401 года
Г) Прывілей 1432 года

**17. Аснову войска ВКЛ да сярэдзіны XVI стагоддзя складала:**
А) Пагоня
Б) Паспалітае рушэнне
В) Гусарская кавалерыя
Г) Татарская конніца

**18. Чаму Вялікае Княства Літоўскае заключыла Люблінскую унію з Польшчай? Назавіце асноўную прычыну.**
А) Вялікі князь закахаўся ў польскую каралеву
Б) Неабходна было даць арганізаваны адпор крыжакам
В) ВКЛ была патрэбна дапамога Польшчы ў Лівонскай вайне
Г) Польшча патрабавала дапамогі шляхты ВКЛ у барацьбе са Швецыяй

**19. З якіх дзвюх палат складаўся парламент Рэчы Паспалітай?**
А) Палата Прадстаўнікоў і Савет Княства
Б) Сенат і Пасольская Ізба
В) Паны-рада і Сейм
Г) У парламенце не было падзелу на палаты

**20. Хто быў першым абраным каралём Рэчы Паспалітай?**
А) Жыгімонт Кейстутавіч
Б) Генрых Валуа
В) Ян Сабескі
Г) Стэфан Баторы

**21. Статут ВКЛ 1588 года:**
А) Ігнараваў заключэнне Люблінскай уніі
Б) Ігнараваў існаванне ВКЛ
В) Ігнараваў правы магнатаў
Г) Ігнараваў інтарэсы шляхты ВКЛ

**22. Да якога года на тэрыторыі Беларусі дзейнічаў Статут 1588?**
А) 1795
Б) 1825
В) 1832
Г) 1840

**23. Што такое liberum veto?**
А) Права шляхты на выбар манарха
Б) Права любога дэпутата спыніць працу сойма
В) Прынцып, які азначаў бесстароннасць рашэнняў Галоўнага Трыбунала
Г) Старажытны магічны заклён

**24. Якія два дакументы абавязкова падпісваў новаабраны кіраўнік Рэчы Паспалітай?**
А) Канстытуцыю і Галоўны Статут
Б) Дамову аб караляванні і Прысягу Папу Рымскаму
В) Кодэкс аб крымінальных злачынствах і Статут ВКЛ
Г) Пакта Канвента і Генрыкавы Артыкулы

**25. Продкамі якога старажытнага народа лічыла сябе шляхта Рэчы Паспалітай?**
А) Скіфаў
Б) Егіпцян
В) Сарматаў
Г) Арыяў

**26. У 1655 годзе вялікі гетман ВКЛ Януш Радзівіл заключыў дзяржаўную унію, якая павінна была вырашыць усе праблемы Вялікага Княства. Аднак адразу ж стаў здраднікам у вачах грамадства і памёр пры загадкавых абставінах. З кім Януш Радзівіл заключыў унію?**
А) Войска Запарожскае
Б) Расія
В) Швецыя
Г) Малдавія

**27. Пра каго ідзе гаворка? Віленскі ваявода, самы багаты магнат ВКЛ, праславіўся сваёй шчодрасцю і свавольствамі. У 1767 годзе ўзначаліў Радамскую каталіцкую канфедэрацыю.**
А) Міхаіл Казімір Агінскі
Б) Караль Станіслаў Радзівіл (Пане Каханку)
В) Міхаіл Казімір Радзівіл Рыбанька
Г) Станіслаў Аўгуст Панятоўскі


**Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ян Казімір.**
Мастак Даніэль Шульц.

**28. Які горад вялікі князь і кароль польскі Стафан Баторый выбраў сабе ў якасці асноўнай рэзідэнцыі?**
А) Віцебск
Б) Вільня
В) Менск
Г) Горадня

**29. Колькі было падзелаў Рэчы Паспалітай?**
А) Адзін
Б) Два
В) Тры
Г) Чатыры

**30. У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай сучасная тэрыторыя Беларусі ўвайшла ў склад:**
А) Расійскай імперыі
Б) Расійскай і Асманскай імперый
В) Расійскай і Аўстрыйскай імперый
Г) Расійскай імперыі і Прускага каралеўства

**31. Што такое План Агінскага?**
А) План уцёкаў М.К. Агінскага з Расійскай імперыі
Б) План абароны заходніх губерняў Расійскай імперыі падчас вайны 1812 года
В) План паўстання супраць улады Расійскай імперыі
Г) План стварэння асобнай дзяржавы з заходніх губерняў Расійскай імперыі

**32. Як звяртаўся да паўстанцаў Кастусь Каліноўскі ў першым нумары «Мужыцкай праўды»?**
А) Таварышы
Б) Дзецюкі
В) Грамадзяне
Г) Мужыкі

**33. Вызначце імя ўдзельніка паўстання 1863–1864 гадоў, які ўцёк з катаргі, трапіў у Грэцыю, шмат зрабіў для яе культуры і ў 1910 годзе стаў ганаровым грамадзянінам гэтай краіны.**
А) Фелікс Ражанскі
Б) Іван Чэрскі
В) Зыгмунт Мінейка
Г) Казімір Альхімовіч

**34. Хто ў студзені 1919 года ўзначаліў Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад Беларусі?**
А) Язэп Варонка
Б) Аляксандр Чарвякоў
В) Зміцер Жылуновіч
Г) Аляксандр Мяснікоў

**35. Які архітэктар праектаваў Тэатр оперы і балета, Дом урада і Дом афіцэраў у Мінску?**
А) Іосіф Лангбард
Б) Аляксандр Воінаў
В) Генрых Гай
Г) Уладзімір Кароль



Архітэктар **Іосіф Лангбард.**

**36. Наркам асветы БССР гісторык Усевалад Ігнатоўскі ў 1922 годзе ініцыяваў адкрыццё:**
А) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта
Б) Беларускага дзяржаўнага музея
В) Беларускай кансерваторыі
Г) Інстытута беларускай культуры

**37. Якая беларуская партыя была самай вялікай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыяй у Еўропе 1920-х?**
А) Беларуская сялянска-работніцкая грамада
Б) Камуністычная партыя Заходняй Беларусі
В) Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі
Г) Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў

**38. У якой бітве ўпершыню была выпрабавана батарэя рэактыўных установак («кацюш»)?**
А) 23 чэрвеня 1941 года пад Гроднам
Б) 6 ліпеня 1941 года пад Сянно
В) 14 ліпеня 1941 года пад Оршай
Г) 23 верасня 1943 года пад Камарынам

**39. У 1942 годзе тагачасны кіраўнік Беларусі Панцеляймон Панамарэнка ўзначаліў:**
А) Цэнтральны штаб партызанскага руху
Б) Беларускі штаб партызанскага руху
В) Аперацыю «Рэйкавая вайна»
Г) Аперацыю «Баграціён»

**40. Першым сакратаром ЦК КПБ у 1956–1965 гадах быў:**
А) Пятро Машэраў
Б) Кірыла Мазураў
В) Мікалай Слюнькоў
Г) Панцеляймон Панамарэнка

**41. Якую сельскагаспадарчую культуру Хрушчоў загадаў вырошчваць па ўсёй тэрыторыі СССР?**
А) Гарбузы
Б) Яблыкі
В) Кукурузу
Г) Кок-сагыз

**42. У якім горадзе нарадзіўся Уладзімір Караткевіч?**
А) Орша
Б) Кіеў
В) Мінск
Г) Рагачоў

**43. Колькі ўсяго было Канстытуцый БССР?**
А) Адна
Б) Дзве
В) Тры
Г) Чатыры

**44. Вызначце, хто з пералічаных асоб не падпісваў Белавежскае пагадненне 8 снежня 1991 года:**
А) Барыс Ельцын
Б) Леанід Краўчук
В) Нурсултан Назарбаеў
Г) Станіслаў Шушкевіч

**45. Хто ў 1996 годзе стаў першым героем Беларусі?**
А) Уладзімір Карват
Б) Міхаіл Савіцкі
В) Пятро Пракаповіч
Г) Мітрапаліт Філарэт

**46. У якім годзе была прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь?**
А) 1993
Б) 1994
В) 1995
Г) 1996

**47. Калі адбыўся апошні рэферэндум па зменах у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь?**
А) 1996
Б) 1999
В) 2004
Г) 2010




**Беларускі партызан.** 1943 год.

**48. У якім годзе была ўведзена пасада прэзідэнта Рэспублікі Беларусь?**
А) 1991
Б) 1993
В) 1994
Г) 1996

**49. Колькі прэзідэнцкіх выбараў адбылося за ўвесь час існавання Рэспублікі Беларусь?**
А) Чатыры
Б) Пяць
В) Шэсць
Г) Сем

**50. Як называецца заканадаўчы орган Рэспублікі Беларусь?**
А) Вярхоўны Савет
Б) Адміністрацыя прэзідэнта
В) Савет Міністраў
Г) Нацыянальны Сход

**Правільныя варыянты адказаў глядзіце на апошняй старонцы.**

**Склаў Як-6**



**Падпісанне Белавежскіх пагадненняў** 8 снежня 1991 года.

# Героі беларускай гісторыі
## *расказваюць пра сябе*

Імя: Гедымін

Статус: князь-вяшчун

Рысы характару: справядлівасць, мудрасць, моц

Суперздольнасць: бачыць будучыню ў снах

Сімвал: герб Калюмны, які называлі яшчэ «Слупы Гедыміна»


Вежа Гедыміна ў Вільні.



**Я нарадзіўся так даўно,** што сам ужо кепска памятаю і дзяцінства, і юнацтва. Добра помню апошнія 40 гадоў: усіх князёў, з кім дамовіўся, усе гарады, што далучыў. А дзяцінства не памятаю.

**Канкурэнты распусцілі пра мяне чуткі,** што я конюх. У нашым свеце такое пастаянна — імкнуцца цябе ўкалоць. Расчарую іх: я з княскага роду. Хоць і ў працы конюха нічога заганнага не бачу. І коней люблю — колькі разоў яны мяне выносілі з поля бітвы!



**Ох які ў мяне конь!** Не знаю, хто з нас першы памрэ, але буду прасіць слуг, каб пахавалі мяне з ім. Я з такім канём на тым свеце не засумую. Ён разумнейшы за многіх людзей, толькі гаварыць не ўмее. Быў я неяк на паляванні, спыніўся на начлег. Гэта конь, дарэчы, мяне спыніў — не схацеў далей ісці і ўсё. Як ведаў, што мне ў гэтую ноч сасніцца самы важны сон у маім жыцці. А сніўся мне жалезны воўк, у якім выла яшчэ сорак ваўкоў. Не тое каб надта прыемная карціна. Што да чаго? А Лідзейка, вяшчун, мне патлумачыў: тут будзе горад, слаўны на ўвесь свет. Так і выйшла! Вільня сапраўды была сталіцай Вялікага Княства амаль 500 гадоў! Яна і цяпер сталіца Літвы. Я адразу ж прыгледзеў, дзе рэзідэнцыю пастаўлю. Яна і цяпер узвышаецца над горадам і называецца ў мой гонар — вежа Гедыміна.

**Вежы, замкі — маё хобі.** Ці бывалі вы ў Крэве? А ў Лідзе? З'ездзіце, то і мне раскажаце. Чуў, што паразвальваліся ўжо трохі, але ж і не дзіва — ведаеце, колькі ім гадоў? А падлічыце. Адыміце ад вашага году мой, 1341-ы. Гэты год — трыумфальны канец маёй кар'еры. Усе замкі пабудаваныя, усе ворагі разбітыя. Пара саступіць княства дзецям.

**Сыноў у мяне 7, дачок таксама.** Гэта ж колькі разам?.. Прашу ў вас дапамогі, бо мне ўжо цяжка лічыць. Столькі спраў, тут пад вечар імя свайго, бывае, не ўспомніш. Пра маіх дзяцей вам яшчэ многае раскажуць у школе, асабліва пра дваіх — Альгерда і Кейстута. Якія рыцары! Такія, дзеткі, былі часы: калі не ты ваюеш, дык цябе ваююць. Будзеце вучыць і пра майго зяця, Давыда Гарадзенскага. Яго так назвалі, бо надта добра глядзеў за гродзенскім замкам. А як гэты хлопец кахаў маю дачку, як заляцаўся! Такая была прыгожая пара. А як Давыд ганяў крыжакоў! Яны яго ніяк не маглі перамагчы ў баі, дык падаслалі здрадніка з кінжалам.

**У мой час прозвішчы рэдкасць,** але я магу ганарыцца — мае дзеці прозвішча атрымалі. Усе нашчадкі мае завуцца Гедымінавічы. Потым хтосьці стаў Бельскі, хтосьці Вішнявецкі, нехта Чартарыйскі... Дзеці мае сталі жыць хто ў Беларусі, хто ва Украіне, хто ў Літве і Польшчы.

**А ле галоўнае, каб не забывалі, адкуль наш род.**


Замак Гедыміна ў Лідзе.

Мастачка — Кацярына Першына.
Запісалі Паўліна Скурко, Дар'я Астрагалова

# ФРАНЦЫСК


Ваша каралеўская мосць,
яго правялебнасць Ян, біскуп Віленскі,
просіць аўдыенцыі.
Ян?
З Вільні?
Кліч!
1520 ГОД. КРАКАЎ. ВАВЕЛЬ. КАРАЛЕЎСКІ ЗАМАК.


Ваша каралеўская мосць...
Давай без фармальнасцей.


БІСКУП ЯН БЫЎ ПАЗАШЛЮБНЫМ СЫНАМ КАРАЛЯ.
Тата, як ты тут?
Напружана. З Масквой ваюем.


Бона вось-вось народзіць.
О, брацік? Ці сястрыца?
Сястрыц у цябе хапае,
Дзяржаве трэба спадкаемца.


Як табе біскупам быць?
Старыя канонікі ваўкамі глядзяць?
Ды яны ліст без памылак напісаць
не могуць!.. Сорамна перад Еўропай.
Гані іх. Табе трэба свая каманда.
Можа, ведаеш каго?


А вось прынеслі мне
тут нядаўна, глянь.


О, друкаваная. Дык гэта ж... па-русінску, амаль як у Вільні гавораць!
А друк! Ну і якасць! Як у немцаў!
Я папрасіў даведацца: гэты хлопец, Скарына, наш,
сын полацкага купца. Вучыўся ў Кракаве, пасля ў Падуі.
Цяпер жыве ў Празе. Мовы ведае.
Ну ясна ведае, калі Біблію пераклаў!

# НАРАДЖЭННЕ КАРАЛЯ

*Сюжэт: Андрэй Скурко*
*Малюнак: Антаніна Пашкевіч*





















# У папярэднім нумары часопіса




**Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях**

**Мінск**
«Акадэмкніга» (на станцыі метро Акадэмія навук)
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крама 60
«Галіяфы» (Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр Маскоўска-Венскі, павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро Якуба Коласа, Незалежнасці 58)
Кніжны кірмаш на вул. Даўмана, 23 (субота 00.00-14.00), месца 78б ІП Дудар Алесь
«Рагна» (Сухая, 4, метро Фрунзенская)
«Кніжная шафа» (Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by.

**Гродна**
«Цудоўня» (Кірава, 3).

**Брэст**
«Правільная кніга» (на Куйбышава 13, каля рынку)
«Князь Вітаўт» (Савецкая, 55).

**Віцебск**
«Светач» (Кірава, 10).

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (Горкага, 31).

Акрамя таго, праз сайт ARCHE.BY часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

**Адказы на тэст:**
1 – Г, 2 – В, 3 – А, 4 – А, 5 – В, 6 – Б, 7 – А, 8 – А, 9 – В, 10 – А, 11 – Б, 12 – Г, 13 – А, 14 – В, 15 – Б, 16 – Б, 17 – Б, 18 – В, 19 – Б, 20 – Б, 21 – А, 22 – Г, 23 – Б, 24 – Г, 25 – А, 26 – В, 27 – Б, 28 – Г, 29 – В, 30 – А, 31 – Г, 32 – Б, 33 – В, 34 – В, 35 – А, 36 – Г, 37 – А, 38 – В, 39 – А, 40 – Б, 41 – В, 42 – А, 43 – Г, 44 – В, 45 – А, 46 – Б, 47 – В, 48 – В, 49 – Б, 50 – Г.

**Падпісны індэкс 18008 (падпіска на 2019 год)**

СТЫПЕНДЫЯЛЬНАЯ ПРАГРАМА

# GAUDE POLONIA

**Нацыянальны цэнтр культуры ў Варшаве аб'яўляе XVIII конкурс (на 2019 год) у рамках стыпендыяльнай праграмы Міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча "Gaude Polonia".**

**Праграма "Gaude Polonia" прызначана для маладых творцаў і перакладчыкаў з краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.**

Курс навучання ў Польшчы пачнецца 1 лютага і будзе доўжыцца да 31 ліпеня 2019 года.
Набор удзельнікаў ажыццяўляецца на конкурснай аснове.
Кандыдаты павінны валодаць польскай мовай на базавым узроўні.

**Заяўкі прымаюцца да 15 кастрычніка 2018 года.**

**Падрабязная інфармацыя аб Праграме:**

**https://www.nck.pl/dotacje-i-stypendia/stypendia/programy/gaude-polonia**

Нацыянальны цэнтр культуры ў Варшаве
тэл. +4822 3509530, e-mail: bberdychowska@nck.pl

Польскі Інстытут у Мінску
тэл. +37517 2006378, 2009581



Ministerstwo Kultury i Dziedzictwa Narodowego.

NARODOWE CENTRUM KULTURY

Польскі Інстытут Мінск



НЯСВІЖ

НАЦЫЯНАЛЬНЫ
ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ
МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК

# Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж»

- Экскурсійнае абслугоўванне па гісторыка-архітэктурным помнікам Нясвіжа, па пастаянных экспазіцыях Палацавага ансамбля, Ратушы
- Прадастаўленне аўдыягідаў
- **New!** Начная экскурсія-анімацыя
- Арэнда залаў для правядзення канферэнцый, семінараў, пасяджэнняў і іншых мерапрыемстваў
- Тэатралізаваныя цырымоніі віншавання маладых
- Фотасесіі, фота ў княжых строях
- Правядзенне квэстаў, канцэртаў, экскурсій-анімацый, спектакляў (па замове)
- Арэнда катэджа
- Крамы сувеніраў і эксклюзіўных падарункаў

**Інфармацыйна-касавы цэнтр:**
тэл. +375 1770 20602,
+375 29 5518051, +37529 1903249,
e-mail: excursions@niasvizh.by

З больш падрабязнай інфармацыяй можна азнаёміцца на афіцыйным сайце **www.niasvizh.by** і на старонках музея-запаведніка ў сацыяльных сетках.

FOTO-ROMASHKA, WIKIMEDIA COMMONS

ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА
«НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ
МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК "НЯСВІЖ"»
УНП 600207920